ІХ БАЦЬКІ БЫЛІ ВЯЛІКІМІ ДЗЕЯЧАМІ. А ЯК СКЛАЛАСЯ ЖЫЦЦЁ ДЗЯЦЕЙ?



НАШЧАДКІ ПРУСАЎ
ДЗІВОСНАЯ ГІСТОРЫЯ ВЫЖЫВАННЯ БАЛЦКАГА АНКЛАВА КАЛЯ ЛІДЫ

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

# Наша Гісторыя

МАЙСЕЙ ГУТМАН: ЯЎРЭЙ, ШТО СТАЯЎ ЛЯ ВЫТОКАЎ БНР

№ 2 – 2019

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

## ЗАГАДКА ПАРТРЭТА ЯНУША РАДЗІВІЛА




«ЖЫЦЦЁ, ЮРА, ГЭТА МОКРАЯ ПАЛУБА». ЧАМУ АНДРОПАЎ НЕ ЎРАТАВАЎ СССР

АЛЕСЯ ЛУЦКЕВІЧ: УНУЧКА — ПРА ДЗЕДА АНТОНА

БАРЫС БЕРАЗОЎСКІ: ГЕНІЯЛЬНЫ МАНІПУЛЯТАР

НОВЫЯ КОМІКСЫ: ВАМПІРЫ Ў МІНСКУ... ФРАНЦЫСК. СОН...

16+

Наша Гісторыя
2/2019
www.history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Паўліна Скурко, кандыдат гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — фрагменты партрэта магната Януша Радзівіла (аўтар — Даніэль Шульц) з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі да рэстаўрацыі і пасля яе.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 11.02.2019.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0128/19.
Наклад 6 400 асобнікаў.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014 да 9.03.2019.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

**Дзякуй, што вы з намі!**

Прайшло паўгода ад выхаду першага нумара «Нашай гісторыі». Тэрмін, вядома, недастатковы, каб рабіць глабальныя высновы, але падзяліцца ўражаннямі і назіраннямі — самы час.

Калі мы браліся за справу, то і галавой, і сэрцам разумелі, што такога выдання ў Беларусі бракуе. Але ўсё ж хваляваліся: ці не занадта аптымістычныя нашы ацэнкі, ці не завышаныя чаканні? Пазітыўная рэакцыя людзей і добрыя вынікі падпіснай кампаніі засведчылі, што не.

А галоўнае, што натхняе, — у нас ад пачатку ўсталявалася пастаянная зваротная сувязь з чытачамі. Ад таго моманту, калі з'явілася інфармацыя пра выхад першага нумара, мы рэгулярна атрымліваем водгукі. Публічныя пасты ў сацыяльных сетках, тэлефонныя званкі, электронныя і звычайныя лісты, публікацыі ў СМІ — літаральна праз усе даступныя каналы сувязі да нас сцякаюцца думкі і пажаданні чытачоў. Змест іх — розны. Гэта і словы падзякі, і крытычныя заўвагі да афармлення і зместу, і ўдакладненні. Таксама чытачы актыўна прапануюць новыя тэмы і ўласныя тэксты. Нейкія з іх ужо апублікаваныя, а іншыя з'явяцца ў найбліжэйшы час.

Цешыць тое, што для некаторых прачытанае стала стымулам, каб зацікавіцца гісторыяй уласнай сям'і ці мясцовасці. Успомніць самім ці распытаць старэйшых, якія гісторыі звязаныя са старымі рэчамі, што даўно ўжо не выконваюць сваёй функцыі, але зберагаюцца ў сям'і як памяць пра продкаў. Удакладніць, хто выяўлены на старых фотаздымках. Задумацца пра тое, кім былі не нечыя, а ўласныя дзяды-прадзеды, ці не было ў іх жыцці такіх жа захапляльных падзей? Адгэтуль зусім недалёка, каб з чытача зрабіцца аўтарам часопіса. Што мы вітаем і заахвочваем.

Галоўная характарыстыка нашай сённяшняй аўдыторыі — яна вельмі разнастайная. У ёй і прадстаўнікі старэйшага пакалення, і людзі сярэдняга ўзросту, і зусім маладыя. Гэта людзі з розных рэгіёнаў, розных прафесій, вернікі ўсіх канфесій і атэісты, прадстаўнікі розных этнічных супольнасцяў. Усё гэта не можа не цешыць, бо ад пачатку мы ставілі задачу выдаваць часопіс для як мага большай аўдыторыі. Яднаць грамадства — адна з галоўных мэтаў «Нашай гісторыі».


14


40


32


УКРАИНЦЕВ и РУССКИХ КЛИЧ ОДИН –
РОСТА
ПАН НАД РАБОЧИМ ГОСПОДИН!
25














8
САКАВІКА
Са святам!




# Іх бацькі былі знакавымі беларускімі дзеячамі

# А як склалася жыццё дзяцей?

**Беларусы першай паловы XX стагоддзя раслі ў эпоху вялікіх зменаў. Бывала так, што бацькі яшчэ не ўсведамлялі сябе беларусамі, а дзеці — ужо так. Але бывала і наадварот. Па-рознаму было і ў сем'ях лідараў нацыянальнага адраджэння. Піша гісторык Антон Рудак.**

### Чужая бацькаўшчына

У прэм'ер-міністра БНР Вацлава Ластоўскага ад шлюбу з літоўкай Марыяй Іваноўскай было дзве дачкі: Ганна і Станіслава. Марыя разам з сястрой Сафіяй пісала пад псеўданімам Лаздзіну Пяле́да, што па-літоўску значыць «Сава з арэшніку» — іх творы зрабіліся класікай літоўскай дзіцячай літаратуры.

Шлюб Ластоўскіх выявіўся недаўгавечным: да пачатку Першай сусветнай вайны муж і жонка ўжо не жылі разам.

Адам Мальдзіс сведчыць, што малодшая дачка, Станіслава, якая пазней жыла ў Коўне, Ластоўскага за бацьку не лічыла. Сцвярджаюць, што нібыта сапраўдным бацькам Станіславы Ластоўскай быў Янка Купала, які ў афіцыйным шлюбе з Уладзіславай Станкевіч, як вядома, дзяцей не меў.

Што тычыцца старэйшай дачкі, Ганны Ластоўскай (яна ж Она Главацкене), то яна з часоў Першай сусветнай вайны жыла ў Менску, займалася перакладамі на літоўскую мову і нават планавала напісаць успаміны (як цытуе Мальдзіс — «у піку Мядзёлцы»). Адам Мальдзіс піша, што Ганна жыла на праспекце, у доме, дзе знаходзіцца крама

**Якуб Колас са сваякамі.** Юрка і Даніла крайнія злева і справа ў другім шэрагу, Міхась — другі справа ў першым.

«Антыквар» (пр. Незалежнасці, 43). Там жылі па вайне розныя дзеячы культуры. Падрабязнейшых звестак пра асабістае і грамадскае жыццё абедзвюх Ластавічанак, аднак, не выяўлена.




**Іван Краскоўскі** з дачкой Людмілай.

## Малодшая дачка Ластоўскага лічыла сваім сапраўдным бацькам Янку Купалу

### Дзеці класікаў

Што Янка Купала афіцыйна дзяцей не меў — вышэй ужо казалася. А вось у Якуба Коласа з жонкай Марыяй Дзмітрыеўнай было трое сыноў: Даніла, Юрка і Міхась. Даніла стаў хімікам, пасля — першым дырэктарам музея Якуба Коласа, пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску. Юрка (Георгій) прапаў без вестак на фронце пад Вязьмай увосень 1941-га. Малодшы ж сын, Міхась, яшчэ жывы — ён доктар тэхнічных навук і дагэтуль, нягледзячы на паважны ўзрост (93 гады), нярэдка ўдзельнічае ў беларускіх культурных мерапрыемствах.




**Дзеці Мітрафана Доўнар-Запольскага** — Вячаслаў, Усевалад і Ірына. 1910-я гады.

У яшчэ аднаго славутага беларускага пісьменніка, Змітрака Бядулі (Самуіла Плаўніка), дзяцей было двое — Зоя (Зора) і Яфім. Зоя памерла ў 1975 годзе, а Яфім (народжаны ў 1934 годзе) яшчэ жыве. Па адукацыі Яфім Плаўнік інжынер, і ён робіць усё магчымае для зберажэння памяці пра свайго бацьку, у прыватнасці, спрабуе ажыццявіць ідэю пераносу ягонага праху з далёкага казахстанскага Уральска, дзе магілу ніхто толкам не даглядае, на радзіму.

### Вуліца малодшага сына

У беларускага гісторыка, прыхільніка БНР Мітрафана Доўнар-Запольскага было трое дзяцей: Вячаслаў, Усевалад і Ірына.

Усевалад, адвучыўшыся ў Кіеўскім універсітэце, дзе выкладаў ягоны бацька, у 1917 годзе зрабіўся актыўным бальшавіком і ўзначаліў у Кіеве атрад Чырвонай гвардыі. У 1919-м ён памёр у Гомелі ад тыфу, а ў Кіеве ягоным іменем была названая вуліца. У 2015 годзе падчас дэкамунізацыі быў знойдзены элегантны выхад з гэтай сітуацыі — вуліцу імя сына перайменавалі ў гонар бацькі.

Малодшы сын, Вячаслаў, таксама загінуў у шэрагах Чырвонай Арміі. Сам Мітрафан Доўнар-Запольскі і надалей падтрымліваў ідэю беларускай дзяржаўнасці ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі, а лёс ягоных сыноў ніяк не паўплываў на тое, што ў 1920-я ў БССР іх бацьку абвінавацілі ў нацдэмаўшчыне, а ягоныя навуковыя канцэпцыі жорстка крытыкавалі.

### Грамадзянка Чэхаславакіі

Як і ў Доўнара-Запольскага, з Кіевам пэўны час была звязаная біяграфія беларуса Івана Краскоўскага, вядомага тым, што ён паспеў папрацаваць ва ўрадах адразу дзвюх маладых дзяржаў — Беларускай Народнай Рэспубліцы і Украінскай Народнай Рэспубліцы.

## Доўнар-Запольскі змагаўся з бальшавізмам, а яго сыны сталі зацятымі бальшавікамі

Пасля гэтага лёс Краскоўскага склаўся дастаткова стандартна для беларускага адраджэнца тых часоў — педагагічная праца ў Вільні і Дзвінску, пераезд у БССР, затым турмы і лагеры... Ягоная ж дачка Людміла ў 1920-я гады паехала вучыцца ў Прагу, дзе скончыла філасофскі факультэт Карлавага ўніверсітэта. У Чэхаславакіі яна і пражыла ўсё наступнае жыццё ▶




**Алена Равенская і Ісай Казінец.**

(а жыла яна больш за 90 гадоў), працуючы ў Славацкім краязнаўчым музеі ў Браціславе. Менавіта ў яе дажываў пару апошніх гадоў свайго шматпакутнага жыцця бацька, выпушчаны пасля смерці Сталіна з савецкага канцлагера. Наяўнасць дачкі — грамадзянкі іншай дзяржавы, дала яму магчымасць атрымаць дазвол на выезд з СССР.

### Каханая Казінца

Кампазітар Мікола Равенскі толькі цудам пазбег рэпрэсій: аднаго ягонага брата расстралялі бальшавікі ў 1937-м, другога — немцы ў 1941-м. Ягоная ж дачка Алена ў акупаваным Менску была сувязной камуністычнага падполля, а акрамя таго — каханай кіраўніка першага складу менскага падполля Ісая Казінца. Цікава, што звычайна ў мемуарнай літаратуры яна згадваецца як *«Лёля Ревинская»* — ці то па недакладнасці, ці то каб пазбегнуць асацыяцый з «нязручным» бацькам. У сакавіку 1942 года Алена была арыштаваная разам з Казінцом і ўлетку таго ж года расстраляная.

Равенскі пасля гэтага выехаў з Менска ў Чэрвень, дзе быў рэгентам царкоўнага хору, а пасля адступіў з немцамі на Захад — жонка з малодшымі дзецьмі ехаць з ім адмовілася. Іншая дачка, Вольга, пайшла па бацькавых слядах і стала салісткай хору Беларускага радыё і тэлебачання.

Мікола Равенскі зрабіўся вядомым найперш як аўтар нацыянальнага гімна «Магутны Божа», напісанага на словы Наталлі Арсенневай.

### Загінуў пры выбуху ў Купалаўскім

У паэткі Наталлі Арсенневай і вайскоўца Францішка Кушаля было двое сыноў — Яраслаў і Уладзімір. Жыццё аднаго з іх таксама абарвалася трагічным чынам у акупаваным Менску.

## Дачку Равенскага, падпольшчыцу, расстралялі немцы, але сам Равенскі мусіў разам з немцамі адступаць на Захад, каб не трапіць у рукі саветаў

Яраслаў Кушаль 22 чэрвеня 1943 года аказаўся сярод ахвяраў выбуху ў Менскім гарадскім тэатры (цяпер тут Купалаўскі). Выбух зладзілі партызаны, якія спадзяваліся забіць генеральнага камісара Вільгельма Кубэ — але ён на спектаклі нават не з'явіўся. Ды і ўвогуле, у зале амаль не было немцаў, толькі менчукі, пераважна моладзь — у той дзень у тэатры было ўрачыста абвешчана пра стварэнне Саюза беларускай моладзі. У апошні момант выканаўцы спрабавалі зняць міну, але ім гэта не ўдалося. У выніку выбуху загінулі 13 чалавек, якія былі пахаваныя на Вайсковых могілках, на рагу вуліц Даўгабродскай і Берасцянскай. Трое ахвяраў апазнаныя не былі — мяркуюць, што гэта выканаўцы тэракта, якія, магчыма, у апошні момант імкнуліся яго прадухіліць.

### Іваноўскія, праведнікі

Вацлаў Іваноўскі, найперш вядомы як заснавальнік беларускага выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца», меў трох братоў: двое з іх, Юры (Ежы) і Станіслаў, усведамлялі сябе палякамі, а яшчэ адзін, Тадэвуш (Тадас), — літоўцам. Не дзіва, што ў такіх умовах дачка Вацлава Іваноўскага, Ганна, падчас нямецкай акупацыі сведчыла, што ейны бацька нібыта толькі «прыдумаў сабе», што ён беларус, а насамрэч з'яўляецца палякам.

Ганна разам з маці Сабінай (першай жонкай Іваноўскага) у 2001 годзе атрымалі тытул праведнікаў народаў свету: у 1941 годзе, выязджаючы з Вільні ў Менск на пасаду бурмістра, Іваноўскі даручыў былой жонцы і дачцэ вывезці з горада ў свой маёнтак дзвюх яўрэек, такім чынам выратаваўшы іх ад смерці. Сам ён быў забіты ў снежні 1943 года на вуліцы ў Менску — хутчэй за ўсё, гэта была правакацыя нямецкіх карных органаў.

Іваноўскі сапраўды спачуваў падполлю. Вільгельм Кубэ заплюшчваў




**Зоф'я Абрамовіч і Антон Луцкевіч** з сынамі Юркам і Лявонам.

вочы на кантакты Іваноўскага з Арміяй Краёвай, але СС, прыбраўшы ў верасні 1943-га нязручнага для іх Кубэ, у снежні таго ж года прыбрала і Іваноўскага, расчышчаючы дарогу да лідарства свайму пратэжэ — Радаславу Астроўскаму, які акурат у той час з'явіўся ў Менску, уцякаючы ад наступу савецкага войска.

### Разведчыкі Луцкевічы

Юрка і Лявон — сыны аднаго з пачынальнікаў беларускага руху Антона Луцкевіча. Жонка Луцкевіча, Зоф'я Абрамовіч, была габрэйкай, таму дзеці, паводле нацысцкіх законаў, лічыліся «мішлінге» — мяшанцамі.

Браты скончылі Віленскую беларускую гімназію, Юрка пасля сканчэння тэхнічнай вучэльні адслужыў у афіцэрскай школе, у 1939-м трапіў у палон і пасля гэтага працаваў у Вільні электраманцёрам.

Юрка і Лявон падчас нямецкай акупацыі настаўнічалі, жылі спачатку ў Радашкавічах, а пасля — у Баранавічах.

Пасля адступлення немцаў з Беларусі яны разам з вялікай групай беларускай моладзі апынуліся ў нямецкай разведшколе ў Дальвіцы (цяпер — Калінінградская вобласць Расіі). Беларускія нацыяналісты спадзяваліся выкарыстаць гэтую падрыхтоўку для стварэння беларускага войска. У іх было спадзяванне, што вайна скончыцца разгромам і Гітлера, і Сталіна, а перамогуць заходнія дэмакратыі. З гэтым і звязвалі надзеі на незалежнасць Беларусі.

У выніку абодва браты былі арыштаваныя саветамі ў Беластоку ў 1945 годзе і асуджаныя на шматгадовыя тэрміны зняволення ў лагерах.

Юрка і Лявон Луцкевічы да скону заставаліся палымянымі патрыётамі і моцна радаваліся абвяшчэнню Беларуссю незалежнасці ў 1991-м. Лявон Луцкевіч напісаў цудоўную кнігу пра беларускую Вільню — «Вандроўкі па Вільні».

### Сын айца БССР працаваў на СД?

Антон Шантыр быў сынам беларускай паэткі Людвікі Войцік (Зоські Верас) і Фабіяна Шантыра, падпісанта маніфеста БССР, расстралянага бальшавікамі за «злоўжыванне службовым становішчам» на пасадзе кіраўніка справамі харчовай камісіі ў Чырвонай Арміі.

Як і браты Луцкевічы, падчас нямецкай акупацыі Беларусі Антон




**Леаніла Чарняўская і Максім Гарэцкі** з дзецьмі Леанідам і Галінай. 1923 год.

апынуўся на нямецкім баку. Напрыклад, нячастае прозвішча Шантыр згадваецца сярод найбліжэйшых памочнікаў начальніка палітычнага аддзела менскага СД Шлегеля ў справе стварэння фіктыўнага «Цэнтральнага камітэта вызвалення Заходняй Беларусі», які ў 1944 годзе мусіў падпарадкаваць сабе савецкія

## Арыштаваны савецкімі органамі дзяржбяспекі, Антон Шантыр некалькі гадоў прыкідваўся немцам

партызанскія злучэнні і аддаць ім загад выступіць супраць наступаючай Чырвонай Арміі. Існуе легенда, што, арыштаваны савецкімі органамі дзяржбяспекі, Антон Шантыр некалькі гадоў прыкідваўся немцам, але ў выніку, як піша Сяргей Ёрш паводле сведчанняў палітвязня Пятра Рашэтніка, падчас зняволення быў выкрыты нямецкім афіцэрам абверу і атрымаў 25 год лагераў.

### Віленскія гімназісты

Па-рознаму складваліся ваенныя лёсы дзяцей выкладчыкаў Віленскай беларускай гімназіі.

Сын Максіма і Леанілы Гарэцкіх, Леанід, нарадзіўся ў 1922 годзе і рос у СССР, куды праз год выехалі бацькі. Падчас нямецка-савецкай вайны ён быў у Чырвонай Арміі і загінуў у 1944-м пад Ленінградам. Дарэчы, у Максімавага брата, геолага Гаўрылы Гарэцкага, было двое сыноў — Усяслаў і Радзім. Абодва пайшлі па бацькавых слядах, зрабіліся вядомымі навукоўцамі — Усяслаў памёр у 2009-м, а Радзім яшчэ жыве.

Сын Алены Сакаловай-Лекант, якая 25 гадоў выкладала ў гімназіі беларускую мову, Анатоль, быў на пачатку акупацыі прызначаны немцамі бурмістрам Беразіна, трапіў у няміласць да немцаў, ледзь не сышоў у партызанку, але ў выніку пакінуў Беларусь ужо афіцэрам Беларускай краёвай абароны і памёр у эміграцыі.

Глеб Багдановіч, сын сенатара польскага парламента Вячаслава Багдановіча, расстралянага бальшавікамі ў 1939 годзе, пры канцы нацысцкай акупацыі апынуўся ў шэрагах дыверсантаў разведшколы ў Дальвіцы, дэсантаваўся ў Беларусі ▶




**Гаўрыла Гарэцкі** з сынамі Радзімам і Усяславам.

▶ 17 лістапада 1944 года ў складзе групы Міхала Вітушкі, трапіў у партызанскі атрад Арміі Краёвай, потым легалізаваўся і быў арыштаваны ў 1949-м у Польшчы. Пасля лагераў ён працаваў доктарам і памёр у 1971 годзе ў Рудзенску.

Акрамя таго, у 1932 годзе Віленскую беларускую гімназію скончыў сын будучага лідара Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі Фабіяна Акінчыца, забітага ў Менску ў 1943, — Кастусь. Паводле дакументаў, адшуканых аўтарамі часопіса «Беларускі рэзыстанс», Канстанціну Акінчыцу ў студзені 1945 года была нададзена ранга лейтэнанта — праўдападобна, ён служыў у нейкай з беларускіх вайсковых частак, створаных пасля адступлення немцаў з Беларусі, а пазней апынуўся на эміграцыі ў ЗША.

### Партызан Тарашкевіч загінуў на Паліку

Сын дэпутата польскага Сейма і стваральніка беларускай граматыкі Браніслава Тарашкевіча, Радаслаў, нарадзіўся ў 1925 годзе ў Радашкавічах. Гэтае імя ў той час было папулярнае. Напрыклад, Радаславамі звалі сыноў беларускіх пралетарскіх паэтаў Міхася Чарота і Андрэя Александровіча.

Палякі да канца 1930-х гадоў беларускія гімназіі пазачынялі, і Славік Тарашкевіч пайшоў вучыцца ўжо ў польскую гімназію імя Тамаша Зана ў Маладзечне. Пасля прыходу немцаў ён працаваў у аддзеле па зборы падаткаў, а адначасова быў звязаны з савецкім падполлем. У 1943-м яго папярэдзілі пра немінучы арышт і тэрмінова перапраўлілі ў лес, і ў чэрвені 1944 года, перад самым вызваленнем Беларусі, Радаслаў загінуў у складзе брыгады «Штурмавая» падчас блакады партызанскай зоны ля возера Палік.

Пахаваны ён быў у брацкай магіле ў Бягомлі, але пра гэта стала вядома толькі ў 2015 годзе. Да таго часу сваякі ўшаноўвалі памяць Радаслава Тарашкевіча ля кенатафа, усталяванага на радашкавіцкіх могілках.

## Сын Якуба Коласа прапаў без вестак на фронце, а сын Тарашкевіча загінуў у партызанах перад самым вызваленнем

Як можна заўважыць, лёс дзяцей айцоў адраджэння не заўжды быў прадказальны, а часам нават кардынальна разыходзіўся з досведам папярэдняга пакалення. Жыццёвы шлях дзяцей такіх бацькоў не быў лёгкім. Зрэшты, нялёгкі тады быў і сам час. ◆




**Вера Снітка, Браніслаў Тарашкевіч** і іх сын Славік.

Алеся Луцкевіч з сынам Янам.

# «Мама была камсамолка, а тата зэк. Я чытала перапіску спецслужбаў і разумела, што нас увогуле не павінна было быць»

## — расказвае ўнучка Антона Луцкевіча

**Алеся Луцкевіч — унучка Антона Луцкевіча, вызначальнай постаці гісторыі Беларусі, дачка яго сына Юркі. Яна з'явілася, калі бацьку было 49 гадоў. Нарадзілася і жыве ў Вільні. Замужам за беларусам, мастаком Алесем Пакладам. Іх сын Ян вучыцца ў Англіі, вывучае міжнародныя адносіны.**

Алеся — віленская беларуска ў трэцім пакаленні. У яе вельмі чыстая мова, выкшталцоная, нібы са старонак заходнебеларускай прэсы 1920-х. Слухаеш яе і разумееш, што вось так гаварылі Луцкевічы і Ластоўскі, Купала і Драздовіч. Вось з такімі, амаль страчанымі ўжо інтанацыямі.

Пры гэтым Алеся Луцкевіч — настаўніца літоўскай мовы для дзяцей з парушэннямі слыху. Яе прафесія называецца сурдапедагог. Яе вучні — дзеткі з усіх рэгіёнаў Літвы. Алеся кажа: цікава прыкмячаць беларускія словы ў розных літоўскіх дыялектах.

Хоць і жыла ўсё жыццё ў Вільні, адукацыю яна атрымала ў Менску, у педуніверсітэце. Для бацькі было важна, каб дачка вучылася менавіта ў Беларусі.

**— КАЛІ Я ПРЫЕХАЛА ВУЧЫЦЦА Ў МІНСК, У МЯНЕ БЫЎ КУЛЬТУРНЫ ШОК:** усе вакол размаўлялі па-расейску. А бацька да ўсіх звяртаўся па-беларуску, ▸

► і цікава было назіраць, як у гаворцы суразмоўца паступова з'яўляліся беларускія словы.

Я працавала і вучылася завочна. На дзённым я вучыцца не магла, не было такіх фінансавых магчымасцяў — мае бацькі памерлі, калі я была ва ўніверсітэце. Калі паступала, мама ўжо была хворая.

Менск мне не вельмі спадабаўся. Пасля Вільні ён быў няўтульны. Мне не падабалася, што незнаёмыя людзі могуць да цябе загаварыць, у нас гэта не было прынята. Не падабалася Траецкае прадмесце, яно было такое штучнае. Але час быў вельмі цікавы, я вучылася на добрым факультэце з вельмі добрымі выкладчыкамі, у мяне былі сябры.

Я не мусіла вучыць беларускую мову і літаратуру, здаваць па іх іспыты, але я вучыла і здавала. У першай дыктоўцы нарабіла шмат памылак. Калі паведаміла бацьку колькі, ён сказаў: «Гэта жах». Але ўсе астатнія студэнты былі з Беларусі, а некаторыя зрабілі памылак больш за мяне.

**Я ПАМЯТАЮ СВАЁ ДЗЯЦІНСТВА, ГЭТА БЫЛА ФАНТАСТЫКА.** Я мела тату, які вельмі добра ўмеў слухаць. Ты заўсёды адчуваў сябе патрэбным. Мне зараз успомніўся такі выпадак. Я прачытала нейкі фантастычны твор і, калі мы з татам пайшлі на шпацыр, стала яго пераказваць. Ён цярпліва выслухоўваў, задаваў пытанні і хваліў: «Як ты цікава мне распавяла! Я ніколі не прачытаў бы сам, а праз цябе цяпер я ведаю...» І толькі потым я даведалася, што ён проста не выносіў фантастычную літаратуру!..

Тата быў вельмі талерантны і ставіўся да нас як да асобаў, хоць мы былі маленькія. І быў вельмі шчаслівы, што мы ў яго нарадзіліся. Бо было зроблена ўсё, каб знішчыць сям'ю, каб не было ніякіх нашчадкаў. Мы з братам у архіве бачылі перапіску КГБ БССР і Літвы наконт таго, чым займаюцца браты Луцкевічы... І тады я зразумела, што, напэўна, нас увогуле не павінна было быць.

**БАЦЬКА МАЛА РАСКАЗВАЎ ПРА ЛАГЕР. МЫ ВЕДАЛІ ХІБА, ШТО Ў ЯГО БЫЛА ДЫСТРАФІЯ.** Таму тое, што ён выжыў, — гэта цуд. Ён яшчэ апавядаў, што быў вельмі цудоўны дзень, калі ўсе даведаліся, што Сталін памёр. Гэта было свята.



**Юры Луцкевіч** з дачкой Алесяй і сынам Іванам, 1970-я.

**ТАТА КАЗАЎ, ШТО ЯМУ ВЕЛЬМІ ПАШЭНЦІЛА, ШТО ЁН ТРАПІЎ У ТОЙ ЛАГЕР, ДЗЕ САБРАЛІ САМЫХ АДУКАВАНЫХ ЛЮДЗЕЙ, САМЫХ ЦІКАВЫХ.** Казаў, што іначай ніколі б у жыцці з імі не пазнаёміўся. Так, ён умеў бачыць плюсы... Ён быў вельмі цікавы чалавек, душа кампаній і вялікі аптыміст. Вельмі дзіўна, што чалавек можа захавацца такім адкрытым пасля лагера, пасля такога страшнага жыцця, калі трэба было толькі выжыць.

**КАЛІ ТАТА ВЯРНУЎСЯ Ў ВІЛЬНЮ, ТУТ УЖО НІКОГА СА ЗНАЁМЫХ НЕ ЗАСТАЛОСЯ.** Яны самі сябе называлі «віленскія недабіткі» — тыя, хто выжыў і вярнуўся. Пасля вайны тут абсалютова змянілася насельніцтва.

**У ДЗЯЦІНСТВЕ ТАТА ЗАЎСЁДЫ ХАДЗІЎ СА МНОЙ 25 САКАВІКА НА ЛУКІШСКУЮ ПЛОШЧУ ПАКЛАСЦІ КВЕТКІ НА МЕСЦА, ДЗЕ БЫЎ ПАКАРАНЫ КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ.** Мы хадзілі толькі ўдваіх. І я ўжо тады ведала, што там ніхто не пахаваны — тата казаў, што паўстанцаў пахавалі на Замкавай гары. Заўсёды ў гэты дзень мы неслі на Лукішкі два белыя і адзін чырвоны гваздзікі. А ўвогуле тата і мама любілі хрызантэмы.

**У ЛІТАРАТУРЫ ТАТА ВЕЛЬМІ ВЫСОКА СТАВІЎ БЫКАВА.** Любіў Караткевіча. Кнігі мне чытаў па-беларуску з дзяцінства. Памятаю, напрыклад, Янку Маўра. Ён увогуле займаўся маім выхаваннем, вельмі стараўся ўсё перадаць, дбаў пра гэта. Мы з братам чыталі заўсёды вельмі шмат і рознае.

**МОЙ ТАТА ЛЮБІЎ КЛАСІЧНУЮ МУЗЫКУ.** Песень у нас не пялі, сям'я была не пявучая. Бацька са смехам апавядаў, што, калі вучыўся ў гімназіі, настаўнік музыкі яму сказаў: «Ну што, Юрка, голасу няма, слых не развіты». Але цікава, што мой брат

**Юры Луцкевіч**

сын знакамітага беларускага дзеяча Антона Луцкевіча. Нарадзіўся ў Вільні ў 1920 годзе. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, Віленскае тэхнічнае вучылішча. У канцы 1930-х вучыўся ў Варшаўскай палітэхніцы, ды быў забраны ў польскую афіцэрскую школу. У верасні 1939-га трапіў у нямецкі палон, але вызваліўся ці змог уцячы. У гэты час НКВД арыштаваў яго бацьку. Больш яны не ўбачацца. У гады акупацыі 20-гадовы Юрка быў дырэктарам школы ў Радашковічах, настаўнічаў у Баранавічах. Удзельнічаў у нацыянальным падпольным руху. У 1944-м яго забралі выкладчыкам у школу ў Дальвіцы. Вясной 1945-га перабраўся ў Польшчу. Пасля заканчэння вайны разам з братам Лявонам працаваў у Варшаве, у Бюро адбудовы сталіцы. Арыштаваны ў Варшаве ў канцы 1945-га. Асуджаны на 25 гадоў лагераў. Зняволенне адбываў на Калыме. Там праз пэўны час, дзякуючы гімназічнаму веданню лаціны, быў прызначаны лагерным фельчарам. Вызвалены пасля смерці Сталіна, вярнуўся ў 1957-м. Спярша жыў у горадзе Лентварыс, бо не меў права вяртацца ў Вільню. Працаваў электраманцёрам. Памёр у 1992 годзе. Пахаваны ў Віленскім раёне, на могілках Карвелішкі на беразе Віліі.

мае добры слых, скончыў музычную школу. Яшчэ тата вельмі-вельмі любіў выглядаць добра, элеганцка. Але магчымасці ў той час былі абмежаваныя... Вы пытаеце, што ён любіў есці. Ведаеце, людзі, якія лагер прайшлі, радуюцца ўсякай ежы. Але, напэўна, улюбёнай бацькавай стравай былі дранікі. Мая мама смачна гатавала, і ён вельмі цаніў гэта.

**МАЯ МАМА З РАСЕІ, ЯНА БЫЛА КАМСАМОЛКА, ЯКАЯ ПАЕХАЛА ПРАЦАВАЦЬ НА КАЛЫМУ.** А тата быў зэк. Яны пазнаёміліся, потым тата вызваліўся, вярнуўся ў Вільню, а яна прыехала да яго. У той час маміна сям'я жыла ў Маскве. Пра татавы ідэі мама ўсё ведала і ўсё гэта вельмі шанавала. Яна спрабавала вывучыць беларускую мову, але расейцам цяжка. І заўсёды, калі прыязджалі нейкія гісторыкі, госці, яна прасіла прабачэння, што не можа гаварыць да іх па-беларуску.

**МАМА ВЕДАЛА ЎСЮ ГІСТОРЫЮ НАШАЙ СЯМ'І ЯШЧЭ ДА ТАГО, ЯК ВЫЙШЛА ЗАМУЖ.** А хто былі маміны бацькі, я нават дакладна не ведаю, мы мала падтрымлівалі сувязі. У іх былі іншыя ўнукі, а мы былі «не рускія», нас не лічылі такімі ўжо блізкімі. Нам былі заўсёды бліжэйшыя татавы кузынкі: Марыя Чапялёва ў Пецярбурзе і Яніна Каханоўская ў Нью-Ёрку. Гэта дочкі Эміліі Шабуні, сястры Антона Луцкевіча.



**Юры Луцкевіч моцна сябраваў з мастаком Пётрам Сергіевічам, і Сергіевіч намаляваў для сябра партрэты яго бацькі і дачушкі.** «Ён жыў на Антокалі, недалёка ад нас. Мы з татам часта заходзілі да яго ў майстэрню. Калі Сергіевіч маляваў алоўкам мой партрэт, мне было 3 гады, і, памятаю, я вельмі старалася пазіраваць», — успамінае Алеся.

## У дзяцінстве тата заўсёды хадзіў са мной 25 сакавіка на Лукішскую плошчу пакласці кветкі на месца, дзе быў пакараны Кастусь Каліноўскі

**У ЧАС ВАЙНЫ МОЙ ТАТА БЫЎ ДЫРЭКТАРАМ РАДАШКОВІЦКАЙ ГІМНАЗІІ.** Я сустракалася з адным яго вучнем. У 1991 годзе я была ў Нью-Ёрку і да мяне прыйшоў пазнаёміцца Янка Запруднік. Ён сказаў: «Гэта быў цудоўны настаўнік, крыху старэйшы за мяне».

**ПРА ВАЙНУ І ПРА НЕМЦАЎ БАЦЬКА АСАБЛІВА НЕ РАСКАЗВАЎ,** але пра сваю сям'ю і пра тое, як ён трапіў у лагер, мы ведалі з маленства. Мама казала: «Можа, асцярожней? Бо дзеці пойдуць у школу — і мы будзем мець вялікія непрыемнасці». Але ён заўсёды адказваў: мае дзеці такія разумныя, што яны ніколі нідзе не будуць гэта казаць. Ён распавядаў нам і пра тату, і пра маму, пра жыццё і дзяцінства ў Вільні.

**«ТАТА НАШ КАЗАЎ "ТАК", А МАМА КАЗАЛА "ДА"»,** — успамінаў тата. Яны жылі ў кватэры, палову якой займаў банк. Мая бабка, Зоф'я Абрамовіч, жонка Антона Луцкевіча, была педыятрам, атрымала адукацыю ў Францыі. Дзяцей глядзела тутэйшая жанчына, полька Пятруся. Яна Юрку з Лявонам вадзіла па касцёлах. Луцкевічы не былі рэлігійнай сям'ёй, дзяцей пахрысцілі, толькі калі прыйшла пара ў гімназію аддаваць. Антон іх вучыў ставіцца з павагай да любой рэлігіі. Сам ён змяніў веру, стаў кальвіністам, бо іначай не мог ажаніцца.

**МАЯ БАБКА ЗОФ'Я БЫЛА ГАБРЭЙКА (ЯЕ САПРАЎДНАЕ ІМЯ СЭРКА), АЛЕ ГАБРЭЙСКІХ ТРАДЫЦЫЙ У ІХ СЯМ'І НЕ ЗАСТАЛОСЯ НІКОЛЬКІ.** Яна памерла, калі тата меў 8 год. «Нават не было дзе прыйсці да мамы», — казаў ён мне. Калі вярнуўся з лагера ў Вільню, тыя габрэйскія могілкі былі ўжо зруйнаваныя.

**ТАТА І ДЗЯДЗЬКА ЛЯВОН ДА ПЭЎНАГА ЧАСУ НЕ ВЕДАЛІ РАСЕЙСКАЙ МОВЫ.** Іх навучылі сёстры мамы. На якой мове размаўлялі Антон з жонкай, я не ведаю. Але думаю, што там панавала беларуская.

**МНЕ ТАТА АПАВЯДАЎ ШМАТ, АЛЕ НЕ ТАК ШМАТ Я ВЕДАЮ ПРА АНТОНА.** Хоць уяўляю, што гэта быў за чалавек. Гэта была асоба, вельмі апантаная нацыянальнай ідэяй. Вельмі добры стратэг. Рэдкая з'ява, каб чалавек настолькі меў мэту і ўсё рабіў дзеля яе. І пры гэтым ён быў вельмі парадачны і вельмі адукаваны. Чалавек столькі разоў чалавек, колькі моў ён ведае. Антон ведаў восем моваў, Юрка шэсць, а далей мы ўсё менш. Я штодзень карыстаюся трыма мовамі, сын мой — чатырма. Але цяпер ужо мы маем іншы ўзровень адукацыі...

Гістарычныя абставіны склаліся няўдзячна, я маю падазрэнне, што магло быць па-іншаму. Так, як склалася ў літоўцаў, магло быць і ў беларусаў. Я думаю, што беларусы ў пераважнай большасці не ведаюць пра Луцкевіча. Усё рабілася для таго, каб ён быў забыты.

**ЯШЧЭ ЦІКАВЫ МОМАНТ ПРА МАЮ СЯМ'Ю.** Калі я нарадзілася, бацькі вельмі доўга вырашалі, якое мне даць імя, і, калі ўжо абралі імя Аляксандра, тата сказаў: «Мы ж можам называць яе Алеся, і, калі яна вырасце, яна можа запісацца беларускай». І мама адказала: «Чаму не, канечне». Гэта было вельмі істотна для іх. ◆

**Гутарыла Паўліна Скурко**

# «Таксама маю такі рарытэт»


Цэна асобнага нумэру 5 кап.
Год 1. Вильня 24 жніўня 1906 г. № 12
Гоман
Беларуская газэта выходзиць раз у тыдзень

Я каваль, але таксама збіраю ўсё цікавае, звязанае з беларускай гісторыяй.
У №1 (2019) у артыкуле «Газета 1906 года, якой ніколі не існавала» прачытаў, што на сёння вядома толькі пра два асобнікі газеты «Гоман». Рады вам паведаміць, што маю таксама такую газету.
Гэты рарытэт трапіў да мяне каля 15 гадоў таму. Адзін барысаўскі калекцыянер падарыў, ведаючы, што я цікаўлюся менавіта нацыянальнай спадчынай. Увесь гэты час я яго ашчадна захоўваў, думаючы, што маю адну з першых беларускамоўных газет пачатку XX стагоддзя. Сапраўдная гісторыя стварэння гэтай газеты робіць яе яшчэ больш унікальнай і цікавай.

**Алесь Панцялей, Барысаў**

# Маці генерала

Услед артыкулам пра генерала Платона Лячыцкага — яшчэ адна важная заўвага пра маці генерала. Яе звалі Соф'я Паўлаўна Крукоўская, а не Соф'я Паўлоўская. Пра Крукоўскую сказаў не я, а такі аўтарытэтны гісторык, як Леў Паеўскі, які асабіста ведаў Аляксея Лячыцкага.

**Аляксандр Ільін, Пінск**



# «Пад уплывам дзядзькі мой бацька стаў рэвалюцыянерам, сядзеў у польскай турме»

Хачу прапанаваць тэму — пра жыццё пад панскай Польшчай.
Мой бацька, Генадзь Іосіпавіч, пакінуў памятныя запіскі, дзе распавёў пра жыццё даваеннай вёскі на Кобрыншчыне. Тады быў вельмі моцны ўплыў КПЗБ. Уплыў дзядзькі (Валасюк Лука Трафімавіч, сакратар Кобрынскага райкама КПЗБ, які за падрыўную дзейнасць сядзеў у Картуз-Бярозе) зрабіў з майго бацькі сапраўднага рэвалюцыянера. Неаднаразова яго арыштоўвалі, і, каб не пачатак Другой сусветнай вайны, яму таксама свяціла Картуз-Бяроза (аб гэтым сведчаць копіі паліцэйскіх дакументаў, якія ёсць у мяне).


BELDUMKA.BY

**Вязні турмы ў Картуз-Бярозе ў дзень вызвалення.**

Аповеды маёй цешчы (ёй цяпер 94 гады) пра часы «пад Польшчай» таксама вельмі цікавыя.

**Анатоль Валасюк, Брэст**

**Ад рэдакцыі.** Дзякуй за цікавасць да нашага часопіса і прапанову супрацоўніцтва. Тэма нам цікавая, і калі Вы здолееце зрабіць фарматны для нашага часопіса артыкул па гісторыі сваёй сям'і, мы будзем радыя яго апублікаваць.

# «Толя Бутэвіч назваў наш курс "3-м беларускім"»

«У 2018-м годзе якраз споўнілася 50 гадоў, як наш курс — Алесь Разанаў, Лёва Бартош, Віктар Ярац — пачаў збіраць подпісы


Мы, студэнты 3-га курса аддзялення беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ імя У.І.Леніна, жадаем, каб усе лекцыі (за выключэннем спецдысцыплін) выкладаліся толькі на роднай мове.

за перавод усіх прадметаў на беларускую мову. Я таксама ўдзельнічаў у гэтай кампаніі, нас падтрымалі і выкладчыкі. У "Нашай гісторыі" № 5 я ўбачыў і свой подпіс пад знакамітым лістом! — расказаў настаўнік, былы кіраўнік горада Барань **Юрый Нагорны** парталу *orsha.eu*. — Мой сябра Толя Бутэвіч назваў нас "3-м беларускім", як паралель з 3-м Беларускім фронтам. Мы не паспелі яшчэ сабраць і здаць тыя подпісы, як выкладчык замежнай літаратуры па прозвішчы Міцкевіч ужо назаўтра стаў чытаць нам свой прадмет па-беларуску!
Беларускасць прышчаплялася і на спецкурсах, якія чыталі франтавік Міхась Ларчанка і Алег Лойка.

**«Мы не паспелі яшчэ дазбіраць тыя подпісы, як выкладчык стаў чытаць нам свой прадмет па-беларуску!»**

На юбілеі Ларчанкі я, тады студэнт 2-га курса, прачытаў свой верш, які, як казаў потым старшакурснік Міхась Губернатараў, вельмі спадабаўся Міхасю Рыгоравічу. Хаця я не магу параўнаць свае вершы з Янішчыц, Разанавым, мне да іх далёка.
А наконт ліста выйшаў вялікі скандал. Разанаў і Ярац сказалі, што ўзгаднялі яго з Максімам Танкам і той ухваліў ідэю. А рэзананс пайшоў такі, што нас сабралі ў актавай зале, прышылі нацыяналізм. А Алеся ж Разанава перад тым выбралі сакратаром камсамольскай арганізацыі курса...»

## «У мяне ёсць паэма “Дзяды”, прысвечаная маім дзядам Іосіфу і Міхаілу»

Атрымаў № 1 (2019) «Нашай гісторыі» і хачу выказаць вам вялікую падзяку. Прачытаў увесь часопіс, вельмі ўражаны яго зместам. Хачу даслаць вам некалькі сваіх вершаў на гістарычныя тэмы, можа, яны спатрэбяцца для друку. У мяне ёсць нават паэма «Дзяды», прысвечаная маім дзядам Іосіфу і Міхаілу.

**Уладзімір, Барысаў**

**Ад рэдакцыі.** Дзякуй за добрыя словы на адрас нашага часопіса, будзем старацца не расчараваць Вас і надалей. За дасланыя вершы дзякуй, з цікавасцю з імі азнаёміліся. На жаль, гэта не наш фармат, бо мы ўсё ж такі не літаратурны часопіс і вершаў асобна не друкуем. Але, магчыма, Вы маеце нейкія цікавыя матэрыялы з гісторыі Вашай сям'і, Вашай мясцовасці, штосьці цікавае з уласнай біяграфіі, нейкія старыя рэчы з цікавай гісторыяй, з імі звязанай? Калі так, то дасылайце. Напрыклад, можаце падрыхтаваць нешта накшталт таго, што ў №1 (2019) надрукавалі Святлана Курс пра Любаншчыну, Павел Булаты пра паездку ва Узбекістан ці Міхась Булавацкі пра дзядоў-хутаранцаў з Бабруйшчыны.

## «Клумаў быў такі чалавек, што закахацца можна»

Я вырасла ў Мінску, на вуліцы Маскоўскай, мая мама была доктарам у 3-й бальніцы. Таму, атрымаўшы часопіс, я адразу схапілася за Клумава. І не была расчаравана. Гэта быў такі чалавек, у якога можна было закахацца. Мне, аднак, засталося незразумела, у якім годзе ён нарадзіўся і колькі яму было гадоў, калі яго забралі немцы? І якой нацыянальнасці быў яго бацька: рускі, яўрэй?

Мяне таксама ўразіў артыкул пра Харватыю. Я харватамі зацікавілася летам, бо люблю добрую футбольную гульню. А яшчэ да гульні, калі я ўбачыла, як яны радасна, з натхненнем спяваюць свой гімн, — мяне ўзяла такая зайздрасць! Слёзы на вачах і радасць. Гэта такая спаянасць, сыгранасць, любоў — яны намагаліся паказаць краіну



**Калі ўбачыла, як харваты спяваюць свой гімн, — мяне ўзяла такая зайздрасць!**

ў найлепшым святле. У артыкуле мне толькі не хапіла карты Харватыі, каб зразумець, дзе яна знаходзіцца ў свеце.

У вашым часопісе я б хацела пабачыць матэрыялы пра Эдварда Вайніловіча, Яўстаха Любанскага, Язэпа Драздовіча. Дарэчы, помнік Драздовічу ў Траецкім прадмесці стварыў скульптар Ігар Голубеў. Гэта ці не адзіная студэнцкая выпускная работа, якая стала сталічным помнікам.

**Галіна Мікалаеўна, Мінск**

**Ад рэдакцыі.** Яўген Клумаў нарадзіўся 16 снежня 1878 года, а загінуў 13 лютага 1944-га. На момант смерці яму было 65 гадоў. Паходжанне яго бацькі дакладна невядомае.

## Адкуль назва Юзафова?

Добры дзень. Цікава даведацца, чаму Юзафова ў Смалявіцкім раёне атрымала такую назву.

**Надзея Мікалаеўна Іванова, мне 90 гадоў**

**Ад рэдакцыі.** Назва вядомая па дакументах з канца XVIII стагоддзя. Фальварак належаў Юзафу Тышкевічу, і назвалі яго адпаведна — Юзафова. «Фальваркам» тады называлі панскую гаспадарку або ферму, хутар на арандаванай ці выкупленай у пана зямлі. Вёска на месцы фальварка ўзнікла пасля рэвалюцыі. Цікава, што ў Юзафове тры гады правёў Янка Купала — яго бацька служыў у тутэйшым маёнтку. Сюды яго сям'я пераехала з Вязынкі.

## «Мой прадзед Макар ездзіў на заробкі ў Амерыку»

З вялікім задавальненнем чытаю «Нашу гісторыю». Мяне вельмі хвалюе адна тэма. Мая бабуля расказвала, што мой прадзед Макар яшчэ ў даваенны час ездзіў на заробкі ў Амерыку. Працаваў там на шахце. Зарабіў грошай, вярнуўся ў сваю родную вёску Сакалова Жабінкаўскага раёна, што на Берасцейшчыне. На зароблены грошы пабудаваў хату, якая стаіць і па сённяшні. На жаль, бабулі ўжо даўно няма і падрабязнасцей той паездкі я ўжо не даведаюся.

Можа б, вы маглі падрабязней расказаць, як адбывалася працоўная міграцыя ў Амерыку ў 1910–1920 гады, на якіх караблях плылі, дзе працавалі, колькі зараблялі, колькі вярталася назад і так далей. І цяпер паплыць у Амерыку — складаная рэч. Уяўляю, як складана гэта было раней.

Вялікі дзякуй за справу, якую вы робіце!

**Андрэй Шымко, в. Сакалова Жабінкаўскага раёна**

**Ад рэдакцыі.** Дзякуем Вам за ідэю і будзем думаць, як яе рэалізаваць.

## Умляўт — не гук!

Заўважыў рэдактарскую недакладнасць у матэрыяле пра «Пінскую шляхту» ў № 1(2019), дзе гаворыцца пра «гук умляўт» у пінскіх дыялектах. Умляўт — гэта марфаналагічная з'ява (не фанетычная!). Назваць умляўт гукам — гэта тое самае, што назваць «гексан» «крэкінгам» (гексан атрымліваецца ў выніку крэкінгу). Умляўт — гэта, умоўна кажучы, асіміляцыя, прыпадабненне каранёвага галоснага наступнай марфемнай часткі слова.

**Пятро Садоўскі, кандыдат філалагічных навук, Мінск**

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.



ЭДУАРД ПЕСАЎ, ТАСС



WID-M-2002.RU

Гэты юнак пройдзе доўгую дарогу ў Крэмль. **Але не паспее нацешыцца неабмежаванай уладай.**

*«Жыццё, Юра, гэта мокрая палуба»*

# Чаму АНДРОПАЎ не ўратаваў СССР

**Юрый Андропаў узначаліў СССР пасля Брэжнева. Некаторыя лічаць, што, каб яму здароўе, ён мог бы ўратаваць СССР. Але крыніцы гэтага не пацвярджаюць. Піша гісторык Васіль Герасімчык.**

Леанід Брэжнеў з цяжкасцю хадзіў і гаварыў, але заставаўся на чале краіны. Так было зручней усім: такія ж старцы складалі ў Палітбюро большасць. Яны больш думалі пра таблеткі, чым пра тое, што следам за мясам у большасці гарадоў СССР са свабоднага продажу знікла масла.

**«Вось табе і Юр'еў дзень»**

Юрый Андропаў, які ад 1967 года ўзначальваў КГБ СССР, мэтанакіравана імкнуўся да найвышэйшай улады. Ён добра арыентаваўся ў падводных камянях сістэмы ўлады і ведаў: кіраўніка КГБ, хоць камітэт і быў усёмагутным, генеральным сакратаром партыі не выберуць — «не паложана». Таму ў маі 1982 года Андропаў дабіўся прызначэння на вызваленую пасля смерці «шэрага кардынала» Міхаіла Суслава пасаду сакратара ЦК КПСС, стаўшы тым другім у партыі. А 12 лістапада 1982 года, праз два дні пасля смерці даўно ўжо нямоглага Леаніда Брэжнева, ён становіцца на чале СССР. Найвышэйшая вяршыня ўзятая, у яго руках аказалася вялізная ўлада.

Змены пачалі адбывацца літаральна на другі дзень пасля пахавання Брэжнева. Андропаў ліквідаваў асабісты сакратарыят былога кіраўніка і загадаў СМІ абысці маўчаннем дзень народзін «вернага ленінца» і «найбуйнейшага палітычнага дзеяча сучаснасці» ў снежні 1982 года. Гэтага хапіла, каб народ перапоўніўся чаканнямі. Нарэшце перамены?

Ужо ў адным з першых публічных выступленняў пасля прыходу да ўлады, 22 лістапада 1982 года на Пленуме ЦК КПСС, Юрый Андропаў не толькі раскрытыкаваў стан савецкай эканомікі, але і выступіў з заклікам да яе абнаўлення. Для гэтага прапаноўвалася разгарнуць барацьбу з парушэннямі дысцыпліны.

**«Накарміць і апрануць людзей»**

Аднак у адказ на прапановы навукоўцаў-кансультантаў аб неабходнасці паступовай дэмакратызацыі СССР Андропаў заявіў: «Мы павінны спачатку накарміць і апрануць людзей», — успамінаў яго памочнік Георгій Шахназараў.

60-годдзе ўтварэння СССР было зручнай нагодай для юбілейнай амністыі, каб вызваліць палітвязняў. Нічога падобнага зроблена не было. Рэпрэсіі нават узмацніліся. Інтэлігенцыя жартавала на кухнях: «Вось табе і Юр'еў дзень».

Умацаванне дысцыпліны вылілася ў «рэйды па кінатэатрах». У людзей правяралі дакументы нават у чэргах ва ўнівермагах: ці не ў працоўны час яны стаяць? З адлегласці часу ўсё гэта выглядае анекдатычна. Ад людзей патрабавалі дысцыпліны, але ніякай матывацыі працаваць лепш не дадалі. І працавітыя, і гультаі па-ранейшаму зараблялі аднолькава. ▶

## Юрый Андропаў: «Ювелір»

У 1939 годзе Юрыя Андропава ледзь не арыштавалі. Зачапіліся за тое, што ён не пазначыў звестак пра маці.

У біяграфіі Андропава шмат цьмяных момантаў. Штосьці ён прыхоўваў, каб не трапіць пад чысткі. А нечага проста не ведаў, бо ад яго, дзіцяці, мінулае прыхоўвалі бацькі. Дакладней, хавала мама, бо роднага тату ён не ведаў, рос з айчымамі — ад першага ён і атрымаў прозвішча Андропаў, хоць яго амаль не запомніў. Той памёр, калі хлопчыку было 5 гадоў.

А мама, Яўгенія Карлаўна, была настаўніцай ці то музыкі, ці то нямецкай мовы. Яна была ці то роднай, ці то прыёмнай дачкой маскоўскага купца 2-й гільдыі Флікенштэйна, які трымаў ювелірную краму на Лубянцы ў Маскве. (Калі Андропаў узначаліць КГБ, яму за вочы дадуць мянушку Ювелір.) І быў той купец ці то пратэстантам, ці то яўрэем, ці то яўрэем, які перайшоў у пратэстантызм. Сам Андропаў у аўтабіяграфіях пісаў, што маму немаўлём купцу падкінулі, таму яна і расла як нядродная, рана пайшла працаваць. Адзіны неабвержны факт — што ў 14 гадоў Юрый застаўся сіратой і стаў шчырым камсамольцам.

Жыць з айчымам Андропаў не хацеў. Пайшоў працаваць: грузчыкам, кінамеханікам, тэлеграфістам. Матросам на Волзе запомніў на ўсё жыццё наказ боцмана: «Жыццё, Юра, гэта мокрая палуба. І каб на ёй не паслізнуцца, перасоўвайся не спяшаючыся. І абавязкова кожны раз выбірай месца, куды паставіць нагу!»

**Юрый Андропаў побач з Брэжневым.** 23 лютага 1978 года.







**Андропаў з кубінскім лідарам Фідэлем Кастра** ў Валгарградзе. Май 1963 года.

### Кадры вырашаюць усё

Брэжнеў лічыў: галоўнае — нічога не мяняць. У Андропава быў іншы падыход. Але ён бачыў прычыну праблем не ў сістэме, а ў асобных людзях. Таму пачаліся маштабныя чысткі ў партыі і дзяржаўным апараце. Пачалі з загадчыкаў маскоўскіх магазінаў, а затым былі ахопленыя ўсе рэгіёны СССР. У ліку першых былі звольненыя міністры гандлю і шляхоў зносін.

Працоўны дзень Юрыя Андропава пачынаўся ў 9 гадзін раніцы і працягваўся да глыбокага вечара. За дзень ён прачытваў да 600 старонак розных дакументаў і тэкстаў. У апошнія дні свайго жыцця Юрый Андропаў замаўляў раманы Дастаеўскага, Льва Талстога і творы Салтыкова-Шчадрына.

Найбольш рэзананснай стала адстаўка дагэтуль, здавалася б, непатапляльнага Мікалая Шчолакава, які — міністр унутраных спраў! — «бесцырымонна браў усё: ад “мерседэсаў” да мэблевых гарнітураў, хрустальныя люстры і пудраніцу для хатняй работніцы, ложак для ўнука і антыкварыят, карціны, золата і срэбра», як пісаў следчы Цэнтральнай кантрольнай камісіі КПСС Іван Густоў.

**Ад людзей патрабавалі дысцыпліны, але ніякай матывацыі працаваць лепш не было**

За 15 месяцаў кіравання Андропаў памяняў 18 саюзных міністраў, 37 першых сакратароў абкамаў, крайкамаў КПСС, ЦК кампартый саюзных рэспублік. Ён разумеў, што трэба вылучаць маладых.

Гарбачоў, як і Мікалай Рыжкоў, Ягор Лігачоў, Гейдар Аліеў і Барыс Ельцын, быў пратэжэ Андропава. Менавіта выцягнутыя наверх Андропавым кадры пачнуць перабудову. Гэта Андропаў для падрыхтоўкі эканамічнай рэформы арганізаваў спецыяльную камісію на чале з Рыжковым і Гарбачовым. Гэтая камісія 14 ліпеня 1983 года дамаглася прыняцця пастановы аб пашырэнні правоў кіраўнікоў гаспадарчых арганізацый. Гэта была першая ластаўка будучых перамен, як іх бачыла кола Андропава.

### Цікавыя факты

- Андропаў дапамог Юльяну Сямёнаву з ідэяй рамана «17 імгненняў вясны», а затым і са здымкамі фільма. Разумеў яго важнасць для іміджу КГБ.
- Амаль на памяць ведаў творы Ільфа і Пятрова, якія любіў цытаваць.
- Умеў добра апранацца і цаніў добра пашытую вопратку. Нягледзячы на тое, што ў вайну ў арміі не служыў, меў чын генерала і вельмі любіў насіць вайсковую форму.
- Усё жыццё пісаў вершы, але ніколі іх не друкаваў.
- Няблага спяваў, граў на фартэпіяна і гітары.
- Двойчы быў жанаты. Меў чатырох дзяцей.
- Пасля смерці ягоным імем назвалі горад Рыбінск Яраслаўскай вобласці. Праз пяць гадоў гэтае рашэнне адменяць, бо яно выклікала вялікае незадавальненне мясцовага насельніцтва.

### Арыенцір — «гуляш-сацыялізм»

Марай Андропава было паўтарыць у Саюзе поспехі Венгрыі. Там

камуністычным уладам удалося вырашыць праблему дэфіцыту тавараў, збудаваць «гуляш-сацыялізм» — любы венгр мог сабе купіць мяса для любімай стравы. Мяса і кілбаса! У СССР гэта была праблема з праблем.

Венгрыю Андропаў добра ведаў з уласнага досведу. У ліпені 1953-га ён трапіў туды на пасаду дарадцы савецкага пасольства. Праз год, у ліпені 1954-га, стаў паслом і быў ім тры цяжкія гады.

У 1956 годзе у Венгрыі выбухнула паўстанне. Савецкія войскі яго задушылі, але ў Андропава назаўсёды застаўся страх перад народнымі хваляваннямі. «Вы не ўяўляеце сабе, што гэта такое — статысячныя натоўпы, нікім не кантраляваныя, выходзяць на вуліцы», — гэтыя яго словы прыводзіць савецкі дыпламат Алег Траяноўскі.

## Кар'ера

Андропаў скончыў тэхнікум воднага транспарту ў Рыбінску і стаў сакратаром камсамольскай арганізацыі судаверфі. Там, у камсамоле, ён і зрабіў кар'еру — ва ўтворанай падчас савецка-фінскай вайны Карэла-Фінскай ССР. Быў здольны і гнуткі: калі пасля вайны закруціцца параноідальная «Ленінградская справа», Андропаў дасць паказанні на чалавека, які цягнуў яго і апякаў, — кіраўніка партыі Карэла-Фінскай ССР Генадзя Купрыянава. Той цудам застанецца жывым у турме да смерці Сталіна.

## Венгерскі след

А Андропава перакідваюць у дыпламатыю. Ён едзе дарадцам у пасольства ў Венгрыю і хутка стане там паслом.
Паўстанне венграў было вызначальнай для Андропава падзеяй. Аднойчы машына савецкага пасла трапіць у Будапешце пад абстрэл. Ад гэтага ў жонкі развілася нервовая хвароба. Мікіта Хрушчоў быў задаволены яго працай па падаўленні Венгрыі. У 1957 годзе Андропаў узначаліў аддзел па сувязях з камуністычнымі партыямі сацыялістычных краін.


ANTITERROR.ONE

**Андропаў з сябрамі гуляе ў даміно.** 1971 год.

Хітры Янаш Кадар, якога Саветы паставілі кіраваць збунтаваным сатэлітам, ціха адышоў ад татальнага дзяржаўнага планавання і даў прадпрыемствам самастойнасць. Акрамя таго, венгры дазвалялі сялянам абрабляць вялікія прысядзібныя ўчасткі. Плюс да таго венгры сталі браць вялікія грошы ў МВФ і купляць на іх тэхналогіі.

Для вывучэння мясцовага вопыту ў верасні 1983 года ў Венгрыю быў накіраваны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Гарбачоў...

Дарэчы, Венгрыя, як толькі над ёй у канцы 1980-х аслаб кантроль з Масквы, хуценька пазбавілася ад свайго камуністычнага кіраўніцтва і разам з іншымі ўсходнееўрапейскімі краінамі рашуча ўзяла курс у Еўропу. За сваю «ўнікальную» эканамічную мадэль, якую хацеў пераняць Андропаў, яна не трымалася. Заўважым, што пераўтварэнні ў Венгрыі прайшлі бяскроўна, без катаклізмаў ▶


РИА НОВОСТИ

**Андропаў не займаўся дзецьмі ад першай жонкі. Гэта кепска скончылася. Сын спіўся, двойчы сядзеў у турме за крадзяжы**

Андропаў не займаўся дзецьмі ад першай жонкі. Гэта кепска скончылася. Сын спіўся, двойчы сядзеў у турме за крадзяжы. Андропаў тое хаваў: па правілах, у КГБ забаронена было працаваць, калі ў цябе блізкі сваяк судзімы. Сын памрэ ў малдаўскім Цірасполі ў 35 гадоў. Сведкі ўспаміналі, што ён вельмі чакаў, што бацька адведае яго хоць перад смерцю ў бальніцы. Бацька так і не прыехаў.

і, у параўнанні з правальнымі вынікамі кіравання Гарбачова і Ельцына, далі някепскія вынікі.

## На мяжы ядзернай вайны

Рэформы рэформамі, а, каб накарміць людзей, Саюзу тут і цяпер патрэбна была валюта, зерне куплялі ў «верагоднага праціўніка».

У сваіх дзённіках высокапастаўлены супрацоўнік ЦК КПСС Анатоль Чарняеў фіксаваў: неабходна адмаўляцца ад непасільных выдаткаў «на абарону», якія паглыналі 20 % валавага нацыянальнага даходу краіны. Ніякая краіна не змагла б вытрымаць такіх выдаткаў доўгі час. Толькі адмова ад расходаў на сілавікоў вымагала б кардынальнага перагляду канцэпцыі замежнай палітыкі.

Між тым пры Андропаве супрацьстаянне з ЗША толькі ўзмацнілася. Гонка ўзбраенняў выйшла на новы ўзровень з-за размяшчэння ракет сярэдняй далёкасці ў Еўропе.




Андропаў з прэзідэнтам ЗША Рональдам Рэйганам **на вокладцы брытанскага часопіса «Тайм».** У 1984 годзе яны атрымалі званне «Чалавек года» па версіі часопіса.

Вайну ў Афганістане Андропаў не спыніў. Гэта ж была яго ідэя — забіць прэзідэнта Хафізулу Аміна і ўвесці «абмежаваны кантынгент савецкіх войскаў». Як вынікае з успамінаў, у 1979 годзе менавіта Андропаў, будучы старшынёй КДБ, разам з міністрам замежных спраў Андрэем Грамыкам настаялі на ваеннай інтэрвенцыі. Брэжнеў на той час быў ужо ў маразме. Асцярожны Міхаіл Суслаў мог бы ініцыятыву тарпедаваць, але, на бяду, на той нарадзе не прысутнічаў: трапіў у бальніцу.

Адносіны з Захадам дайшлі да дна пасля таго, як у ноч на 1 верасня 1983 года над Японскім морам збілі карэйскі «Боінг», загінулі 269 чалавек...

### З успамінаў Генадзя Купрыянава, кіраўніка Карэла-Фінскай ССР у часы, калі Андропаў кіраваў камсамолам гэтай рэспублікі

«Юрый Уладзіміравіч сам не прасіўся пасылаць яго на вайну, у падполле ці партызаны, як настойліва прасіліся многія работнікі, старэйшыя за яго. Больш за тое, ён часта скардзіўся на хворыя ныркі. І ўвогуле не слабое здароўе. Быў у яго і яшчэ адзін аргумент для адмовы накіраваць яго ў падполле ці ў партызанскі атрад: у Беламорску ў яго жыла жонка, яна толькі што нарадзіла дзіця. А ягоная першая жонка, што жыла ў Яраслаўлі, закідала нас лістамі са скаргай на тое, што ён мала дапамагае іхным дзецям, што яны галадаюць і ходзяць без абутку, абарваліся (і мы прымусілі Юрыя Уладзіміравіча дапамагаць сваім дзецям ад першай жонкі)...Усё гэта, разам узятае, не давала мне маральнага права... пасылаць Ю. У. Андропава ў партызаны, кіруючыся партыйнай дысцыплінай. Нейк няёмка было сказаць: “Ці не хочаш паваяваць?” Чалавек хаваецца за сваю наменклатурную бронь, за сваю хваробу, за жонку і дзіця».

«Калі кіраўнічыя работнікі Ленінграда былі ўжо арыштаваныя па “Ленінградскай справе”, Малянкоў пачаў прысылаць да нас у Петразаводск камісію за камісіяй, каб падбіраць матэрыял для арышту мяне і іншых таварышаў, якія раней працавалі ў Ленінградзе. Нас абвінавачвалі ў наступным: мы — работнікі ЦК КП Купрыянаў і Уласаў — палітычна блізарукія людзі, носімся з падпольшчыкамі, просім узнагародзіць іх ордэнамі. А на самай справе кожнага з тых, хто працаваў у тыле ворага, трэба старанна правяраць і ні ў якім разе не дапускаць на кіраўнічую працу. Таго-сяго і арыштаваць! Я сказаў, што ў мяне няма ніякіх падстаў не давяраць людзям, што яны ўсе сумленныя і адданыя партыі, што сваю адданасць Радзіме яны даказалі на справе, рызыкуючы жыццём. Уся гэта размова адбывалася ў ЦК партыі Карэліі. Я сказаў, шукаючы падтрымкі ў сваіх таварышаў, што вось Юрый Уладзіміравіч Андропаў, мой першы намеснік, добра ведае ўсіх гэтых людзей, бо браў удзел у падборы, навучанні і адпраўцы ў тыл ворага, калі працаваў першым сакратаром ЦК камсамола, і можа пацвердзіць правільнасць маіх слоў. І вось, на маё вялікае здзіўленне, Юрый Уладзіміравіч устаў і заявіў: “Ніякага ўдзелу ў арганізацыі падпольнай працы я не браў. Нічога пра працу падпольшчыкаў не ведаю. І ні за каго з тых, хто працаваў у падполлі, я ручацца не магу”».

*Генадзь Купрыянаў. Партызанская вайна на Поўначы*

## Кіраванне з бальнічнага ложка

Магчыма, СССР удалося б захаваць, калі б рашуча памяняць



## Анекдоты часоў Андропава

Паміраючы, Брэжнеў размаўляе з Андропавым:
— Юра, хто ж мяне заменіць?
— Я, Лёня!
— А калі Палітбюро не пойдзе за табой?
— Тады яно пойдзе за табой!

* * *

— Ці праўда, што ў СССР адбылася сэксуальная рэвалюцыя?
— Праўда: да ўлады прыйшлі органы, а ва ўсіх крамах з'явіліся голыя паліцы.

* * *

Чым гарэлка «Андропаўка» розніцца ад «Брэжнеўкі»? Яна вяжа не толькі рот, але і рукі.

* * *

Брэжнеў сустракае на тым свеце Андропава:
— Ну што, вып'ем?
— Давай лепш трэцяга пачакаем.

* * *

Званок.
— Гэта КГБ?
— КГБ.
— Добры дзень! Мой сусед есць ікру...
— Ну і што?
— Залатымі лыжкамі!
— Ну і што!
— З залатога падноса!
— Ну і што!
— У працоўны час!
— А, вось як! Тады выязджаем.



сістэму і адмовіцца ад савецкай мадэлі эканомікі.

А што ж Андропаў? А ён бязвылазна ляжаў у крамлёўскай бальніцы. Ён і ўзыходзіў на трон, ведаючы пра свае хранічныя хваробы, аднак ад мары жыцця не адмовіўся. У лютым 1983-га ў савецкага лідара перасталі самастойна працаваць ныркі і ён стаў цалкам залежаць ад медыцынскага абсталявання. Хоць Андропаў да канца захоўваў ясны розум, што гэта за кіраванне краінай — з бальнічнага ложка? Але сысці ў адстаўку гэты «інтэлігентны і патрабавальны чэкіст» не думаў, працягнуў разбуральную практыку пажыццёвага сядзення на пасадзе, якое прыводзіла да таго, што важныя рашэнні месяцамі адкладаліся.

Каля генсака пазменна дзяжурылі тры рэаніматолагі, але дарма. 9 лютага 1984 года 69-гадовы кіраўнік СССР памёр. Гэта адкрыла дарогу на трон наступнаму крамлёўскаму старцу — Канстанціну Чарненку. Яшчэ на адну прыступку падняўся Міхаіл Гарбачоў. Да канца СССР заставалася сем гадоў. Да моманту, калі працэсы распаду набудуць незваротны характар, — гадоў пяць-шэсць.

Самы інфармаваны ў СССР чалавек сышоў, не заўважыўшы гэтага. ◆

### Старшыня КДБ

У маі 1967 года падчас паездкі па Індыі ўцякла ў ЗША дачка Іосіфа Сталіна — Святлана Алілуева. Гэты правал савецкіх спецслужбаў Брэжнеў выкарыстаў супраць кіраўніка КГБ Уладзіміра Сямічаснага, з якім даўно меў супярэчнасці. Старшынёй КГБ Брэжнеў робіць партыйнага кадра, Андропава. Той хоць не рваўся на гэтую пасаду, але ў сваю новую працу ўключыўся салідна. У 1976 годзе КГБ выйшаў з падпарадкавання Савета Міністраў і стаў цалкам самастойнай арганізацыяй, якая на пачатку 1980-х кантралявала ўсе сферы жыцця СССР.

### Праблемы СССР

Праціўнікаў рэжыму пачалі калечыць у псіхбальніцах. Найбольш значных асобаў проста высылалі за мяжу, пазбаўляючы савецкага грамадзянства. Так зрабілі з бардам Аляксандрам Галічам і пісьменнікам Аляксандрам Салжаніцыным. У ссылку быў адпраўлены акадэмік Андрэй Сахараў. Пры гэтым Андропаў здолеў пераканаць Брэжнева і Суслава не арыштоўваць Уладзіміра Высоцкага, вярнуў з апалы спевака Мусліма Магамаева і філосафа Міхаіла Бахціна.

КГБ разбіраўся і з абставінамі працоўных хваляванняў, як выступленне 9 красавіка 1968 года на Мінскім заводзе будаўнічых матэрыялаў з-за нізкага заробку. У 1979–1982 гадах пасля дрэнных ураджаяў упершыню за пасляваенныя гады прыйшлося ўводзіць карткі на прадукты. КГБ шукаў і прычыны катастрофаў на вытворчасці, якія здараліся амаль штогод. Напрыклад, выбух пылу ў сістэме вентыляцыі Мінскага радыёзавода, дзе ў 1972 годзе загінула больш за 100 рабочых.

Здараліся хваляванні і ў войску. Так, 8–9 лістапада 1975 года адбылося выступленне на вялікім супрацьлодкавым караблі «Старажавы», які ўваходзіў у склад Балтфлоту. Каманда абвесціла пра пачатак сапраўднай «камуністычнай рэвалюцыі». Мяцеж быў хутка задушаны, а ініцыятара выступлення, палітрука Валерыя Сабліна, расстралялі.

### Каля вяршыні

З 1973 года старшыня КГБ першым даведаўся ад дактароў пра імклівае пагаршэнне стану здароўя Брэжнева. Разам з міністрам замежных спраў Андрэем Грамыкам і міністрам абароны Дзмітрыем Усцінавым у 1979 годзе ён прымае рашэнне пра ўвод савецкіх войскаў у Афганістан.

12 мая 1982 года цяжкахворага Брэжнева прымусілі зачытаць даклад, падчас якога ён не здолеў вымавіць і паловы словаў. У гэты ж дзень Юрый Андропаў быў прызначаны фактычна другой асобай у краіне, стаўшы сакратаром КПСС па ідэалогіі.







WIKIMEDIA COMMONS

# МАЙСЕЙ ГУТМАН: яўрэй, што стаяў ля вытокаў БНР і УНР


БІБЛІЯТЭКА РАЧЫНСКІХ У ПОЗНАНІ

**Як склалася ягонае жыццё, раскапалі кандыдат гістарычных навук Уладзімір Ляхоўскі і ўкраінская даследчыца Вольга Ямкова.**

Сакавік 1938 года. У Маскве адбылася серыя арыштаў грамадскіх і культурных дзеячаў, якія ў маладосці ўваходзілі ў апазіцыйныя да бальшавікоў яўрэйскія сацыялістычныя партыі. Сярод арыштаваных аказаўся член рэдкалегіі «Учительской газеты» Майсей Львовіч Каменштэйн, сапраўднае прозвішча — Гутман. Яму інкрымінавалі, што пасля пераезду ў 1925-м з Польшчы ў Савецкі Саюз ён па заданні польскай выведкі збіраў інфармацыю пра становішча яўрэяў у СССР і ўдзельнічаў у антысавецкай падрыўной дзейнасці. Падчас следства ўсплыла інфармацыя пра актыўнае супрацоўніцтва Гутмана ў 1917–1918 гадах з украінскімі і беларускімі нацыяналістамі.

Яўрэяў, якія ў пачатку XX стагоддзя ўключаліся ў беларускую ці ўкраінскую нацыянальную працу, было няшмат. Большасць яўрэйскіх палітыкаў лічыла, што працей будзе дабіцца грамадзянскага і нацыянальнага раўнапраўя для свайго народа ў рамках адзінай расійскай дзяржавы. Мойша Гутман дзейнічаў інакш.

### Фармацэўт-рэвалюцыянер

Гутман нарадзіўся 21 верасня 1883 года ў мястэчку Вепры Вількамірскага павета Ковенскай губерні. У 16-гадовым узросце пераехаў у Вільню, дзе экстэрнам здаў экзамены на атэстат сталасці, а затым скончыў прыватную школу правізараў-фармацэўтаў.

Але аптэчная справа цікавіла яго ўсё менш. З 1902 года Гутман стаў членам левага крыла яўрэйскай сацыялістычнай партыі «Паалей Цыён», а з 1907-га — Сацыялістычнай яўрэйскай рабочай партыі, якая выступала за стварэнне яўрэйскай нацыянальна-палітычнай аўтаноміі. Гутман вылучыўся найперш як здольны публіцыст і рэдактар. У рэвалюцыйныя 1905–1907 гады ўзяў на сябе арганізацыю выдання падпольнай літаратуры на ідыш. Ягоныя таленты былі запатрабаваныя ў розных кутках «мяжы аселасці»: спачатку працаваў у Вільні, затым былі Варшава, Лодзь, Кіеў, Адэса... Часта наведваў таксама Гомель, Мінск, Пінск і іншыя беларускія гарады.

Знаходзячыся на нелегальным становішчы, Гутман жыў пад шматлікімі псеўданімамі. На Ковеншчыне яго больш ведалі як Балцікакліса, у Польшчы — як Зеліковіча, у Беларусі і Украіне — найчасцей як Каменштэйна ці Міхліна. Некалькі разоў паліцыя затрымлівала яго за рэвалюцыйную прапаганду і распаўсюджванне антыўрадавай літаратуры. Увогуле, ён трапляў у турму тройчы, праседзеўшы за кратамі ў сукупнасці больш за год.

### Ангола замест Палесціны

У 1910-я гады Мойша Гутман далучыўся да арганізацыі з не надта простай для вымаўлення назвай — Яўрэйскае тэрытарыялістычнае таварыства. У адрозненне ад «чыстых» сіяністаў, якія жылі ідэяй аднаўлення незалежнай яўрэйскай дзяржавы на гістарычнай радзіме ў Палесціне, члены гэтага таварыства дапускалі яе стварэнне і ў любым

**У яго мінскім доме па вуліцы Садовай ствараліся Першая і Другая Устаўныя граматы**

іншым рэгіёне свету. Наш герой моцна захапіўся папулярнай у той час ідэяй аб заснаванні яўрэйскай калоніі ў афрыканскай Анголе, што тады належала партугальцам. У 1912-м Гутман, сабраўшы гы на дарогу, накіраваўся ў Вену на канферэнцыю тэрытарыялістаў, на якой дэталёва абмяркоўвалася гэтая прапанова. Але ў выніку «ангольскі праект» не знайшоў вялікай падтрымкі. Праз нейкі час Гутман таксама расчараваўся ў гэтай ідэі і ад тэрытарыялізму адышоў.

**Пасля ўцёкаў бальшавікоў з Мінска Мойша Гутман стаў тым пасрэднікам, які імкнуўся аб'яднаць розныя палітычныя сілы краю для вырашэння галоўнага пытання — арганізацыі дэмакратычнай улады**

## Сярод украінцаў

Пасля пачатку Першай сусветнай вайны Мойша Гутман перабіраецца ў Кіеў, дзе кіруе мясцовай філіяй Яўрэйскага таварыства помачы ахвярам вайны і Бюро працы для беспрацоўных яўрэяў. Лютаўская рэвалюцыя 1917-га застала яго ў Адэсе, дзе ён арганізаваў адзін з першых саветаў рабочых дэпутатаў.

Летам 1917-га Гутман стаў адным са стваральнікаў Яўрэйскай аб'яднанай сацыялістычнай рабочай партыі (АЯСРП). Новая партыя дамагалася ад Часовага ўрада ўтварэння адмысловай дзяржаўнай рады па нацыянальных справах, свабоднага развіцця моў «негістарычных» этнасаў былой імперыі і стварэння школ з выкладаннем на роднай мове. У яўрэйскім палітычным асяроддзі гэтую партыю нярэдка называлі «інтэлігенцкім клубам» за яе прыхільнасць да мірнага шляху рэвалюцыі. Члены АЯСРП не падтрымлівалі ідэю поўнага аддзялення нацыянальных рэспублік ад Расіі і адстойвалі канцэпцыю дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі. Гэтая партыя, аднак, не стала масавай і па сваім уплыве на яўрэйскія масы саступала іншым, больш радыкальным левым арганізацыям.

Але, знаходзячыся ў Кіеве ўсё лета 1917-га, Мойша Гутман займаўся не толькі яўрэйскімі справамі. Акрамя гэтага, ён тады актыўна ўзаемадзейнічаў з украінскімі нацыянальнымі арганізацыямі. Кааптаваны ў склад Украінскай Цэнтральнай Рады, яўрэйскі сацыяліст браў актыўны ўдзел у яе пасяджэннях пры абмеркаванні найважнейшых палітычных дакументаў, у тым ліку першых універсалаў Украінскай Народнай Рэспублікі. Сённяшнія ўкраінскія даследчыкі адзначаюць яго важкі ўнёсак у фармуляванне прагрэсіўнай ідэі экстэрытарыяльнай нацыянальна-персанальнай аўтаноміі. Апошняя давала яўрэям, як нятытульнай супольнасці ў рамках УНР, прызнанне афіцыйнага статусу мовы ідыш, права на самакіраванне ў сферы адукацыі, культуры і грамадскім жыцці, свабоду веравызнання, а таксама на фіксаванае яўрэйскае палітычнае ▸

**На мяжы XIX і XX стагоддзяў у Расійскай імперыі** ўзнікла нямала разнастайных яўрэйскіх сацыялістычных арганізацый. Найбольш уплывовымі з іх былі Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі (Бунд) і Яўрэйская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя «Паалей Цыён». Прыхільнікі першай арганізацыі збіраліся пераўладкоўваць яўрэйскае грамадства паводле сацыялістычных прынцыпаў на месцы яго тагачаснага пражывання, прыхільнікі ж другой лічылі неабходным стварэнне незалежнай сацыялістычнай яўрэйскай дзяржавы ў Палесціне ці ў якім іншым месцы. Сацыялістычная яўрэйская рабочая партыя вылучылася з партыі «Паалей Цыён» і адрознівалася ад яе тым, што лічыла неабходным на дадзеным этапе змагацца перадусім за аўтаномію яўрэйскага народа ў складзе Расійскай імперыі.



**Мітынг на пляцы Волі ў Мінску ў красавіку 1917 года** падчас правядзення 1-га з'езда салдацкіх дэпутатаў Заходняга фронту. Выступае бальшавік Барыс Позерн.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ




**Рэвалюцыйны мітынг у Мінску** летам 1917 года.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ

▸ прадстаўніцтва ў заканадаўчых і выканаўчых органах украінскай улады на розных яе ўзроўнях.

## У Мінску

Гарачая палітычная восень 1917 года змусіла Гутмана ўвесь час курсіраваць паміж Кіевам, Мінскам і Петраградам. Сярод іншага, ён удзельнічаў у З'ездзе паняволеных народаў Расіі ў Кіеве 15 (28) верасня 1917-га, дзе 92 дэлегаты ад палітычных партый розных народаў выпрацавалі асноўныя прынцыпы нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў былой Расійскай імперыі. Падчас гэтага з'езда ён блізка пазнаёміўся з беларускімі дзеячамі Язэпам Варонкам, Змітром Сабалеўскім і Змітром Жылуновічам. Беларусь і беларусы зацікавілі Гутмана, сярод іншага, таму, што ён быў вылучаны па партыйным спісе на выбары ва Усерасійскі Устаноўчы сход па Мінскай і Магілёўскай губернях. Падчас выбарчай кампаніі Гутман аб'ездзіў многія гарады і мястэчкі Міншчыны і Магілёўшчыны.

У лістападзе 1917 года партыйныя справы змусілі яго затрымацца ў Мінску на больш працяглы час — аж да мая 1918-га. У гэты час Гутман стаў відавочцам разгону бальшавікамі Усебеларускага з'езда. Ён не застаўся ад гэтых падзей убаку, выказаўшы свой пратэст на дзеянні бальшавікоў і шчырую салідарнасць з беларускім рухам у артыкуле «Бальшавіцкае "самавызначэнне"», апублікаваным у яўрэйскай газеце «Ное цайт» («Новы час») у студзені 1918-га.

Гэтым артыкулам яўрэйскі сацыяліст не абмежаваўся. У знак салідарнасці з беларускімі дзеячамі, а таксама з сябрамі Украінскай вайсковай рады Заходняга фронту, якія былі арыштаваныя па загадзе савецкіх камісараў яшчэ 7 (20) снежня 1917 года, у канцы снежня 1918-га Гутман запланаваў на Юбілейнай плошчы ў Мінску мітынг пратэсту супраць рэпрэсіўнай палітыкі мясцовых бальшавікоў. На яго ён запрасіў не толькі сяброў уласнай партыі, але і актывістаў іншых арганізацый. Праўда, нехта з сяброў Бунда папярэдзіў бальшавікоў пра запланаваную акцыю. Апошнія вырашылі сарваць мітынг рукамі паўкрымінальных элементаў, якіх тады хапала ў горадзе. Як толькі людзі пачалі збірацца, падгавораныя бальшавікамі крымінальнікі распачалі хаатычную страляніну «ў неба». Мітынг скончыўся, не паспеўшы пачацца.

Але супрацоўніцтва Гутмана з беларускім рухам гэта не спыніла. Больш за тое, яно выйшла на новы ўзровень. У студзені 1918-га Гутман распачаў таемныя кансультацыі з сябрамі прэзідыума Усебеларускага з'езда, што засталіся ў Мінску на нелегальным становішчы, па пытанні кансалідацыі антыбальшавіцкіх сілаў у горадзе.

Ведаючы, што беларусы туляцца ў двух цесных пакоях дома № 2 па Паліцэйскай вуліцы, дзе легальна працаваў выканкам Беларускай агульнавайсковай рады салдацкіх дэпутатаў (пад гэтай «савецкай» шыльдай хаваліся неарыштаваныя сябры былой Цэнтральнай Беларускай вайсковай рады), Гутман прапанаваў ім збірацца для нарадаў у сябе, у вялікім гасцявым пакоі дома на Садовай вуліцы, 10 (цяпер тэрыторыя Купалаўскага сквера ў цэнтры Мінска, насупраць цырка). Гэты дом Гутман арандаваў у Казіміра Рымшы. Падчас адной з такіх нарадаў быў распрацаваны праект дэкларацыі для беларускай дэлегацыі, якая збіралася ехаць у Брэст-Літоўск на мірныя перамовы для абароны інтарэсаў Беларусі. У дэкларацыю, зацверджаную выканкамам Усебеларускага з'езда 19 студзеня 1918 года, па ініцыятыве Гутмана было дададзена важнае палажэнне: аднавіць зруйнаваную вайной беларускую гаспадарку за кошт міжнароднага фонду са сродкаў дзяржаў, што развязалі Першую сусветную вайну.

**У канцы лютага 1918-га Мойша Гутман стаў намеснікам кіраўніка ўрада БНР Язэпа Варонкі**

## У складзе беларускага ўрада

18 лютага 1918 года, пасля панічных уцёкаў бальшавікоў з Мінска, у той жа вялікай зале дома Рымшы адбылося першае пашыранае пасяджэнне выканкама Усебеларускага з'езда, на якім прысутнічалі 17 чалавек. Акрамя сяброў выканкама, прысутнічалі таксама прадстаўнікі мясцовай палітычнай эліты, што прадстаўлялі розныя нацыянальныя партыі: ад расійскіх эсэраў і яўрэйскіх бундаўцаў да прыхільнікаў розных кірункаў сіянізму. Мойша Гутман стаў фактычна тым пасрэднікам, які імкнуўся аб'яднаць розныя палітычныя сілы краю для вырашэння галоўнага пытання — арганізацыі дэмакратычнай улады.

На наступны дзень, увечары 19 лютага, нарада скончыла сваю працу складаннем Першай Устаўной граматы «Да народаў Беларусі», якая фактычна абвяшчала стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі і яе ўрада — Народнага сакратарыята Беларусі. Канчаткова тэкст Устаўной граматы быў зацверджаны 21 лютага ў будынку былога губернатарскага дома, куды пераехалі Рада і ўрад БНР. Ролю Майсея Гутмана пазней адмыслова адзначаў ва ўспамінах

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ





**Юбілейная плошча ў Мінску,** якая разам з Прывакзальнай плошчай каля Віленскага вакзала і пляцам Волі з'яўлялася галоўным месцам правядзення рэвалюцыйных маніфестацый у горадзе з вясны 1917 года.

сябра выканкама Усебеларускага з'езда Макар Косцевіч (Краўцоў): «Познім вечарам 19 лютага выканаўчы камітэт [...] скончыў сваё апошняе нелегальнае пасяджэнне на Садовай вуліцы пад № 10 у кватэры Гутмана, апрацаваўшы першую Устаўную грамату "Да народаў Беларусі"».

У канцы лютага 1918-га Мойша Гутман быў кааптаваны ў склад Народнага сакратарыята Беларусі ў якасці таварыша (намесніка) кіраўніка ўрада Язэпа Варонкі. Яму было даручана наладзіць кантакты з нямецкай акупацыйнай уладай, якая прыйшла ў Мінск пасля бальшавікоў, угаварыць яе прызнаць БНР, а таксама арганізаваць у красавіку 1918-га з'езд прадстаўнікоў земстваў і гарадскіх дум для стварэння органаў мясцовай улады БНР. Гутман таксама ўдзельнічаў у складанні Другой Устаўной граматы БНР ад 9 сакавіка 1918 года, але адназначна сцвярджаць, што дадзены акт прымаўся ў яго дома на Садовай, 10 мы пакуль не можам: няма дакументальных пацвярджэнняў.

Дабіцца прызнання БНР з боку нямецкай улады, аднак, было нерэальна, а да склікання краёвага з'езда мясцовых органаў самакіравання справа так і не дайшла. Пасля прыняцця Акта 25 Сакавіка аб незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе прадстаўнікі небеларускіх палітычных партый, якія стаялі за федэрацыю з Расіяй, выйшлі са складу Рады і ўрада БНР. Сярод іх быў і Мойша Гутман, які лічыў, што пытанне незалежнасці павінен вырашаць толькі Усебеларускі Устаноўчы сход, абраны дэмакратычным шляхам на ўсеагульных выбарах усім насельніцтвам Беларусі. Праўда, Гутман гатовы быў пагадзіцца на абвяшчэнне беларускай незалежнасці, але толькі ў тым выпадку, калі следам за гэтым будзе прынята пастанова аб беларуска-расійскай федэрацыі. ▶



**Дом Казіміра Рымшы** (Садовая вуліца, 10), які арандаваў Гутман з восені 1917 года. Рэканструкцыя Віктара Сташчанюка.

Тут паразумення з большасцю беларускіх дзеячаў яму дасягнуць не ўдалося.

### У Гомелі і Варшаве

Тым не менш і пасля выхаду са складу Народнага сакратарыята Беларусі Гутман канчаткова не разарваў сувязі з беларускім рухам. Па просьбе ўрада БНР у канцы красавіка 1918 года ён, як упаўнаважаны беларускі прадстаўнік, едзе ў Кіеў для высвятлення пытання аб выдачы ўраду БНР украінскага грашовага крэдыту. Летам таго ж года ён пераехаў у Гомель, дзе спрычыніўся да выдання на ідыш новага часопіса «Дэр Штрал» («Прамень»), у якім рэгулярна друкаваў матэрыялы па гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэння.

Напярэдадні прыходу бальшавікоў у Гомель таварышы па партыі, каб адвесці ад Гутмана небяспеку трапіць у засценкі савецкай «чрэзвычайкі», накіроўваюць яго на нелегальную працу ў Польшчу. Там ён і застаўся на дастаткова працяглы час, жывучы ў Варшаве нават пасля заканчэння польска-савецкай вайны. Гутман актыўна ўдзельнічаў у яўрэйскім сацыялістычным руху: супрацоўнічаў з бундаўцамі, працаваў у Цэнтральным бюро яўрэйскіх прафсаюзаў Польшчы, арганізоўваў яўрэйскія школы, узначальваў Камісію па рэформе арфаграфіі мовы ідыш.

### Вяртанне ў пастку

Няўрымслівая натура Гутмана, аднак, патрабавала больш актыўнай дзейнасці. І здавалася, што найбольш важныя ды цікавыя падзеі ў той час разгортваліся на ўсход ад Польшчы. У Савецкім Саюзе пасля працяглых ваенна-рэвалюцыйных пертурбацый нібыта наладжвалася і бурна развівалася нацыянальна-культурнае жыццё розных народаў. Цікавячыся ўсім гэтым, у 1924 годзе Гутман уступіў у Кампартыю Польшчы, тым самым рыхтуючы глебу для пераезду ў СССР. У пачатку 1925-га ён гэты план рэалізаваў.

З 1927 года Гутман жыў у тагачаснай сталіцы Савецкай Украіны Харкаве, узначальваў Усеўкраінскае таварыства спрыяння яўрэйскай культуры і быў сябрам Яўрэйскай секцыі Украінскай акадэміі навук, а з 1932-га — загадчыкам яўрэйскай рэдакцыі Украінскага выдавецтва нацменшасцей. Увесь час супрацоўнічаў з многімі савецкімі перыядычнымі выданнямі на ідыш, удзельнічаў у працы Усесаюзнага таварыства спрыяння яўрэйскай культуры, а таксама Усесаюзнага таварыства па зямельным працаўладкаванні яўрэяў, якое заахвочвала стварэнне яўрэйскіх сельскагаспадарчых кааператываў і калгасаў, а таксама агітавала добраахвотнікаў на пераезд у Яўрэйскую аўтаномную вобласць у Бірабіджан.

Але спрыяльныя часы хутка скончыліся, і ўжо ў пачатку 1930-х адносная свабода змянілася на ўсё большае закручванне гаек. Хмары збіраліся і над Гутманам. У 1935 годзе, каб пазбегнуць рэпрэсій па абвінавачванні ў яўрэйскім буржуазным нацыяналізме, ён з дапамогай сяброў прыехаў у Маскву, дзе ўладкаваўся на працу журналістам. Але гэта яго не выратавала. Адпаведныя органы хутка нагадалі пра сябе. Пасля арышту ў 1938-м і некалькіх месяцаў допытаў Гутман «прызнаўся» ва ўсіх абвінавачваннях, што інкрымінавалі яму следчыя НКВД, а ў наступным, 1939-м, быў «ліквідаваны». На доўгі час прапала і памяць пра яго. Але яна вяртаецца. ◆



Гасціная на другім паверсе дома, дзе **19 лютага 1918 года была прынята Першая Устаўная грамата БНР**. Рэканструкцыя Віктара Сташчанюка.

**Гутман моцна захапіўся ідэяй аб заснаванні яўрэйскай калоніі ў афрыканскай Анголе, што тады належала партугальцам**






Бальшавіцкі прапагандысцкі плакат «**Чым скончыцца панская задума**». 1920 год.

# «Прыходзь да нас, суседзе дарагі»

**100 гадоў таму пачалася польска-савецкая вайна, якая ў выніку разарве Беларусь напалам. Якія парою фатальныя пралікі рабілі ў час яе палітыкі і военачальнікі, расказвае кандыдат гістарычных навук Аляксандр Пашкевіч.**

Па стане на пачатак XX стагоддзя этнічна польскія землі былі падзеленыя паміж трыма імперыямі — Расійскай, Аўстра-Венгерскай і Германскай. Расійская ўлада над палякамі скончылася ў жніўні 1915 года, калі нямецкая армія заняла цалкам Польшчу, Літву, частку Латвіі, палову Беларусі і ўкраінскую Валынь.

Для Расійскай імперыі вайна складвалася нешчасліва, нарасталі ўнутраныя праблемы. Усё гэта прывяло ў лютым 1917 года да падзення цара, а неўзабаве і да распаду імперыі. Калі ў кастрычніку 1917 года да ўлады прыйшла бальшавіцкая партыя, усё канчаткова пасыпалася. Расію на некалькі гадоў захліснула крывавая грамадзянская вайна. ▶

**Пры падзеле Рэчы Паспалітай Расійская імперыя спачатку заняла землі толькі былога Вялікага Княства Літоўскага, дзе большасць насельніцтва складалі беларусы, украінцы і літоўцы.** Але ў 1815 годзе пасля перамогі над Напалеонам на падставе пастаноў Венскага кангрэсу да Расіі адышла большая частка тэрыторыі так званага Вялікага герцагства Варшаўскага. На навадалучаных тэрыторыях, якія палякі часта называлі «Кангрэсоўкай», расійскі імператар Аляксандр I утварыў спецыяльную адміністрацыйную адзінку пад назвай «Царства Польскае». Да пачатку 1830-х расійскія ўлады заігрывалі з мясцовымі польскімі элітамі, не замахваючыся на іх выключную ролю ў культуры, эканоміцы і палітыцы. Аднак пасля паўстання 1830–1831, а асабліва 1863–1864 гадоў расійскія ўлады ўзялі цвёрды курс на русіфікацыю. Нават назва «Царства Польскае» была заменена ў імперскай бюракратычнай тэрміналогіі на «Прывіслінскі край».

**Do mieszkańców byłego W. Księstwa Litewskiego.**

Kraj Wasz od stukilkudziesięciu lat nie zna swobody, uciskany przez wrogą przemoc rosyjską, niemiecką, bolszewicką — przemoc, która nie pytając ludności, narzucała jej obce wzory postępowania, krępujące wolę, często łamiąc życie.

Ten stan ciągłej niewoli dobrze mi znany osobiście, jako urodzonemu na tej nieszczęśliwej ziemi raz nareszcie musi być zniesiony i raz wreszcie na tej ziemi jakby przez Boga zapomnianej musi zapanować swoboda i prawo wolnego, niczem nieskrępowanego wypowiedzenia się o dążeniach i potrzebach.

Wojsko Polskie, które ze sobą przyprowadziłem dla wyrzucenia panowania gwałtu i przemocy, dla zniesienia rządów krajem wbrew woli ludności — wojsko to niesie Wam wszystkim wolność i swobodę.

Chcę dać Wam możność rozwiązania spraw wewnętrznych narodowościowych i wyznaniowych tak, jak sami sobie życzyć będziecie bez jakiegokolwiek gwałtu lub nacisku ze strony Polski.

Dlatego to, pomimo że na Waszej ziemi grzmią jeszcze działa i krew się leje — nie wprowadzam Zarządu Wojskowego lecz cywilny, do którego powoływać będę ludzi miejscowych, synów tej ziemi.

Zadaniem tego Zarządu Cywilnego będzie:

1) Ułatwienie ludności wypowiedzenia się co do swego losu i potrzeb przez swobodnie wybranych przedstawicieli. Wybory te odbędą się na podstawie równego, tajnego, powszechnego, bezpośredniego, bez różnicy płci głosowania.

2) Danie potrzebującym pomocy w żywności, poparcie pracy wytwórczej, zapewnienie ładu i spokoju.

3) Otoczenie opieką wszystkich nie czyniąc różnicy z powodu wyznania lub narodowości.

Na czele Zarządu postawiłem Jerzego Osmołowskiego, do którego bezpośrednio, lub do ludzi przez niego wyznaczonych zwracajcie się otwarcie i szczerze we wszelkiej potrzebie i sprawach, które Was bolą i obchodzą.

**J. Piłsudski.**

Wilno, 22 kwietnia 1919 r.

**Buvusios Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gyventojams.**

Nuo šimto su viršum metų Jūsų Kraštas, nematė laisvės slėgiamas priešingos jiegos rusų, vokiečių, bolševikų, kurie gyventojų nesiklausdami užmesdavo jiems svetimus elgimosi pavyzdžius, varžančius jų valią, laužančius dažnai gyvybę.

Tas nuolatinis nelaisvės stovis, žinomas gerai kaipo gimusiams šitam nelaimingam krašte, galop turi užsilaigti ir ant tos, lyg Dievo užmirštos, žemės turi užviešpatauti laisvė ir teisė liuosai, be jokios prievartos, išreikšti savo palinkimus ir reikalus.

Lenkų Kariumenė, kurią su savim atvedžiau, kad išmetus prievartos viešpatavimą, kad panaikinus krašto valdymą prieš gyventojų norą, toji Kariumenė neša Jums visiems laisvę.

Aš noriu sutverti išligas irišti vidujinius tautinius ir tikėjimo reikalus tokiu budu, kokiu patįs panorėsit, be jokios prievartos ar varžymo nuo Lenkijos.

Taigi, nežiurint to, kad Jūsų žemėje dar griauna Kanuolės ir liejasi kraujas, įvedu ne Karo bet Civilinę Valdybą, kurion šauksiu vietos gyventojus, tos žemės sunus.

Tos Civilinės valdybos uždaviniu bus:

1) Padėti gyventojams tart žodį apie savo likimą ir reikalus per lupas liuosai išrinktųjų atstovų. Tie rinkimai bus atlikti visuotinuoju, lygiu, slaptu, betarpišku, be lyties skirtumo, balsavimu.

2) Suteikti reikalaunantiems pašalpą maistu, paremti produktivį darbą įvesti tvarką ir ramybę.

3) Globoti visus be skirtumo tikėjimo ar tautos.

Valdybos pryšakyje pastačiau Jurgį Osmolovskį; su visais reikalais, kurie Jums rupi ir skauda, kreipkities atvirai į jį tiesiai ar į žmones, jo paskirtus.

**J. Pilsudski.**

Vilnius, 22 balandžio 1919 m.

WIKIMEDIA COMMONS

**Адозва Юзафа Пілсудскага да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага**, надрукаваная па-польску і па-літоўску. 22 красавіка 1919 года.

## Польшча зноў вольная

Польшчу да канца 1918-га рэвалюцыя ў Расіі не закранала. Усе этнічныя польскія землі знаходзіліся на іншы бок расійска-нямецкага фронту, таму і лёс польскай дзяржаўнасці ў той час больш залежаў ад падзей у Германіі.



WIKIMEDIA COMMONS

Агляд аддзелаў польскага войска пасля заняцця Вільні 19 красавіка 1919 года. **Наперадзе — Юзаф Пілсудскі, за ім генералы Эдвард Рыдз-Сміглы, Станіслаў Шаптыцкі і Казімеж Саснкоўскі.**

А ў Германіі ў лістападзе 1918 года таксама пачалася рэвалюцыя, была зрынута манархія і абвешчана рэспубліка. Гэта азначала канец Першай сусветнай вайны, бо новыя ўлады не маглі весці баявыя дзеянні. Таму яны адразу пагадзіліся на падпісанне перамір'я. Яно было заключана 11 лістапада 1918-га ў Камп'енскім лесе на поўначы Францыі.

У той самы дзень абвясціла сваю незалежнасць Польшча. Ніхто не мог і не збіраўся гэтаму пярэчыць. Пераможцы — Францыя, Вялікабрытанія і ЗША — былі зацікаўленыя ў аднаўленні незалежнай польскай дзяржавы. Адкрытым заставалася пытанне толькі адносна яе межаў. І тут шмат што залежала ад саміх палякаў.

Палякі ж падышлі да абвяшчэння незалежнасці не з пустымі рукамі. Яшчэ за некалькі гадоў да вайны Юзаф Пілсудскі пачаў ствараць на тэрыторыі Галіцыі, якая знаходзілася пад аўстрыйскай уладай, польскія

**Не варта думаць, што Пілсудскі быў гатовы стварыць беларускую частку «федэрацыі» ў межах сучаснай Рэспублікі Беларусь ці тым больш Беларускай Народнай Рэспублікі.** Рэгіёны, населеныя пераважна каталікамі, Пілсудскі разлічваў уключыць непасрэдна ў Польшчу. Тое самае тычыцца і Украіны, і Літвы. Любыя польскія праекты прадугледжвалі ўключэнне ў склад Польшчы Львова і Вільні. Усё гэта рабіла саюз з Польшчай не зусім прывабным для беларускіх, украінскіх і літоўскіх дзеячаў.






**Змены фронту** з канца студзеня 1919-га па канец мая 1920 года.

ваенізаваныя арганізацыі. А ў пачатку вайны на аснове гэтых арганізацый узніклі Польскія легіёны ў складзе аўстрыйскай арміі. Акрамя таго, існавалі польскія фармаванні ў расійскай і французскай арміях. Такім чынам, мелася добрая база для стварэння моцнага польскага войска.

## Інкарпарацыя ці федэрацыя?

У пытанні ўсходніх межаў Польшчы тагачасныя польскія палітыкі падзяляліся на прыхільнікаў інкарпарацыянісцкай і федэралісцкай канцэпцый. Інкарпарацыяністы, аснову якіх складалі нацыянальныя дэмакраты на чале з Раманам Дмоўскім, хацелі будаваць чыста польскую нацыянальную дзяржаву. Таму яны негатыўна ставіліся да перспектыў аднаўлення шматнацыянальнай Рэчы Паспалітай, у якой палякі засталіся б у меншасці. Этнічна няпольскія землі яны гатовыя былі далучаць толькі ў такой колькасці, пры якой магчыма было б іх хутка асіміляваць.

У сваю чаргу федэралісты, лідарам якіх быў Юзаф Пілсудскі, разлічвалі знайсці кампраміс з літоўцамі, беларусамі і ўкраінцамі і стварыць на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай федэрацыю чатырох народаў з вядучай роляй Польшчы.

Але ў кожным разе ўсходнімі межамі былога Царства Польскага (ці «Прывіслінскага края») ніводная з уплывовых палітычных сілаў абмяжоўвацца не збіралася — тым больш што за гэтымі межамі жыло дастаткова шмат насельніцтва, польскага калі не па культуры, то па самасвядомасці. Таму ўзброенае сутыкненне польскага войска з бальшавіцкай Чырвонай Арміяй было непазбежным.

## Вайна пачынаецца

Пасля падпісання перамір'я немцы адразу пачалі выводзіць свае войскі з усходняга фронту. На месца немцаў прыходзіла Чырвоная Армія. ▶






**Польскі прапагандысцкі плакат «Бальшавіцкая свабода». Галоўны герой — адзін з бальшавіцкіх лідараў Леў Троцкі.** «Бальшавікі абяцалі: дамо вам мір, дамо вам свабоду, дамо вам зямлю, працу і хлеб. Подла ашукалі: развязалі вайну з Польшчай, замест свабоды далі кулак, замест зямлі — рэквізіцыі, замест працы — галечу, замест хлеба — голад».




**Польскае войска ўступае ў Мінск.** 9 верасня 1919 года.

У Беларусі аказваць супраціў бальшавікам не было каму. Беларуская Народная Рэспубліка не сфарміравала ўласнага войска. Зрэшты, і Украінская Дырэкторыя на чале з Сымонам Пятлюрам, хоць і мела такое-сякое войска, спыніць бальшавікоў не здолела.

Але пры набліжэнні да колішняй мяжы былога Царства Польскага Чырвоная Армія ўступіла ў бой з перадавымі часткамі польскага войска. Першыя сутыкненні адбыліся 14 лютага 1919 года ў раёне Бярозы, і з іх пачалася двухгадовая польска-савецкая вайна.

Спачатку ўдача спрыяла палякам. Што і не дзіўна: бальшавікі былі ў складанай сітуацыі. Грамадзянская вайна ў Расіі працягвалася, Белая армія дасягнула піку сваёй моцы. Заходні кірунак для бальшавікоў не быў найважнейшым, і на ім былі сканцэнтраваныя не самыя моцныя войскі.

У польскім войску змагалася нямала ўраджэнцаў Беларусі. Сам Пілсудскі паходзіў з Зулава на Свянцяншчыне на беларуска-літоўскім памежжы. Родам з Ашмяншчыны быў генерал Люцыян Жалігоўскі, з Лідчыны — генералы Адам і Стэфан Макрэцкія. Былі створаны нават дзве асобныя дывізіі, якія называліся Літоўска-Беларускімі і камплектаваліся перадусім мясцовымі ўраджэнцамі.

Спыніўшы Чырвоную Армію, 16 красавіка 1919 года польскае войска перайшло ў наступленне. Ужо праз дзень палякі ўвайшлі ў Ліду, 18 красавіка — у Навагрудак, 19-га — у Баранавічы і Вільню. Далей польскае наступленне пайшло не так хутка, але да жніўня польскае войска заняло Мінск, Барысаў і Бабруйск. У выніку да канца 1919 года польска-савецкі фронт стабілізаваўся па лініі рэк Убарць – Пціч – Бярэзіна, а далей праз Лепель і Полацк ішоў да Даўгаўпілса.

### Чаму польскае войска спынілася на Бярэзіне

Пілсудскі свядома спыніў наступленне. Ён не хацеў мець у якасці суседкі імперскую Расію. Каб аслабіць імперыю, лічыў патрэбным вырваць з-пад яе ўплыву заходнія тэрыторыі, найперш Украіну.

Уважліва сочачы за ходам Грамадзянскай вайны ў Расіі, польскі лідар прыйшоў да высновы, што для Польшчы будзе нявыгадная перамога Белага руху. Бо яго асноўныя правадыры цвёрда стаялі на пазіцыях «адзінай і непадзельнай Расіі».

Выходзячы з гэтага, дапамагаць «белым» разбіць бальшавікоў Пілсудскі не хацеў. Палякі далі зразумець бальшавікам, што на Маскву яны не пойдуць. Гэта дазволіла Чырвонай Арміі скіраваць сілы супраць Дзянікіна і пераламаць на сваю карысць ход Грамадзянскай вайны.

Праўда, даўшы «чырвоным» калі не канчаткова разбіць, то прынамсі вельмі аслабіць «белых», Пілсудскі збіраўся пасля працягнуць наступленне на ўсход і шукаў для гэтага саюзнікаў. Сярод іншага ён прыкладаў намаганні, каб стварыць, апрача «чырвоных» і «белых», таксама і «трэцюю Расію», саюзную з Польшчай. Галоўным яе тварам меў быць вядомы расійскі рэвалюцыянер Барыс Савінкаў, які лічыў, што перамагчы бальшавікоў можна толькі абапіраючыся на сялянскі («зялёны») рух і пры актыўнай дапамозе дзяржаў, якія ўзніклі на абломках Расійскай імперыі. У адрозненне ад правадыроў Белага руху, Савінкаў не стаяў на пазіцыях «адзінай і непадзельнай» Расіі і дапускаў прызнанне незалежнасці не толькі Польшчы, але і Беларусі з Украінай. У агульных рысах планы Пілсудскага прадугледжвалі, што створаныя пры польскай падтрымцы расійскія фармаванні возьмуць уладу ў Маскве, а ў якасці платы за падтрымку Савінкаў прызнае заходнія межы Расіі там, дзе іх палічыць патрэбным правесці Пілсудскі.

**Пілсудскі свядома спыніў наступленне. Ён лічыў «белых» больш небяспечнымі за бальшавікоў**

### «Прыходзь да нас, госцю мілы, суседзе дарагі»

Пакуль жа Пілсудскі спрабаваў па меры заняцця новых тэрыторый самастойна закладаць падмурак пад рэалізацыю федэралісцкай канцэпцыі.

**Беларуска-польскія адносіны за гады польска-савецкай вайны пагоршалі.** Прытым не толькі на ўзроўні эліт, але і на ўзроўні простых людзей. Нягледзячы на пафасныя дэкларацыі Пілсудскага пра братэрства, рэальная палітыка польскіх уладаў на занятых землях ім не заўсёды адпавядала. У 1928 годзе гэта мусілі канстатаваць нават аўтары адмысловай аналітычнай працы, падрыхтаванай польскай разведкай:
«Адносіны паміж мясцовым насельніцтвам і польскімі ўладамі паступова пачалі псавацца. На гэта паўплываў шэраг прычынаў, аднак найгалоўнейшай была бяздарнасць нашых уладаў. Іх паводзіны, прыдатныя толькі для акупаванага краю, непрыманне пад увагу настрояў і інтарэсаў беларускага насельніцтва, адсутнасць рашучай і паслядоўнай нацыянальнай палітыкі і г. д. не маглі прынесці пазітыўнага выніку...
Беларусы праглі моцнай улады. Аднак легкадумства, самавольства, частыя злоўжыванні і нецярпімасць чыноўнікаў, няздольных да зразумення інтарэсаў мясцовага насельніцтва, відавочна супярэчылі адозве Галоўнакамандуючага, раздражнялі і выклікалі непрыязь да палякаў, якіх спачатку лічылі братамі і збаўцамі...
Фактам з'яўляецца тое, што пачатковы энтузіязм прыгасаў, пераходзіў у непрыязь і нарэшце зноў ператварыўся ў нянавісць да ўсяго польскага».

*Кароткі нарыс беларускага пытання. Варшава, 1928 (для службовага карыстання)*

Праз тры дні пасля заняцця Вільні, 22 красавіка 1919 года, ён выдаў адозву «Да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага»: «Польскае войска, каторае я з сабой прывёў, каб выкінуць гаспадараванне гвалту і сілы, каб спыніць кіраванне краем проціў волі жыхароў, гэтае войска нясе ўсім вам свабоду. Хачу вам даць магчымасць развязаць унутраныя нацыянальныя і рэлігійныя справы гэтак, як самі захочаце, без якога-небудзь гвалту або націску з боку Польшчы».

На літоўскіх дзеячаў, якія да таго часу далёка прасунуліся ў будаўніцтве ўласнай нацыянальнай дзяржавы і прагнулі зрабіць сталіцай менавіта Вільню, гэтая адозва не зрабіла пазітыўнага ўражання. А вось частка беларусаў пабачыла ў ёй шанц дасягнуць сваіх нацыянальных мэтаў пры дапамозе Польшчы. Дадатковы энтузіязм выклікала выступленне Пілсудскага на сустрэчы з грамадскасцю ў Мінску ў верасні 1919-га не па-польску, а па-беларуску. Старшыня Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта Аляксандр Прушынскі, больш вядомы як паэт Алесь Гарун, выступіў тады са словам у адказ, дзе выказаў Пілсудскаму не толькі падзяку за вызваленне ад бальшавікоў Мінска і Міншчыны, але і надзею на тое, што польскае войска пойдзе далей і вызваліць таксама ўсходнюю частку Беларусі — аж да «старога Смаленска».

Але спраўдзіцца гэтаму было не суджана, бо беларускі нацыянальны рух яшчэ не быў гатовы выступіць у якасці самастойнай сілы, якой палякі былі б толькі памочнікамі. Беларусы не мелі ўласных узброеных фармаванняў і толькі разлічвалі іх стварыць пры дапамозе палякаў. Таму з іхнімі жаданнямі можна было не лічыцца. І Пілсудскі, хоць дазволіў стварыць Беларускую вайсковую камісію, якая спрабавала сфарміраваць беларускія нацыянальныя часці ў польскім войску, так ніколі і не прызнаў урад Беларускай Народнай Рэспублікі. Зрэшты, беларускае пытанне для Пілсудскага было хоць і важным, але ўсё ж не асноўным.

Ключавым жа для яго было пытанне ўкраінскае. Але і стварэнне незалежнай украінскай дзяржавы тады знаходзілася пад вялікім ▶




**Савецкі прапагандысцкі плакат 1920 года аўтарства Уладзіміра Маякоўскага.**




WIKIMEDIA COMMONS

**Юзаф Пілсудскі ў Мінску.** Верасень 1919 года.


WIKIMEDIA COMMONS

**Польскае войска ўступае ў Кіеў.** Вялікая Уладзімірская вуліца. Май 1920 года.

пытаннем, бо Украінская Дырэкторыя на чале з Сымонам Пятлюрам да таго часу цалкам прайграла супрацьстаянне з расійскімі «белымі» і «чырвонымі». Сам Пятлюра мусіў выехаць у Варшаву, і менавіта з ім Пілсудскі вёў патаемныя перамовы. Вынікам стала падпісанне міждзяржаўных дамоў паміж Польшчай і Украінскай Народнай Рэспублікай 20 і 24 красавіка 1920 года. Паводле гэтых дамоўленасцяў, УНР адмаўлялася на карысць Польшчы ад Львова і Валыні. За гэта Польшча прызнавала незалежнасць УНР і абавязвалася дапамагчы ёй адваяваць Правабярэжную Украіну.


КАЛАРЫЗАЦЫЯ ФОТА: PLANETZERO. КРЫНІЦА: FOTO-HISTORY.LIVEJOURNAL.COM

**Выступленне бальшавіцкага лідара Уладзіміра Леніна перад салдатамі**, якія выпраўляюцца на польскі фронт. 5 мая 1920 года.

### Выступленне Аляксандра Прушынскага (Алеся Гаруна) на прыёме, зладжаным Юзафам Пілсудскім у Мінску ў 1919 годзе

«Вітаю цябе, Начальніку, ад імені нашых беларускіх дэлегацыяў, прадстаўляючых тутака беларускае насяленне. Выслаўляю гарачую падзяку за звальненне Менску і Меншчыны ад новага цяжкага нападу маскоўскага імперыялізму, каторы на гэты раз прыбраўся ў бальшавіцкую вопратку.
Але плачуць яшчэ маткі ў Віцебску, стогнуць людзі ў Магілёве, маўчыць, бо забаронены, голас абымшэлых званіц Смаленска.
Верым і спадзяёмся, што разам з вольным Менскам, Вільняй і Горадняй вольнымі і шчаслівымі будуць нашыя адвечныя астрогі на рубяжох Масквы — Віцебск, і Магілёў, і стары Смаленск.
Гэтага мы спадзяёмся, у гэта мы верым — а гэтымі верай і надзеяй абдараваў нас братні народ, каторага слаўнаму прадстаўніку гатовы мы сказаць на Меншчыне не толькі нашае сягонняшняе “дзякуй”, але і заўсёды: “Здароў будзь, прыходзь да нас, госцю мілы, суседзе дарагі”».

## Да Варшавы і назад

Спачатку здавалася, што ўсё ідзе як па масле. Палякі і ўкраінцы пачалі наступленне 25 красавіка 1920 года, не сустрэлі сур’ёзнага супраціву з боку Чырвонай Арміі і 7 мая ўзялі Кіеў. Але толькі часова. Бальшавікі перакінулі сілы з дзянікінскага фронту і 14 мая перайшлі ў наступленне ў Беларусі, а ў канцы мая — і ва Украіне.

Палякі здавалі гарады адзін за адным. У сярэдзіне жніўня Чырвоная Армія стаяла ўжо пад Варшавай.

Вялікая небяспека навісла не толькі над Польшчай, але і над усёй Еўропай. У выпадку перамогі над палякамі бальшавікі збіраліся, не спыняючыся, несці сусветную рэвалюцыю ў Германію і далей. Але няўзгодненасць у дзеяннях розных бальшавіцкіх армій,



**«Цуд на Вісле»** — фрэска ў касцёле аграгарадка Солы (Смаргонскі раён).

WIKIMEDIA.COMMONS

расцягнутасць фронту дый проста фізічная стомленасць байцоў саслужылі кепскую службу Саветам. Здарылася тое, што палякі назвалі «цудам на Вісле». Напружыўшы ўсе сілы і атрымаўшы дапамогу саюзнікаў, Пілсудкі здолеў не толькі стрымаць націск праціўніка, але і перайсці ў контрнаступленне.

Спружына расціснулася ў другі бок. Гэтаксама, як раней адступалі палякі, цяпер адступалі бальшавікі. 15 кастрычніка польскае войска нават ізноў увайшло ў Мінск, але праз два дні пакінула яго бальшавікам, бо яшчэ 12 кастрычніка было заключана пагадненне аб перамір'і і прэлімінарная (гэта значыць, папярэдняя) мірная дамова паміж Польшчай і Савецкай Расіяй. Паводле яе ўмоў, Мінск мусіў застацца на савецкім баку.

### Мір — і жаданы, і трагічны

Вайна ішла ўжо сёмы год, ад яе стаміліся ўсе, усе жадалі міру. І бальшавікі таксама: цярпенне народу заканчвалася. Палякі таксама дасягнулі на ўсходзе тых межаў, якія іх збольшага задавальнялі. Амбіцыйныя федэралісцкія планы Пілсудскага, праўда, правалiліся, але гэта ўспрымалася як палітычная параза яго асабіста, але не ўсёй Польшчы. Таму з укладаннем канчатковай мірнай дамовы праблем не ўзнікла. Яе падпісалі 18 сакавіка 1921 года ў латвійскай сталіцы Рызе пасля некалькіх месяцаў перамоў.

Прайгралі беларусы і ўкраінцы, бо рыжская мяжа па-жывому падзяліла іх этнічную тэрыторыю. Гэта закладала моцны канфліктны патэнцыял на будучыню. І ўрэшце значна адбілася на далейшай гісторыі рэгіёна. ◆

# Барыс Беразоўскі: майстар блефу

**Міністр у 1990-я, мільярдэр пачынаючы з 2000-х, шматгадовы сябар Беразоўскага, а пасля праціўнік у судзе, Пётр Авен сабраў успаміны пра расійскага алігарха ў 800-старонкавую кнігу «Час Беразоўскага». Успамінаюць самыя розныя людзі — ад Анатоля Чубайса да мадэлі Дашы К., апошняй дзяўчыны алігарха. Піша Андрэй Скурко.**

Імя Барыса Беразоўскага за кароткі час паспела абрасці міфамі, як і ў цэлым эпоха, увасабленнем якой ён быў. Людзі паўтараюць тыражаваныя тэлевізарам штампы пра «ліхія дзевяностыя», модны Юрый Дудзь у сваім ток-шоу называе іх эпохай, «калі банкіры кіравалі Расіяй».




І Беразоўскі паўстае ў масавай свядомасці такім «стваральнікам каралёў», які ставіў і здымаў міністраў, браў самыя ласыя кавалкі эканомікі, урэшце прывёў да ўлады Пуціна. Колькі тут праўды?

У адрозненне ад Беразоўскага, які скончыў жыццё ў Лондане, выгнаны і «абрабаваны» былым хаўруснікам Раманам Абрамовічам, Пятра Авена не назавеш апальным. Ён уваходзіць у кіраўніцтва «Альфа-банка», яго дзеці вучацца ў ЗША, сам ён мае нерухомасць у Маскве і Вялікабрытаніі, дапамагае бальніцы ў Латвіі, на радзіме дзеда — латышскага стралка.

Гэта Авен, дарэчы, у свой час пазнаёміў Беразоўскага з Валянцінам Юмашавым — зяцем прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына і цесцем яшчэ аднаго алігарха Алега Дзерыпаскі.

### Чалавек гарызанталі

Беразоўскі пачынаў як навуковец-матэматык. У савецкі час, калі ніхто і марыць не мог пра скупку дзяржаўных кампаній, асабнякі ў Лондане і яхты, ён хацеў атрымаць Нобелеўскую прэмію. Меў добра распрацаваны план — як будзе арганізоўваць публікацыі, хто ўвойдзе ў яго працоўную групу і г. д. Пры гэтым па-сур'ёзнаму матэматыкам не быў — меў за плячыма Лесатэхнічны інстытут. І пры гэтым здолеў стаць доктарам навук.

Яго калегі па інстытуце згадваюць, што ён быў хутчэй «арганізатарам савецкай навукі», чым самакаштоўным навукоўцам — рабіў кар'еру, узначальваў Раду маладых навукоўцаў, на пасадзе загадчыка лабараторыі больш «прыкрываў» і «даставаў», чым сам нешта даследаваў. А артыкулы за яго пісалі іншыя.

Беразоўскі быў геніем сістэмы «гарызантальных» сувязяў, якая дзейнічала ва ўмовах савецкага дэфіцыту ўсяго. Калі можна было стаць пасярэднікам паміж рознымі «цэнтрамі сілы». Першыя кантакты з АўтаВАЗам, якім ён пасля завалодае і перафарматуе ў ЛагаВАЗ, і былі выкліканыя гэтым дэфіцытам. Беразоўскі наладзіў такі абмен паслугамі: маладыя навукоўцы пісалі артыкулы і дысертацыі кіраўніцтву АўтаВАЗа і за гэта атрымлівалі запчасткі да «Жыгулёў», якія немагчыма было купіць.

Зарабіць, увогуле, намагаўся на ўсім: раз вёз у сталіцу Дагестана Махачкалу прасціны (16 штук) і туфлі (шэсць пар) і быў затрыманы ў аэрапорце. У савецкі час існаваў крымінальны артыкул — «Скупка ў вялікай колькасці дзеля перапродажу», — і Беразоўскаму ён свяціў. Але, паводле ўспамінаў, скандал удалося замяць з удзелам КГБ, з якім «у Боры была нейкая сувязь, ён камунікаваў наўпрост з куратарам Інстытута праблемаў кіравання».

**Сяргей Дарэнка:** Ён умеў абслугоўваць людзей, якія былі нумар адзін, умеў угадваць іх заганы. Беразоўскі казаў: «Разумееш, галоўнае для іх — стабільнасць. Я зараз быў у Сапармурата Ніязава, я быў у Назарбаева, галоўнае — стабільнасць. І галоўнае ім даказаць, што гэта правільна, а не шкурна». Нумар адзін у кожнай краіне чуў ад Беразоўскага тое, што хацеў пачуць. У тым ліку рэчы цалкам заганныя. І Беразоўскі дапамагаў ім падвесці пад іх інтэлектуальную базу.



**Барыс Беразоўскі** (1946–2013) — расійскі бізнэсмен і палітык, адзін з найбольш вядомых і ўплывовых алігархаў 1990-х.
У савецкі час рабіў кар'еру ў калянавуковай сферы, у 1983-м стаў доктарам тэхнічных навук, у 1991-м — членам-карэспандэнтам Акадэміі навук СССР.
Яшчэ з 1970-х меў сувязі з Волжскім аўтамабільным заводам, якія былі скарыстаныя пры заснаванні ў 1989-м кампаніі «ЛагаВАЗ», якая займалася продажам аўтамабіляў. Пайшоўшы ў бізнэс, Беразоўскі вельмі хутка нажыў вялікія капіталы, якія павялічваў, укладаючы ў самыя розныя галіны эканомікі: сыравінную, банкаўскую, медыясферу і г. д. Да пачатку 2000-х кантраляваў, сярод іншага, тэлекампаніі ОРТ (Першы канал) і ТВ-6.
У 1990-я імкнуўся актыўна ўплываць на палітычныя працэсы, лічыўся адным з найуплывовейшых людзей у Расіі. Займаў і афіцыйныя палітычныя пасады, хоць і не першага шэрагу — намеснік старшыні Рады бяспекі Расіі, выканаўчы сакратар СНД.
Пасля прыходу да ўлады Уладзіміра Пуціна не знайшоў з ім супольнай мовы і ў 2001 годзе эміграваў у Брытанію. На радзіме супраць Беразоўскага быў заведзены шэраг крымінальных спраў. Некалькі прайграных судоў значна пагоршылі яго матэрыяльны стан, былы алігарх страціў амаль увесь свой капітал. Памёр 23 сакавіка 2013 года. Афіцыйна лічыцца, што скончыў жыццё самагубствам, хоць не выключана, што мог быць і забіты.

Поспехі Беразоўскага, які стаў доктарам навук, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук, сведчаць пра тое, што ён умеў упісвацца ў абстаноўку, добра адчуваў рэальнасць і межы дазволенага, адзначае Авен.

Прабіваць неймаверныя рэчы яму ўдавалася дзякуючы харызме і здольнасці пераконваць людзей. Ён не быў сур'ёзным матэматыкам — і пры гэтым чытаў лекцыі ў ЗША. «Умеў даступна выкласці дзве старонкі агульнага тэксту, і гэтыя дзве старонкі пасля з'яўляліся то тут, то там», — адзначае матэматык Аляксандр Гнедзін.

### Ногі пераламаю

Знаёмства Беразоўскага з Уладзімірам Пуціным адбылося ў 1991 годзе. Авен чытаў лекцыі ў ЗША і пазнаёміўся з нафтавым магнатам Робертам Хафнерам. Той зацікавіўся магчымасцю займець кантакты ў Расіі, дзе чакалася прыватызацыя нафтагазавай галіны. Беразоўскі ўзяўся звесці дэлегацыю амерыканскіх нафтавікоў і палітыкаў з патрэбнымі людзьмі. Гваздом візіту мела быць сустрэча з мэрам Санкт-Пецярбурга Анатолем Сабчаком, якую з яго боку забяспечваў памочнік па замежных сувязях Пуцін.

Напярэдадні Беразоўскі выпіў лішняе за абедам — і на сустрэчы проста заснуў. Пасля злосны Пуцін абяцаў «пераламаць ногі гэтаму грузіну» (так ён абазначыў Беразоўскага), калі той яшчэ раз з'явіцца ў горадзе. Пасля памірыліся.

### Мы з Мішам рашылі ўдвох

Беразоўскі быў настолькі пагружаны ў карумпаваную постсавецкую сістэму, што экстрапаліраваў яе законы на цэлы свет. У выніку яго ўяўленні пра іншыя краіны былі досыць спрошчаныя. Напрыклад, ён лічыў, што «Амерыкай кіруюць сем або восем сем'яў мільярдэраў». І на аснове гэтага вырашыў: Расія — краіна невялікая, мы з Мішам (Хадаркоўскім) зможам удвох.

Яго і прывялі да краху гэтыя ўяўленні. Улада — намнога складанейшы механізм.

На асабістым узроўні Беразоўскі мог дамовіцца хоць з чортам лысым (на чалавека маштабу старшыні Цэнтрабанка Расіі яму трэба было 40 хвілін), але шырэйшай карціны не ўяўляў. Стратэгам не быў. ▶

▶ Пра гэта сведчыць і неразбярыха з афармленнем актываў: пакуль справы ішлі, яны ішлі, а калі бізнэс-імперыя пачала руйнавацца, аказалася, што яна складаецца «з нейкага фантастычнага фінансавага актыву, які незразумела як аформлены пры поўнай адсутнасці любой структуры, на вяршыні неіснавання якой стаяць два самотныя чалавекі». Меліся на ўвазе Беразоўскі і яго калега па бізнэсе Бадры Патаркацышвілі.

Пасля смерці бізнэс-партнёра Беразоўскі спрабаваў аформіць на сябе нейкія актывы нават у Беларусі — з гэтым звязаная гучная гісторыя з адвакатам Эмануілам Зельцэрам. Той прыляцеў у Мінск з Лондана самалётам Беразоўскага і проста ў аэрапорце быў «прыняты» і дастаўлены ў СІЗА. Паводле Зельцэра, Патаркацышвілі ўклаў у беларускую нафтахімічную галіну 200 мільёнаў даляраў. Беразоўскі сцвярджаў, што мае права на 50 % усіх яго актываў, аднак у завяшчанні Бадры адпісаў усё сваякам... У выніку Зельцэра асудзілі на тры гады за выкарыстанне заведама лжывых дакументаў і замах на камерцыйны шпіянаж.

## Барыс лічыў, што ён годны кіраваць Расіяй

### Хто прызначыў Пуціна

Атрымаўшы палітычны прытулак у Вялікабрытаніі, Беразоўскі выходзіў на вуліцы Лондана з плакатам «Я цябе спарадзіў, я цябе і спыню». Мелася на ўвазе, што алігарх прывёў да ўлады Уладзіміра Пуціна. З кніжкі Авена вынікае, аднак, што ў рэальнасці тое прызначэнне абышлося без Беразоўскага.

Як успамінаў зяць, памочнік і рэдактар мемуараў Ельцына Валянцін Юмашаў, Барыс

Пётр Авен: [У яго была] паталагічная абыякавасць да чужой бяды. У 1987-м у нашай сям'і адбылася трагедыя. У маёй жонкі ўжо ў раддоме з-за памылкі дактароў загінула ненароджанае дзіця. Я быў зусім забіты. Жонка ледзь не памерла, дома вакол мяне былі непатрэбныя дзіцячыя рэчы. Беразоўскі прыйшоў да мяне дамоў. Рытуальна штосьці сказаў — тыпу «шкада». А пасля дастаў план нашага сумеснага з АўтаВАЗам бізнэсу і прапанаваў абмеркаваць. Я быў не ў стане — страта дзіцяці была першай сур'ёзнай трагедыяй у маім жыцці. Ён уразіўся абсалютна шчыра: «Ты што? Дзіця ўжо памерла. Гэта мінулае. Хадзем наперад!» І гэта была не спроба мяне супакоіць. Барыс сапраўды так адчуваў. Мінулага не існавала.

Мікалаевіч ад 1996-га задумваўся, хто будзе прэзідэнтам Расіі пасля яго. Пры ўсіх сваіх заганах узурпаваць уладу Ельцын не збіраўся. Выбар у 1999 годзе быў між кандыдатурамі Сяргея Сцяпашына, тагачаснага прэм'ер-міністра РФ, і Уладзіміра Пуціна, тагачаснага дырэктара ФСБ і кіраўніка Рады бяспекі.

Рашэнне аб прызначэнні Пуціна, успамінае Юмашаў, прымалася вузкім колам: Ельцын, Валошын (кіраўнік адміністрацыі Ельцына), Анатоль Чубайс, ён і Таццяна Дзьячэнка, дачка Ельцына. Спрачаліся чатыры гадзіны. Супраць быў адзін Чубайс, і тое толькі таму, што пасля дэфолту 1998-га прагназаваў эканамічнае падзенне цягам наступных года-паўтара, за час якога папулярнасць новага прэзідэнта можа «згарэць».

Ні Беразоўскага, ні Абрамовіча, ні каго іншага з «алігархаў» на той сустрэчы, дзе прымалася рашэнне пра далейшы лёс Расіі, не было.

Беразоўскі на той момант быў... нікім: дарадцам Юмашава на грамадскіх пачатках, якіх было каля 20 чалавек. Затое, учуўшы аднекуль, што Валошын збіраецца прапанаваць Пуціна, Беразоўскі, нікому слова не сказаўшы, паехаў віншаваць апошняга: «Прынятае рашэнне, Уладзімір Уладзіміравіч, вы будзеце наступным прэзідэнтам». Закінуў такую вудачку на будучыню.

З Ельцыным жа, паводле Юмашава, Беразоўскі бачыўся ў лепшым выпадку два разы за жыццё.

### Самагубства ці забойства?

Смерць Беразоўскага таксама нараджала пытанні. Ён напярэдадні прайграў суд Раману Абрамовічу і згубіў вялікія грошы, дэпрэсаваў. Але нашумелае забойства ў Лондане былога супрацоўніка ФСБ Аляксандра Літвіненкі дый нядаўняе атручанне Скрыпалёў наводзяць на думку, што і галоўны вораг Пуціна мог памерці не сам.

Але паводле словаў публіцыста Станіслава Бялкоўскага, з якім Беразоўскі быў блізкі ў пачатку 2000-х, ён і раней часта бачыў Беразоўскага «ў абсалютна дэпрэсіўным стане». «Калі ён бачыў такіх людзей, як вы ці Ельцын, — то, канечне, не дазваляў сабе быць дэпрэсіўным. У яго ўзнікаў жудасны прыліў адрэналіну, і ён перамагаў гэтую дэпрэсію... але яго суіцыдальныя схільнасці мне былі зразумелыя за многа год... ён выпаў з эпохі...».

Бялкоўскі лічыць, што Пуцін і каманда на пачатковым этапе не знішчалі Беразоўскага, а наадварот, добра з ім абышліся: выкупілі ў яго за 2 млрд даляраў актывы, якія не каштавалі нічога, не былі належным чынам аформленыя на Беразоўскага або неліквідныя. «Яму "па паняціях" выплацілі 2 млрд даляраў і лічылі, што з ім разлічыліся і ён выходзіць з гульні з буйной сумай грошай. Але Барыс так не лічыў. Ён думаў, што годны кіраваць Расіяй, ён лічыў сябе безумоўна вартым прэзідэнцкай пасады».

Зрэшты, ці не сведчыць факт выплаты Беразоўскаму 2 млрд даляраў, што ўсё ж нешта Авен у сваёй кнізе хавае? Тым больш што многае асцярожны аўтар вынес за дужкі сваёй працы.

Пра Беразоўскага і эпоху назапашвання капіталаў у Расіі можна было б напісаць 8000 старонак. У кнізе Авена «Час Беразоўскага» толькі 800 — і гэта захапляльнае і павучальнае чытво. ◆

# Сяргей Вайцяхоўскі, генерал без Айчыны

РАСІЙСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ВАЕННА-ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ (АТРЫМАНА АД КАЛЕКЦЫЯНЕРАЎ АЛЯКСАНДРА І ІНЫ РАДАЕВЫХ)

## Нарадзіўся побач з Шагалам, памёр побач з Адамам Станкевічам

На фота: Афіцэры 1-й чэхаславацкай дывізіі з жонкай і сынам камандзіра дывізіі палкоўніка Мікалая Мамантава (паходзіў з дваран Магілёўскай губерні). Палоннае (Украіна), верасень 1917 года. Крайні справа — начальнік штаба дывізіі **Сяргей Вайцяхоўскі**.

**Пакуль улады БНР шукалі таго, хто арганізуе беларускае войска, ён быў ад радзімы ўсё далей. Спрабаваў уратаваць Калчака, стаў чэшскім нацыянальным героем… Дык а хто ён для нас? Расказвае ваенны гісторык Віталь Чырвінскі.**

14 сакавіка 1939 года. 18.45. Мястэчка Містэк у Маравіі. Толькі што сціхлі гукі кароткага бою каля чатырохпавярховага будынка Чаянкавых казармаў. На брукаванай дарозе і ўздоўж высокай цаглянай агароджы вучэбнага пляца валяюцца целы жаўнераў вермахта. У цёмных вокнах з разбітымі шыбамі замёрлі сілуэты чэшскіх вайскоўцаў са зброяй.

Яны яшчэ не ведаюць, што гэты бой стане першым і апошнім прыкладам арганізаванага супраціву чэхаславацкай арміі. Чэхаславацкія ўлады на чале з 67-гадовым прэзідэнтам-германафілам без супраціўлення здалі суверэнітэт Чэхаславакіі. Краіна імгненна была падзелена, перайменавана і стала пратэктаратам нацысцкай Германіі.

Але, можа, інакш і не магло быць? Аўтарытэт нацысцкага лідара суседняй краіны сярод чэхаславацкіх афіцэраў і генералаў у той час ▶

зашкальваў, а вермахт для іх быў прыкладам вайсковай моцы.

Ледзь не адзіным военачальнікам Чэхаславакіі, які адмыслова рыхтаваў войскі сваёй акругі да ўзброенага супраціўлення, быў ураджэнец беларускай зямлі генерал Сяргей Вайцяхоўскі.

### Шляхціц і зямляк Марка Шагала

Вайцяхоўскі нарадзіўся 16 кастрычніка 1883 года ў Віцебску.

Бацька — Мікалай Карлавіч, афіцэр Расійскай імператарскай арміі, паходзіў з беларуска-літоўскага шляхецкага роду герба «Любіч». Маці — Марыя з Гнатоўскіх герба «Лада» — па бацьку мела шляхецкае паходжанне, а па матчынай лініі належала да расійскага графскага роду Ялагіных.

Сяргей пачатковую адукацыю атрымаў у Віцебскай мужчынскай гімназіі, дзе раней вучыліся яго бацька і дзядзька Міхаіл, будучы генерал расійскай арміі.

У жніўні 2015 года ўлады Віцебска прынялі рашэнне назваць адну з будучых гарадскіх вуліц іменем генерала Сяргея Вайцяхоўскага. Праўда, з таго часу прайшло ўжо тры з паловай гады, але такой вуліцы на карце горада па-ранейшаму няма.

Цікава, што ў наступным, 2016-м, годзе адна з віцебскіх цэнтральных вулачак атрымала імя Марка Шагала, які быў амаль аднагодкам Сяргея Вайцяхоўскага і ў той самы час жыў у Віцебску. Напэўна, незабыўныя гарадскія пейзажы для абодвух хлапчукоў былі аднолькава пазнавальныя і блізкія. Праз гады Марк перанясе свае ўспаміны пра Віцебск на палотны. А Сяргей тым часам будзе ўпэўнена ўздымацца па прыступках вайсковай кар'еры.




**Чэхаславацкія легіянеры**, 1917–1920 гады. Справа — **эмблема Чэхаславацкага корпуса.**

### Расійскі афіцэр, што ваяваў за чэхаў

Афіцэрскую службу ён пачне на Каўказе пасля выпуску з Канстанцінаўскага артылерыйскага вучылішча. Затым будзе выкладчыцкая праца ў Беластоку і вучоба ў Мікалаеўскай акадэміі Генеральнага штаба. Між тым Вайцяхоўскі паспее ажаніцца: з будучай жонкай Маргарытай 23-гадовы афіцэр пазнаёміўся дзякуючы службе — быў ад'ютантам яе бацькі, палкоўніка Цемнікава. У 1910 годзе ў пары нарадзіўся сын.

Перад вайной Вайцяхоўскі яшчэ павучыў тактыцы маскоўскую дваранскую моладзь у Аляксандраўскім вайсковым вучылішчы і нават здолеў скончыць авіяцыйную школу Імператарскага Маскоўскага таварыства паветраплавання. Мог стаць класным пілотам, але 1914 год унёс свае крывавыя карэктывы. За баі ў Галіцыі, Карпатах і на Паўночным фронце наш зямляк заслужыў чатыры баявыя ордэны.

У лістападзе 1915 года Вайцяхоўскі атрымае прызначэнне ў штаб адноўленага 20-га армейскага корпуса — таго самага, які перад гэтым, у лютым, амаль у поўным складзе загінуў у Аўгустоўскіх лясах. Будзе ваяваць на беларускай зямлі пад Вілейкай і Маладзечнам.

У студзені 1916 года, паранены асколкам снарада ў нагу і пад лапатку, адмовіцца ад эвакуацыі




**Віцебск. Рынкавая плошча.** Марк Шагал (1917 год).

ў тыл. Са жніўня 1917 года будзе выконваць абавязкі начальніка штаба 1-й Чэхаславацкай дывізіі, якая ў складзе расійскай арміі ваявала на Румынскім фронце, узначаліць 3-ці Чэхаславацкі імя Яна Жыжкі стралковы полк. Не прыме ідэй Кастрычніцкага перавароту і без ваганняў стане ў шэрагі Белага руху.

Чэхаславацкі корпус пасля кастрычніка некалькімі эшалонамі рушыў праз тэрыторыю Савецкай Расіі ва Уладзівасток, каб адтуль трапіць у Францыю і ўзяць удзел у баях на Заходнім фронце супраць Германіі і Аўстра-Венгрыі за незалежнасць Чэхаславакіі.

**Калчакавец**

У той час, калі ў Менску абвесцяць незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі і зоймуцца пошукам вайскоўцаў, здольных арганізаваць беларускую ўзброеную сілу, падпалкоўнік Сяргей Вайцяхоўскі ў складзе Чэхаславацкага корпуса будзе імчацца па чыгунках Расіі. У маі 1918 года ён без страт адаб'е ў бальшавікоў Чэлябінск, атрымае чын палкоўніка. Ужо ў кастрычніку Чэхаславацкая нацыянальная рада «за адзнакі ў баях і выбітную службу» прысвоіць яму чын генерал-маёра.

Калі ў чэхаславакаў здарыцца канфлікт з Аляксандрам Калчаком

## За самавольнае пакіданне фронту Вайцяхоўскі застрэліў з рэвальвера генерал-маёра Пятра Грывіна

(той не мог адступаць з-пад Омска, бо Чэхаславацкі корпус заняў чыгунку), Вайцяхоўскі пяройдзе на службу да Калчака і ўзначаліць 2-ю армію. Будзе бязлітасна біць і чужых (чырвоных), і сваіх


WIKIMEDIA COMMONS

(белых). У лістападзе 1919 года за самавольнае пакіданне фронту застрэліць з рэвальвера камандзіра 4-га Сібірскага зводнага корпуса генерал-маёра Пятра Грывіна. Рашуча задушыць мяцеж, узняты супраць яго ў Нова-Нікалаеўску часткамі Сібірскай арміі на чале з палкоўнікам Аркадзем Івакіным. У студзені 1920 года паспяхова выведзе свае войскі з акружэння пад Краснаярскам.

Падчас легендарнага Вялікага Сібірскага ледзянога паходу пасля смерці ад абмаражэння генерала Уладзіміра Капеля менавіта Вайцяхоўскі ўзначаліць паход. Сіламі войскаў, аслабленых эпідэміяй тыфу, ён здолее нанесці шэраг паражэнняў Чырвонай Арміі пад Іркуцкам. Будзе спрабаваць вярнуць залаты запас, захоплены бальшавікамі, і беспаспяхова імкнуцца вызваліць з палону Калчака, якога Ленін загадаў тэрмінова расстраляць. А пасля адмовіцца ад бессэнсоўнага штурму Іркуцка і выведзе свае абяскроўленыя сілы па лёдзе Ангары і Байкала ў Забайкалле.

Нядоўга Вайцяхоўскі быў у складзе Далёкаўсходняй арміі Грыгорыя Сямёнава і ўжо вясной 1920-га камандзіраваны ў Крым. Па просьбе Пятра Урангеля ён кіраваў эвакуацыяй белых. У канцы выехаў і сам: спярша ў Канстанцінопаль, а затым у Чэхаславакію. ▶


ARTPOISK.INFO

**Вялікі Сібірскі ледзяны паход** — адступленне часткі арміі Калчака на ўсход Расіі. Войска прайшло амаль 2 000 км ад Барнаула да Чыты. З канца студзеня адступленнем камандаваў Сяргей Вайцяхоўскі. Карціна Сяргея Чуданава.

### Чэхаславацкі генерал

У маі 1921 года генерал Сяргей Вайцяхоўскі паступіў на службу ў чэхаславацкую армію. Камандаваў 9-й пяхотнай дывізіяй, якую ў 1927 годзе прызнаюць найлепшай ва Узброеных сілах Чэхаславакіі. Узначаліў войскі Мараўска-Сілезскай земскай вайсковай акругі.

Па ўспамінах сучаснікаў, пры сустрэчах па абавязку службы з савецкімі вайсковымі прадстаўнікамі Вайцяхоўскі ніколі не падаваў ім рукі і прынцыпова размаўляў толькі па-французску. У 1938 годзе ён узначаліў 1-ю Чэхаславацкую армію. На германа-чэхаславацкай граніцы фарсіраваў будаўніцтва абарончых фартыфікацыйных збудаванняў. На думку чэшскага гісторыка Іржы Фідлера, «працаваў для сваёй новай радзімы на мяжы фізічных магчымасцяў».

### Замест уласаўцаў маглі быць вайцяхоўцы

Падчас Мюнхенскага крызісу 1938 года Вайцяхоўскі заняў выразную антыкапітуляцыйную пазіцыю, за што быў адпраўлены ў адстаўку. Жыў у Празе. Ва ўмовах германскай акупацыі стварыў падпольную арганізацыю «Абарона народа».

Быў ваенным міністрам у падпольным чэхаславацкім урадзе, але нядоўга. Магчыма, з-за недаверу палітыкам, якія спачатку здалі сваю краіну Германіі, а потым увайшлі ў эмігранцкі ўрад і пачалі каардынаваць дзейнасць падполля.

Вайцяхоўскі знаходзіўся пад пільным наглядам гестапа. Па ўспамінах унука, у 1944 годзе атрымаў ад немцаў прапанову ўзначаліць замест генерала Андрэя Уласава Расійскую вызваленчую армію, якая ваявала на баку Гітлера. Адмовіўся са словамі, што ненавідзіць камуністаў, але супраць рускіх салдат ваяваць не будзе.

Мюнхенская змова — пагадненне пра перадачу Германіі Судэцкай вобласці Чэхаславакіі. Пагадненне падпісалі Вялікабрытанія і Францыя, каб улагодзіць Адольфа Гітлера і Беніта Мусаліні ды атрымаць ад іх гарантыі ненападу.

Вясной 1945 года адправіў сваю сям'ю на захад, у амерыканскую зону акупацыі, а сам застаўся ў Празе.

### Вязень

12 мая 1945 года 62-гадовага генерала арыштавала савецкая контрвыведка. Яго абвінавацілі ў тым, што ён быў членам Расійскага агульнавайсковага саюза — белагвардзейскай эмігранцкай арганізацыі. За «дапамогу міжнароднай буржуазіі» і «шпіянаж» Вайцяхоўскі быў асуджаны да 10 гадоў зняволення.

Пакаранне адбываў спачатку ва Унжанскім лагеры пад Ніжнім Ноўгарадам, а пасля быў этапаваны ў Іркуцкую вобласць. 25 мая 1949 года ён прыбыў у наваствораны асобы лагер № 7 з санаторна-курортнай назвай «Азёрны» (Азёрлаг). Гэты лагер строгага рэжыму для «палітычных», шпіёнаў і контррэвалюцыянераў размяшчаўся недалёка ад тых месцаў, дзе генерал-маёр Белага руху біўся з чырвонымі пасля адчайнага Вялікага Сібірскага ледзянога паходу.

З-за слабога здароўя, падарванага на лесанарыхтоўках Унжлагу, і ўзросту Вайцяхоўскага кваліфікавалі як інваліда. Паставілі працаваць санітарам лагернага шпіталя.

67-гадовы генерал памёр 7 красавіка 1951 года. Па афіцыйных звестках — ад сухотаў і старэчага маразму, насамрэч — ад страўнікавага крывацёку (у Вайцяхоўскага была язва). Пахаваны ў магіле, пазначанай нумарам 4–36, на могілках Цэнтральнай бальніцы №1 Азёрлага каля сяла Шаўчэнка Тайшэцкага раёна Іркуцкай вобласці. Месца магілы страчана.



ЦА ФСБ РФ (атрымана ад Аляксандра Ііны Радаевых)

**Турэмнае фота** Сяргея Вайцяхоўскага.

У кастрычніку 1938 года падчас захопу Германіяй Судэцкай вобласці чэхаславацкія войскі адыходзілі без бою. Выключэннем стаў адзіны выпадак, пра які напісалі газеты. «У Судэтах, на лясной чэшскай граніцы, афіцэр, пакінуўшы ў лесе 20 сваіх жаўнераў, выйшаў на дарогу і адкрыў агонь па нямецкай калоне. Яго лёс невядомы». Руская паэтэса Марына Цвятаева, якая ў той час жыла ў эміграцыі ў Парыжы, узрушаная гэтай падзеяй, напісала верш.

... Понесена
Добрая весть,
Что — спасена
Чешская честь!

Значит — страна
Так не сдана,
Значит — война
Всё же — была!

— Край мой, виват!
— Выкуси, герр!
...Двадцать солдат.
Один офицер.

Чэхаславацкая Рэспубліка спыніла існаванне 14 сакавіка 1939 года, калі на тэрыторыю краіны ўвайшлі войскі вермахта. Прэзідэнт Чэхаславакіі Эміль Гаха загадаў сваім войскам заставацца ў месцах дыслакацыі і не аказваць супраціву. На чэшскіх землях быў створаны германскі пратэктарат Багемія і Маравія.

### Чый герой?

Пасля дзесяцігоддзяў забыцця імя Сяргея Вайцяхоўскага ўспомнілі ў Расіі, Чэхіі, Славакіі і Беларусі.

У 1996 годзе ён быў рэабілітаваны Генеральнай пракуратурай Расійскай Федэрацыі. Яшчэ праз год прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел «за выдатныя заслугі ў галіне абароны і бяспекі дзяржавы» пасмяротна ўзнагародзіў Вайцяхоўскага найвышэйшай узнагародай Чэхіі — ордэнам Белага Льва 3-й ступені. У гарадах Брно і Прага адкрылі мемарыяльныя дошкі.

У красавіку 2004 года амбасада Чэшскай Рэспублікі звярнулася да Тайшэцкага ўпраўлення МУС Іркуцкай вобласці з ініцыятывай перапахаваць парэшткі Сяргея Вайцяхоўскага «на радзіме ў Чэхіі», але на той час ад пахавання зэкаў засталіся толькі зарослыя пагоркі...

У Беларусь памяць пра земляка вярнулася дзякуючы энтузіястам, калекцыянерам і аматарам гісторыі Аляксандру і Іне Радаевым, якія сумесна з амбасадамі Чэхіі і Славакіі арганізавалі выставу «Сяргей Вайцяхоўскі. Генерал дзвюх армій». Яна прайшла ў 2012 годзе ў Нацыянальным гістарычным музеі, а ў 2018-м яе паўтарылі ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

## У жыцці Вайцяхоўскага не знайшлося свайго Езавітава

У 2013-м асоба генерала Вайцяхоўскага з'явілася ў серыі плакатаў «Палкаводцы і военачальнікі зямлі беларускай».

Унукі генерала жывуць у ЗША. Унучаты пляменнік Вайцяхоўскага Сяргей Цілі каля 20 гадоў пражыў у Мінску, дзе і пахаваны.

Безумоўна, Сяргей Вайцяхоўскі не стаў героем беларускай гісторыі. Нягледзячы на паходжанне і факт нараджэння на нашай зямлі, ён стаў героем чужых гісторый — чэхаславацкай і расійскай. Так склаўся лёс многіх людзей з яго пакалення. Некалі да генерала Станіслава Булак-Балаховіча прыехаў Кастусь Езавітаў. Усяго некалькі сустрэч — і генерал даведаўся, што ён беларус. Не проста даведаўся, але прызнаў сябе беларусам. Ці магло такое адбыцца з нашым героем? Чаму не. Проста ў жыцці Вайцяхоўскага не знайшлося свайго Езавітава. ◆

### Адмысловы «мяснік» ірваў трупы на кавалкі, каб хтосьці жывы не ўцёк пад выглядам мёртвага

У пачатку восені 1949 года ў Азёрлаг чарговым этапам прыбыла партыя палітычных зняволеных. Усе былі ў аднолькавых шэрых куртках. На грудзях, спіне і нагавіцах вышэй за калена прышытыя белыя квадраты, на якіх чорнай фарбай пастаўленыя нумары. Сярод масы народу быў і каталіцкі святар **Адам Станкевіч** — патрыярх беларускага хрысціянскага руху, палітычны і культурны дзеяч, выдавец, гісторык, літаратуразнаўца, публіцыст. Асуджаны на 25 гадоў за «дапамогу міжнароднай буржуазіі; за прапаганду, якая змяшчала заклік да звяржэння, падрыву або паслаблення Савецкай улады» і іншую лухту, змардаваны бясконцымі допытамі ў казематах віленскай Лукішскай турмы, Адам Станкевіч быў адпраўлены ў Сібір, каб змагацца за сваё жыццё на будаўніцтве Байкала-Амурскай магістралі.

Змагацца ўжо не хапіла сілаў. Хворы на сэрца ксёндз памёр праз тры месяцы ў сваім бараку, шчыльна застаўленым двух'яруснымі нарамі. Ёсць вялікая імавернасць, што Адам Станкевіч і Сяргей Вайцяхоўскі перасякаліся ў лагеры. Сталовая, баракі і, галоўнае, лагерны шпіталь, дзе стары генерал працаваў санітарам — вось дзе маглі сустрэцца землякі. Тым больш, над хворым Станкевічам апекаваліся іншыя зняволеныя, ведаючы пра святарскі сан суседа па няшчасці.

Пра смерць і пахаванне Адама Станкевіча захаваліся жудасныя ўспаміны аднаго са зняволеных Азёрлага Віктара Сікоры. «У Тайшэце было так устаноўлена, што, калі каго хавалі, абавязкова нябожчыка спачатку прывозілі ў морг, каб зрабіць разразанне. Баяліся, каб хтосьці жывы не ўцёк пад выглядам мёртвага. "Працаваў" там адмысловы "мяснік", які ўпрост ірваў труп на кавалкі... Вырашыў я, што пахаваю ксяндза Адама, правяду яго ў апошнюю дарогу. Узяў сані, палазы якіх былі з дрэва зробленыя. Вёз іх на сабе, бо коней не было... Падвозім сані да варотаў. Яны адчыняюцца. З дзяжуркі выходзіць "мяснік" з "кішнёй", што рыбакі зімой лёд прабіваюць. І ёй ксяндза ўдарыў у грудзі. А пасля другі выходзіць з кувалдай і б'е яго па галаве. Праламаў яе, паляцелі мазгі. Я ледзь не самлеў. Ляжыць ксёндз у труне (хоць гэта толькі назва, а не труна), заліты крывёю...» Імаверна, што такім самым чынам на тыя самыя могілкі праводзілі ў апошні шлях і генерала Вайцяхоўскага, які перажыў ксяндза Станкевіча на паўтара года.





АСОБЫ АРХІЎ ЛІТВЫ

Ідэйны беларус, ксёндз Адам Станкевіч **перад арыштам і ў зняволенні.**

# Бацькі і дзеці па-французску:

## як выхоўваліся дзеці вялікіх прэзідэнтаў і як склалася іх жыццё

**Наколькі дэ Голь быў узорным сем'янінам, настолькі Мітэран жыў двайным жыццём. Пішуць гісторыкі Яўгенія Ясько і Мікалай Кудласевіч.**

Шарль дэ Голь (1890–1970) быў выключным палітыкам, які вярнуў Францыі статус супердзяржавы — гэтым разам ядзернай. У асабістым жыцці гэта быў чалавек вельмі кансерватыўны.

У 1921 годзе дэ Голь сустрэў каханне свайго жыцця, шэравокую красуню Івону Вандру — дачку кандытара. У той жа год Шарль і Івона згулялі вяселле, а неўзабаве з'явіўся на свет іх сын Філіп. Услед за ім у сямейнай пары нарадзіліся і дзве дачкі: Элізабет (1924) і Анна (1928).



SHUTTERSTOCK.COM, BY NIKONAFT

**Помнік генералу дэ Голю** на Елісейскіх Палях у Парыжы.

### Не такая, як усе

Нараджэнне Анны спыніла бясхмарнае жыццё гэтай сям'і. Лекары паставілі дзіцяці дыягназ — сіндром Даўна. Небарачка так і не навучылася гаварыць, не магла сама есці і хадзіць, часта білася ў канвульсіях.

Дзіця з такой хваробай можна было здаць у інтэрнат, але будучы прэзідэнт умеў годна прымаць выклікі лёсу. Анна засталася з бацькамі.

Прыклад любові тут падаваў сам галава сям'і. Анна не магла заснуць без таты, і 40-гадовы афіцэр планаваў свой дзень так, каб абавязкова пакалыхаць малую. Адданасць бацькі знайшла водгук у сэрцы дзяўчынкі: адзінае слова, якое яна навучылася выразна вымаўляць, было «тата».

У сваіх мемуарах дэ Голь пасля пісаў: «Гэтае дзіця было для мяне Божай ласкай, яно дапамагло мне

стаць вышэйшым за людскія зрывы, паглядзець на іх іншымі вачыма».

У студзені 1948 года Анна захварэла на моцны грып, ён перайшоў у бранхіт, даў ускладненні. Пасля гэтага слабое сэрца дзяўчыны спынілася. Сціплая пахавальная цырымонія скончылася словамі несуцешнага бацькі: «Цяпер яна стала такой, як усе».

## «Цяпер яна стала такой, як усе», — сказаў дэ Голь на пахаванні сваёй дачкі



**Дачка дэ Голя Элізабет** пражыла са сваім мужам 60 гадоў. Звярніце ўвагу на яе стыль адзення. Яна была такая ж кансерватыўная, як і яе бацькі.

GETTY IMAGES

Праз 22 гады і самога дэ Голя пахаваюць побач з любай, няшчаснай дачкой.

Жыццё і смерць Анны дэ Голь паўплывалі не толькі на яе бацьку, але і на ўсё французскае грамадства. Сям'я дэ Голь стварыла фонд для дзяўчат з абмежаванымі магчымасцямі. Скарбнікам фонду доўгі час быў чалавек, які стане наступнікам дэ Голя на найвышэйшай пасадзе Францыі, — Жорж Пампіду.

### Філіп дэ Голь застаўся без медаля

Здаровым дзецям Шарль дэ Голь столькі ўвагі не надаваў. Гадаваў іх сурова. У сям'і было не прынята жаліцца на частыя пераезды і рэдкія гульні з бацькамі (чым не была абдзелена Анна). І нават задаваць лішнія пытанні было не прынята. Аднойчы Філіп спытаўся за сталом, колькі зарабляе бацька. Яму адказалі, што такія рэчы яго не тычацца.

Філіпа назвалі ў гонар маршала Анры Філіпа Петэна. Апошні стаў бы і хросным бацькам малога, калі б каталіцкая царква дазваляла разведзенаму чалавеку быць за хроснага. Іронія лёсу ў тым, што Петэн узначаліць калабарацыйны з Гітлерам рэжым, а дэ Голь пераедзе ў Лондан і стане кіраўніком руху Супраціву, а пасля вайны аддасць Петэна пад трыбунал.

Філіп быў узорным вайскоўцам і ва ўсім раўняўся на знакамітага бацьку. Ён браў удзел у бітве за Атлантыку і ў вызваленні Францыі. Але ў выніку Філіп застаўся без медаля Супраціву: сям'я прэзідэнта пабаялася абвінавачання ў кумаўстве. Затое пасля за доўгія гады службы Філіп быў удастоены прэстыжнага ордэна Ганаровага легіёна. Пасля ўдалай вайсковай кар'еры Філіп дэ Голь збудаваў не менш паспяховую і палітычную: з 1986 па 2004 год ён быў сенатарам ад Парыжа.

### Сямейныя каштоўнасці

У дэ Голя-малодшага, як і ў ягонага бацькі, была вялікая і дружная сям'я: з 1947 года ён быў жанаты з Генрыетай дэ Монталямбэр дэ Керс (яе брат насіў тытул маркіза). У пары было чацвёра дзяцей. З жонкай Філіп пражыў амаль 70 гадоў, і толькі яе смерць у 2014 годзе іх разлучыла. А ён усё яшчэ жыве, цяпер яму 96 гадоў.

Што тычыцца старэйшай дачкі Шарля дэ Голя, Элізабет, то яна падчас вайны пазнаёмілася з афіцэрам (будучым генералам) Аленам дэ Буасьё, які неўзабаве стаў яе мужам. Вяселле маладыя згулялі ў 1946 годзе, а разам пражылі 60 гадоў. Ален памёр у 2006 годзе, Элізабет у 2013-м. Яна таксама ўсё жыццё захоўвала цёплую памяць пра малодшую сястру, у 1979–1988 гадах нават узначальвала фонд імя Анны дэ Голь.

### Мітэран і яго сыны

Шарль дэ Голь быў у сям'і ўзорным хрысціянінам, а вось ягоны вялікі праціўнік Франсуа Мітэран (1916–1996) зусім не такі. Дэ Голь быў лідарам правых, кансерватыўных колаў, тады як Мітэран паўстагоддзя ўзначальваў левыя, сацыялістычныя сілы. Ён быў палітык да мозгу касцей і выходзіў сухім з вады з самых розных скандалаў. Пры канцы 50-х нават замовіў «замах» на сябе, што выявілася. Але нават гэта не стала прысудам ягонай кар'еры. ►

Жонкай Мітэрана стала ягоная сяброўка па ваенным руху Супраціву Даніэль Гузэ, з якой будучы прэзідэнт ажаніўся ў 1944 годзе. У гэтым шлюбе нарадзілася трое сыноў: Паскаль (нарадзіўся ў 1945 і памёр маленькім), Жан-Крыстоф (1946) і Жыльбер (1949).

Калі дзеці былі малыя, Мітэрану было не да іх. Можа быць, таму ён пасля спрабаваў кампенсаваць гэта спрыяннем у іх кар'еры. У выніку старэйшаму сыну гэты «блат» вылез бокам.

Жан-Крыстоф Мітэран пачаў сваю кар'еру ў паўдзікай Маўрытаніі ў якасці афрыканскага журналіста агенцтва Франс Прэс. (Афрыка для Францыі — гэта як постсавецкая прастора для Расіі. Гэта і зона ўплыву, і крыніца даходаў. Там Францыя здабывае нафту і ўран.) Калі тата стаў прэзідэнтам, праз два гады Жан-Крыстоф зрабіўся дарадцам па справах Афрыкі ў яго адміністрацыі.

Афрыканцы далі Мітэрану-малодшаму мянушку *Papamadi*, «Папамадзі», ад французскага *papa m'as dit*, перакладаецца «тата мне сказаў».

Як толькі Мітэран-прэзідэнт аслаб, пайшлі скандалы — адзін, другі. «Анголагейтам» празвалі незаконны продаж зброі ў ахопленую грамадзянскай вайной Анголу... Было даказана, што Жан-Крыстоф браў хабары, ён трапіў у турмы, маці сплаціла за яго заставу...

Малодшы сын Мітэрана ехаў цішэй. Яго тройчы абіралі дэпутатам ад Сацыялістычнай партыі і мэрам невялічкага горада Лібурн. Жыльбер Мітэран выкладае ва Універсітэце Парыж XIII і ўзначальвае Інстытут Франсуа Мітэрана, задача якога — захаваць архівы гэтага прэзідэнта. Пасля смерці маці ён працягнуў і яе справу на пасадзе прэзідэнта дабрачыннага фонду яе імя.




Франсуа Мітэран і **ягоная жонка Даніэль**. 1992 год.

## Двайное жыццё

Вернасцю жонцы Мітэран не адзначаўся. Ягоны кіроўца ўспамінаў, што яму здаралася наведваць нават трох жанчын за вечар. Шведская журналістка Крысціна Фарснэ сцвярджае, што ў 1988 годзе нарадзіла ад Мітэрана сына. Але сапраўдная сенсацыя здарылася ў 1994 годзе, калі адкрылася галоўная сямейная таямніца прэзідэнта.

З 18-гадовай Аннай Пенжо Франсуа Мітэран упершыню перасёкся на багемнай вечарынцы ў 1961 годзе, яму тады было 45 гадоў. Пенжо — дачка інжынера і ўнучка вынаходніка запальнічкі.

Знаёмства хутка перарасло ў раман, які доўжыўся больш за 30 гадоў. У 1974 годзе ў каханкаў нарадзілася дачка Мазарын. Мама з дзяўчынкай жылі ў маленькай кватэрцы ў Парыжы, а Франсуа патаемна прыязджаў да іх у госці.

## Сакрэтны тата

Дзяўчынцы было 6 гадоў, калі яе тата стаў прэзідэнтам, і яны з мамай пераехалі ў кватэру, што знаходзілася зусім блізка ад Елісейскага палаца і дбайна ахоўвалася. Дачка нават мела права наведваць бацьку на працы, заходзячы ў палац з чорнага ўвахода.

Калі «сакрэтны тата» стаў прэзідэнтам, Мазарын спрабавала

жыць звычайным жыццём, напрыклад, сама хадзіла ў школу. Аднак за ёй заўсёды прыглядаў чалавек са спецслужбаў, і ў той жа час ёй забаранялася расказваць пра свайго бацьку. Гэта часам прыводзіла да казусаў. Так, настаўніца Мазарын узгадвала выпадак, калі яна вяла першакласнікаў па калідоры, дзе вісеў партрэт французскага прэзідэнта, і раптам нейкая дзяўчынка выгукнула: «Гэта мой тата!» Праўда, на яе словы вялікай увагі тады ніхто не звярнуў, падумалі: выдурняецца малое.




Фота Франсуа Мітэрана і Мазарын Пенжо, зробленае фатографам-папарацы і змешчанае па першай старонцы выдання «Paris Match» у 1994 годзе. **Публікацыя гэтага фота спыніла шматгадовую змову маўчання французскіх СМІ пра другую сям'ю прэзідэнта.**

## Дзве сям'і Мітэрана сустрэліся першы раз на яго пахаванні

Мазарын узгадвае, як непрыемна ёй было ў школьных і ўніверсітэцкіх анкетах ставіць прочырк у графе «бацька». А яшчэ больш ёй было непрыемна, што ёй забаранялася проста гуляць. Нават пацалавалася яна ўпершыню ў жыцці пад пільнымі поглядамі накачаных мужчын з машыны, прыпаркаванай непадалёк.

У 1984 годзе Мітэран, ужо прэзідэнт, падпісаў у прысутнасці натарыуса дакумент, у якім афіцыйна прызнаваў дачку, але патаемнае для грамадства прыватнае жыццё ён працягваў яшчэ 10 гадоў. Спецслужбы спынялі ўсе спробы апублікаваць інфармацыю пра другую сям'ю прэзідэнта. Толькі ў 1994 годзе папарацы знялі, як прэзідэнт з дачкой ад каханкі выходзіць з кавярні.

Пераломным стаў момант, калі Мітэран канчаткова перабраўся жыць да другой сям'і — перад смерцю.

Жонка і каханка Мітэрана сустрэліся першы раз на яго пахаванні — у 1996 годзе.

Мазарын стала пісьменніцай — не самай папулярнай — і дацэнтам філасофіі ва Універсітэце Парыж VIII, а таксама аглядальніцай прадметаў культуры ў Інстытуце Франсуа Мітэрана. У сваіх раманах яна рэгулярна разглядае тэмы сям'і і дзяцінства.



**Сакрэтнае каханне прэзідэнта Анна Пенжо (справа)** і іх дачка Мазарын на пахаванні Франсуа Мітэрана. 1996 год.

### У кожнага свая драма

У паплечніка дэ Голя і пераемніка Мітэрана на пасадзе прэзідэнта, Жака Шырака (нар. 1932), была свая драма. Яго дачка Ларанс з 15 гадоў пакутавала ад анарэксіі. Гэтая цяжкая хвароба развілася ў дзяўчыны пасля таго, як яна перахварэла на менінгіт. Ларанс з'явілася на публіцы толькі два разы: на бацькавай інаўгурацыі ў 1995-м і на ягоным 80-годдзі ў 2012-м — і рана памерла. У Шырака яшчэ адна родная дачка, якая цяпер займаецца яго фондам, і трэцяя дачка, прыёмная, — бежанка з Паўднёвага В'етнама. А Бернадэт Шырак запісала ў сваіх мемуарах: «Я заўсёды нагадвала мужу: у той дзень, калі Напалеон кінуў Жазэфіну, ён страціў усё». ◆





# Пуслоўскі

## першы капіталіст Беларусі

**Сустрэцца з першым нашым капіталістам можна хоць заўтра, варта толькі прыехаць у Вільню і зайсці ў палац Хадкевічаў на вуліцы Вялікай (па-літоўску Didžioji, 4). Цяпер у палацы — Літоўскі мастацкі музей, сярод партрэтаў шляхты ёсць выява і Войцеха Пуслоўскага. З партрэта Валенція Ваньковіча глядзіць пажылы мужчына, хударлявы і падцягнуты, піша Аксана Данілевіч з Гродна.**

### Авечкі, за якіх іспанцы забівалі

Першы досвед гаспадарання Войцех Пуслоўскі набыў у Слонімскай эканоміі, якую арандаваў у Агінскіх. У тых жа Агінскіх ён купіў мястэчка Хомск (цяпер у Драгічынскім раёне) і заклаў у ім суконную мануфактуру. У пачатку XIX стагоддзя на заходніх абшарах Расійскай імперыі працавала шмат падобных прадпрыемстваў, але менавіта Пуслоўскі паставіў на сваіх суконных фабрыках першыя паравыя рухавікі.

Для патрэб фабрык у Хомску і Косаве Пуслоўскі стаў разводзіць авечак пароды мерынос. Гэтыя авечкі меншыя за звычайных, але іхняя воўна ўдвая танчэйшая, мяккая і пры гэтым вельмі трывалая. Да таго ж, калі звычайная авечка можа даць 7 кг воўны ў год, то з мерыноса можна састрыгчы 15! У Еўропе да XVIII стагоддзя манапалістам па развядзенні мерыносаў была Іспанія, прычым вываз авечак з гэтай краіны доўгі час караўся смерцю.

Пісьменнік Юльян Урсын Нямцэвіч, наведаўшы ў 1819 годзе фабрыку Пуслоўскага, засведчыў: гэта «найзначнейшая ў Літве суконная рукадзельня», якая дае працу больш як 300 людзям і выраблёе 1500 скруткаў сукна ў год. У 1829-м у Пецярбургу на Усерасійскай прамысловай выставе прадукцыя фабрыкі была ўганаравана малым залатым медалём.

### Зарабляў як мог

Многія шляхціцы ў надзеі на аднаўленне Вялікага Княства ў 1812 годзе пайшлі ў войска Напалеона. Многія, але не Пуслоўскі. Наадварот, ён

Войцех (1762–1833) быў сынам рэчыцкага падстолія Францішка Пуслоўскага і ягонай другой жонкі Саламеі Грабоўскай.
Нарадзіўся ў маёнтку Старыя Пескі Слонімскага павета (сёння вёска Пескі ў Бярозаўскім раёне).
Каля 1799 года, маючы 37 гадоў, Войцех ажаніўся з дачкой пінскага кашталяна Францішка Друцкага-Любецкага. Гаспадарлівая, з жывым розумам і практычным складам мыслення, да таго ж прывабная і з багатым пасагам, Юзэфа стала надзейнай памочніцай мужу ва ўсіх справах. Нарадзіла яму сямёра дзяцей: дзвюх дачок (адна з іх памерла ў дзяцінстве) і пяцёра сыноў.



**Пескі** — радзіма Войцеха Пуслоўскага. Напалеон Орда, 1865 год.

зарабляў на пастаўках для расійскай арміі. Не ісці на канфрантацыю з уладамі — першая ўмова бізнэсу.

Пуслоўскі ўмеў зарабляць. У 1805–1812 гадах ён удзельнічаў у перабудове Віленскага ўніверсітэта і дзеля гэтага пад Вільняй заснаваў цагельню (завод, дзе выраблююць цэглу) і склады драўніны. Для патрэб студэнтаў і выкладчыкаў у Кучкурышках пад Вільняй выпрабляў паперу. Папрактыкаваўшыся, адкрыў і другую — у Шылавічах пад Слонімам, на рацэ Іса. Абслугоўвалі папяровую фабрыку ў той час усяго сем чалавек. Прадпрыемства на Ісе існуе і сёння: цяпер гэта Слонімскі кардонна-папяровы завод «Альбярцін».

Пэўны час Войцех займаўся ўтрыманнем коней на паштовых станцыях. Тады гэта быў важны сродак сувязі паміж рознымі мясцовасцямі. Падарожнікі, каб паскорыць сваё перамяшчэнне па краіне, пастаянна мянялі на спецыяльных пунктах, што зваліся паштовымі станцыямі, стомленых коней на свежых — натуральна, плацячы за гэта іх гаспадарам.

Таксама Пуслоўскі зарабляў на аперацыях з нерухомасцю: танна набываў і перапрадаваў маёнткі, што знаходзіліся ў складаным становішчы.

### Гаспадарчая імперыя

Дзякуючы энергіі, таленту і паслядоўнай праўладнай пазіцыі, Пуслоўскі займеў такую гаспадарку, якой не меў на Беларусі ніхто. Прадпрыемствы Пуслоўскага прыносілі пастаянны прыбытак і дазвалялі разбудоўваць гаспадарчую імперыю.

Войцех меў паўтара дзясятка маёнткаў, а ў іх — млыны, смалярні, вінакурні, бровары, вытворчасць шкіпінару і цвікоў. У Слонімскім павеце, акрамя двара ў Слоніме, яму належалі Пескі, Шылавічы, Косава, Сынковічы, Міхалін і Шулякі, у Гродзенскім — Свіслач, у Кобрынскім — Хомск, у Пінскім — Плянта, Целяханы і Кужылічын, у Троцкім — Жыжморы, у Віленскім — Кучкурышкі, а ў самой Вільні — Антокаль. ▶





**Палац Пуслоўскага ў Альбярціне:** так ён выглядаў у 1926 годзе, а так ён выглядае цяпер.

Першы на Беларусі прамысловы комплекс вырас у ягоных Шылавічах. Акрамя паперні — суконная фабрыка і чыгуналіцейны завод. З 1832 года — фабрыка дываноў (такая ж была ў Косаве).

Сваім ладам жыцця Войцех Пуслоўскі паламаў стэрэатып, што гандаль, прамысловасць і гаспадарка — не шляхецкая справа. Менавіта гаспадарка ператварыла яго ў мільянера і забяспечыла старт Войцехавым дзецям.

### Набожны дзялок

Сучаснікі Пуслоўскага адзначалі яго набожнасць і здзіўляліся гэтай рысе чалавека-дзялка. На сродкі Пуслоўскага было пабудавана і адрэстаўравана каля 60 храмаў і капліц, прычым трох канфесій.

На ўласныя грошы ён штогод адпраўляў у павятовыя школы, гімназіі і ўніверсітэт некалькі хлопчыкаў са службы і беднай шляхты (пазней тое ж рабіў ягоны сын Уладзіслаў, адзін час ён аплачваў утрыманне ажно 20 навучэнцаў).

Меў Войцех Пуслоўскі і яшчэ адно захапленне — любоў да прадметаў даўніны і мастацтва. Сабраў багатую бібліятэку, якой дазваляў карыстацца сябрам. А каб сябры не забывалі,



**Пячатка** Войцеха Пуслоўскага.

каму кнігу вяртаць, замовіў пячатку з аб'яднанымі гербамі — сваім і жонкі Юзэфы з Друцкіх-Любецкіх.

Цяпер кнігазбор Пуслоўскіх знаходзіцца ў Гродне: у 1927 годзе яго ўнучка Марта Красінская падаравала Дзяржаўнаму музею сваю бібліятэку з маёнтка ў Свіслачы — каля 10 тысяч тамоў. Сярод іх ёсць і кнігі, набытыя дзедам, хоць, праўда, працэнт іх невялікі.

### Кунтушовы старац

Бібліятэка, дабрачыннасць — Пуслоўскаму важна было не толькі дасягнуць поспеху, але і прадэманстраваць яго. Таму любіў і апранацца адпаведна, статусна. Пры гэтым ніхто не мусіў забываць, што Пуслоўскі хоць і дзялок, але высакародны. Магчыма, менавіта ўсведамленне ўласнага поспеху ўмацоўвала ў ім жаданне апранацца назнарок па-шляхецку — у жупан і кунтуш, падперазаны слуцкім поясам.

Прыгожай адзежы хацеў мець як найбольш. Казалі, што калі ў 1821 годзе Войцех выдаваў дачку Генавэфу за Рудольфа Тызенгаўза, то да вяселля справіў сабе столькі ж багатых шаўковых кунтушоў, колькі дачка сукенак. Мабыць, менавіта тады Пуслоўскага і сталі называць «кунтушовым старцам». Нават на парадным партрэце крыж расійскага ордэна Святой Ганны красуецца на старасвецкім кунтушы.

**Да канца жыцця Пуслоўскі апранаўся выключна ў традыцыйнае шляхецкае адзенне — жупан і кунтуш, падперазаны слуцкім поясам**

Будучы на дзяржаўнай службе, ён мог бы прызвычаіцца да расійскіх мундзіраў. Але проціпастаўляў сябе расіянам. Сваім багатым, старой моды ўборам паказваў: глядзіце, я такі ж высакародны, як вы, але я не адзін з вас. У такім выглядзе ён нават прымаў у сябе ў Міхаліне Аляксандра І, нягледзячы на тое, што мусіў вымольваць прабачэнне сыну-дуэлянту.



**Інтэр'еры палаца ў Альбярціне**, 1915–1918 гады.

### Альбярцін у гонар бацькі

Заснавальнік імперыі памёр 3 сакавіка 1833 года. Асноўным прадаўжальнікам яго справы стаў




**Флігель у Альбярціне.**

сын Уладзіслаў (1801–1859), які пераняў ад бацькі талент бізнэсоўца ды смеласць прамыслоўца-наватара. Ён ажаніўся са стрыечнай сястрой Генавэфай (забытае цяпер імя тады ў Беларусі было вельмі модным) і цалкам аддаўся кіраўніцтву бізнэс-імперыяй.

Замест старой драўлянай сядзібы, якая згарэла неўзабаве пасля смерці Войцеха, малады Пуслоўскі пабудаваў велічны палац, флігель, стайню, аранжарэю і заклаў вялікі парк.

Адразу ж, у 1833-м, у памяць бацькі ён перайменаваў мясцовасць, дзе знаходзілася сядзіба Пуслоўскіх, з Шылавічаў у Альбярцін: Адальберт (Альберт) было другім іменем святога Войцеха. Цяпер Альбярцінам завецца адзін з мікрараёнаў Слоніма, бо ўжо ў савецкія часы, у 1965 годзе, пасёлак зліўся з горадам.



**Вандалін Пуслоўскі**, які адбудаваў сядзібу Касцюшкі ў Мерачоўшчыне і збудаваў побач свой Косаўскі палац.

### Вандалін, малодшы сын

Успадкаваў ад бацькі прадпрымальніцкія здольнасці і малодшы Вандалін (1814–1884). Ён па ўсім краі меў цагельні, суконныя і дывановыя фабрыкі. У Свіслачы пад Гроднам разводзіў племянных коней арабскай пароды.

Атрымаўшы ў спадчыну Косаўскі ключ, Вандалін заклаў тут велічны палац і парк. Пляцоўкай для забудовы абраў узгорак каля сядзібнага дома ў Мерачоўшчыне, дзе ў 1746 годзе нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка. У той час маёнтак знаходзіўся ў занядбаным стане, і Вандалін аднавіў дом Касцюшкі ды зрабіў там музей. Выявы гэтага дома друкаваліся нават на тагачасных паштоўках.

### Чыноўнік, паўстанец і хімік

Зрабілі кар'еру і іншыя трое сыноў Войцеха Пуслоўскага, хоць да гаспадарчых спраў сэрца ў іх не ляжала. Старэйшы, Францішак (1800–1859), усё жыццё аддаў дзяржаўнай службе. Ён быў правадзейным стацкім саветнікам, камергерам расійскага двара, маршалкам шляхты Гродзенскага павета, потым Гродзенскай і Віленскай губерняў, пэўны час служыў пры пасольстве Расіі ў Парыжы.

Адам Ціт (1803–1854) абраў шлях вайскоўца. Ён служыў у Александрыйскім гусарскім палку расійскай арміі, у званні карнета пайшоў у адстаўку і пасяліўся ў маёнтку Плянта ў Пінскім павеце. У 1830–1831 гадах узяў удзел у паўстанні супраць царскай Расіі, сабраў уласны атрад у 1000 чалавек, а пазней узначаліў паўстанцкія атрады ўсяго Пінскага павета. У адной з бітваў аддзел Пуслоўскага быў разбіты. Сам ён, паранены, здолеў дабрацца да Валыні, адкуль выехаў на эміграцыю.

Урэшце, Францішак Ксаверы (1806–1874) набыў вядомасць як вучоны-хімік, а таксама калекцыянер ды мецэнат. У 1849-м ён выкупіў у Радзівілаў палац у Крулікарні пад Варшавай і ператварыў яго ў сваю летнюю рэзідэнцыю. Тут ён сабраў калекцыю карцін, скульптур, гравюр, абразоў, габеленаў, а таксама каштоўную бібліятэку, якую папаўняў разам з жонкай, стрыечнай сястрой Юліяй.

## Як у сям'і першага капіталіста і вернага падданага цара выраслі настолькі розныя дзеці?

У 1851 годзе ён перадаў частку гаспадарчых пабудоў Крулікарні на патрэбы дзіцячага прытулку і ахвяраваў сродкі на новы будынак. Таксама перадаў вялікі надзел, каб выхаванцы маглі вучыцца земляробству і садоўніцтву. Гэтая тэрыторыя была названа па імені ахвярадаўцы — Ксавераў. Назва дажыла да нашых дзён, так называецца вуліца і частка раёна Макотаў у Варшаве.

Як у сям'і першага нашага капіталіста і вернага падданага цара выраслі настолькі розныя і такія яркія дзеці? Нечага яшчэ мы не ведаем пра гэтага чалавека. ◆




# «Шчупак — жывучая уладар вадаёмаў і кароль стала

**Мала пра якую рыбу ў еўрапейскіх народаў ёсць столькі казак і легендаў. Беларусы тут не выключэнне. Грозны драпежнік, часам і канібал, кашмар не толькі ўсякай іншай рыбы, але і вадаплаўных птушак, шчупак будзіў уяўленне нашых продкаў. Народнае міфалагічнае мысленне ўспрымала гэтую рыбу як уладара падводнага свету, рыбнага караля. Адначасова шчупак «уладарыў» і ў нашай гістарычнай кухні, піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

У славутай «Кухарцы літоўскай», кулінарным бестселеры XIX стагоддзя, прыводзіцца 7 рэцэптаў страў з селядца, па 5 з карпа і ласося, па 4 з ліна і судака і ажно 20 (!) рэцэптаў страў са шчупака. Любоў нашых продкаў да гэтай рыбы пацвярджаецца і дадзенымі



SHUTTERSTOCK.COM, BY KLETR

ХВОСТ
Шырокі і мускулісты хвост — асноўная рухальная частка цела, якая дазваляе шчупаку імгненна набіраць хуткасць пры раптоўным нападзе

# , брат, юха!»

археалогіі: у сярэднявечных паселішчах Беларусі косткі шчупака сустракаюцца прыкметна часцей, чым косткі любой іншай рыбы. Дарэчы, да сярэдзіны XX стагоддзя і ў англійскай кухні шчупак лічыўся самай смачнай і каштоўнай рыбай. Смак яе, зрэшты, на аматара, а вось дыетолагі сапраўды шчупака настойліва рэкамендуюць, бо мяса ягонае нятлустае і карыснае. Некаторыя лічаць, што яно нават ратуе ад грыпу, бо ўтрымлівае прыродныя антысептыкі і ўмацоўвае імунную сістэму.

**Колькі жыве шчупак**

У Шчучыне Гродзенскай вобласці ў 2018 годзе гарадскія ўлады і краязнаўцы ўваскрэсілі легенду пра дзяўчыну, ператвораную ў шчупака. Яна выратавала юнака-тапельца і дзякуючы гэтаму вярнула сабе чалавечае аблічча. Нібыта, стаўшы шлюбнай парай, юнак і дзяўчына заснавалі горад, назваўшы яго ў гонар рыбы, якая зрабіла іх шчаслівымі. Гарадскія ўлады ўрачыста запусцілі шчупака-талісмана ў цэнтральны вадаём, папярэдне акальцаваўшы яго і ўзяўшы з мясцовых рыбакоў урачыстае абяцанне, што адпусцяць жывы гарадскі сімвал, калі выпадкова зловяць.

Трэба сказаць, што гораду сапраўды далі назву Шчукі, але не рыбы, а шляхецкі род, які жыў на Гродзеншчыне прынамсі з XV стагоддзя. Верагодна, ім у Сярэднявеччы і належала гэта мясцовасць. Пыталіся: чые гэта землі? Шчукі, Шчучыны. Так і ўзнікла назва. Адкуль шляхціцы атрымалі такую мянушку, якая пасля стала прозвішчам? Магчыма, і ад рыбы: «шчукай» па-старабеларуску называлі шчупака. Шчукі жылі на Гродзеншчыне стагоддзямі, адны з апошніх Шчук былі высланыя ў Сібір пасля паўстання 1863 года.

Асабліва шмат легендаў пра шчупакоў захавалася на паўночным захадзе Беларусі, у славянізаванай частцы гістарычнай Літвы. Ды і разнастайнасць рэцэптуры тут таксама найбольшая. Частым сюжэтам такіх легендаў быў вылаў знаёмага шчупака, які вырас да неверагодных памераў праз дзесяцігоддзі, у далёкіх ад першай сустрэчы месцах. Яшчэ адзін сюжэт — пра каштоўнасці або ключ ад патаемных дзвярэй, знойдзеныя ў страўніку рыбы (як, напрыклад, у казцы пра святога Андрэя Крыцкага, запісанай Еўдакімам Раманавым у Гомельскім павеце).

Такую легенду ў 1970-я пачуў і настаўнік гісторыі Мёрскай сярэдняй школы № 3 Вітольд Ермалёнак. Нібыта ў 1884 годзе на кухню аднаго з прадстаўнікоў княжацкага роду Святаполк-Мірскіх даставілі не вельмі буйнога шчупака. Наедак з рыбы быў невялікі, таму князь загадаў ▶

Максімальны ўзрост шчупакоў у прамысловым вылаве ў цяперашні час не перавышае 25 гадоў. Задакументаваны вылаў 33-гадовага шчупака. Звесткі пра больш старых шчупакоў, а асабліва пра гігантаў-людажэраў, большых за рыбацкія лодкі, біёлагі адносяць да катэгорыі легендаў. Найбольш славутая з іх — гісторыя «хайльбронскага шчупака», якога нібыта ў кастрычніку 1230 года злавіў асабіста імператар Фрыдрых II, пазначыў залатым колцам і выпусціў у возера Бёкінген паблізу горада Хайльброн, дзе гэтую рыбіну вылавілі праз 267 гадоў. Пры гэтым яна дасягала даўжыні 570 сантыметраў і важыла 140 кг. Хрыбет гэтага шчупака быў перададзены на захоўванне ў кафедральны сабор горада Мангейм. Гэтая гісторыя выклікала цікавасць нямецкага натурфілосафа Лорэнца Окена. Ён падрабязна вывучыў гістарычныя хронікі і вызначыў, што Фрыдрых II у тыя часы бязвыезна жыў на Сіцыліі і таму ніяк не мог акальцаваць шчупака на тэрыторыі Германіі. Удалося таксама даследаваць хрыбет шчупака з Мангеймскага сабора. Аказалася, што гэта фальсіфікацыя, і насамрэч ён скампанаваны з пазванкоў некалькіх асобных шчупакоў.



Гэта фота, якое адразу выклікае падазрэнні пра «фоташоп», часта можна сустрэць у інтэрнэце з самымі рознымі тлумачэннямі. У прыватнасці, ім часам ілюструюць паведамленне **пра шчупака вагой больш за 70 кг, якога ў 1930-х нібыта вылавілі ў возеры Дрысвяты.**

▶ выпусціць шчупака на волю. Але перад тым выкаваць са срэбнай манеты колца і змясціць яго ў жабры рыбіны. Так і зрабілі. З тых часоў легенду пра шчупака мясцовы люд перадаваў з пакалення ў пакаленне.

Вітольд Ермалёнак легенду запісаў, а праз 18 гадоў, у 1994 годзе, да яго прыйшоў знаёмы і перадаў для музея колца са срэбра з выгравіраванымі на ім лічбамі 1884. І паведаміў, што колца годам раней яму нібыта дасталася ад мясцовых браканьераў. Каля вёскі Дворышча падчас нерасту яны забілі асцюкамі буйнога азёрнага шчупака, у жабрах якога знайшлі колца. Ермалёнак прыйшоў да высновы, што браканьеры забілі таго самага шчупака, адпушчанага на волю Святаполк-Мірскім. У такім выпадку выходзіла, што плямісты драпежнік пражыў 109 гадоў і памёр не сваёй смерцю! Праўда, сучасныя біёлагі катэгарычна адмаўляюць такую верагоднасць. Так ці інакш, але сёння гэты экспанат сапраўды ўпрыгожвае школьны музей.

### Дзіўная забава

З таго, як рэгулярна сустракаюцца па ўсёй тэрыторыі Беларусі легенды і быліцы пра акальцаваных шчупакоў, можна меркаваць, што ў XIX стагоддзі кальцаванне шчупакоў было папулярнай шляхецкай забавай.



**Такую срэбную чарачку-куляўку** разам з адпаведнай пляшкай, безумоўна, трэба браць з сабой на кожную сур'ёзную рыбалку. Асабліва калі чакаецца багаты ўлоў.

Самая вядомая з нашых гісторый пра акальцаванага шчупака выкладзена ў баладзе Яна Чачота «Калдычэўскі шчупак».

## Буйнога шчупака гатавалі так, што ля галавы ён быў смажаны, пасярэдзіне запечаны, а пры хвасце — вараны або тушаны ў падліве

Асноваю паслужыла паданне, распаўсюджанае на Навагрудчыне. Нібыта некалі ў возеры Свіцязь злавілі шчупака, акальцаванага ў Калдычэўскім возеры. Быццам ён трапіў з аднаго возера ў другое падземнаю ракою.

Пісьменнік Сяргей Балахонаў у эсэ «Ускормлены суць па бозе, або Колькі словаў пра малую радзіму» прыгадвае дзве гісторыі

з Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці. «Я чуў быліцу пра вялізнага зэелянелага шчупака, якога вяскоўцы вылавілі ці то ў Бесядзі, ці то нават на нейкіх азёрах. Казалі, што на хвасце рыбіны мелася металічнае колца, на якім быў выгравіраваны нейкі вельмі даўні год, і што з-за гэтага ў нашы мясціны завітвалі навукоўцы. Што за год быў пазначаны на колцы, якія вучоныя прыязджалі — расказчыкі не паведамлялі. У адной з версій быліцы лоўля гіганцкага шчупака скончылася трагічна для хлапца, які да самага канца спрабаваў утрымаць здабычу, — шчупак скінуў яго пад ваду і ладна пацягаў за сабой». Абедзве былічкі пісьменнік пачуў ад бабулі Праскоўі Рыгораўны Балахонавай паміж 2009 і 2012 гадамі.

## Ліда — рыбін горад?

Ці не найбольш легендаў і паданняў пра шчупакоў сустракаецца ў Панямонні. Відаць, у старажытных балтаў існаваў вельмі развіты культ гэтай рыбы, які ў змененым выглядзе дайшоў і да нашых часоў. І хоць легенда пра паходжанне Шчучына, відаць, прыдумана нядаўна, але яна адлюстроўвае і глыбокія пласты мясцовых вераванняў.

Дарэчы, назва ракі Лідзейка, на якой стаіць горад Ліда, можа паходзіць ад літоўскага слова *lydeka* — «шчупак». Дый і саму назву горада можна вывесці з таго самага слова. А з таго боку беларуска-літоўскай мяжы, у Мар’ямпольскім павеце, некалі жыла легенда пра гіганцкага шчупака Струкіса, які не дазваляў рыбакам лавіць там ніякай рыбы. Толькі на купальскую ноч Струкіс на некалькі гадзін засынаў. Аднойчы смеламу рыбаку падчас гэтага сну ўдалося налавіць поўную лодку рыбы, але Струкіс своечасова прачнуўся і перакуліў яе. Пасля гэтага шчупак стаў змяняць час сну так, што рыбакі згубілі нават мізэрны шанец яго перахітрыць.

А ў літоўскай казцы пра залаты мост Бог з’яўляецца спачатку ў вобразе старога, затым ператвараецца ў каня, потым у арла і шчупака. У адной легендзе правадырка племені рыбаловаў і паляўнічых Варэна, ператвараючыся ў ваўка, дапамагала паляўнічым, а ў шчупака — рыбакам. У літоўцаў таксама існуе позняя хрысціянская інтэрпрэтацыя ▶

## Шчупак на бураковым квасе

Рэцэпт з «Кухаркі літоўскай» заснаваны на выкарыстанні бураковага квасу — некалі незамененнага ў нашай кухні паўфабрыкату.

*Інгрэдыенты:* 1,8–2,2 кг шчупака, соль, 0,5 гарца (каля 1,5 л) бураковага квасу, дзве цыбуліны, 1 корань пятрушкі, 1 морква, 5 каліў чорнага перцу, 2–3 лаўровыя лісткі, 2–3 гваздзікі, 1 свежы бурак, 1 лыжачка кмену, 1 ст. лыжка масла, 1 ст. лыжка мукі. Замест масла ў час посту можна ўзяць 0,5 шклянкі аліўкавага алею.

Пачысціць, пакроіць на кавалкі і пасаліць шчупака, пакінуць на гадзіну. Нарыхтаваць 0,5 гарца (каля 1,5 л) бураковага квасу (або ўзяць гатовы), дадаць цыбулю, пятрушку, моркву, перац, гваздзікі і лаўровае лісце, натаркаваны бурак, адварыць да насычанага булёну і працадзіць на шчупака, укладзенага ў прадаўгаватым рондлі і пасыпанага кменам. Накрыць вечкам і варыць на моцным агні. Растапіць сталовую лыжку масла, размяшаць з лыжкай мукі, выліць сумесь да рыбы і трымаць на агні, пакуль соус як след не загусцее.

### Як зрабіць бураковы квас

У добра прапараны керамічны гаршчок або слоік пакласці пачышчаныя і буйна нарэзаныя буракі да ¾ вышыні пасудзіны. Дадаць часнок на смак (лічыцца, што на 1 кг буракоў трэба 4–5 вялікіх зубкоў часнаку), духмяны і чорны перац і лаўровае лісце. Заліваем усё астуджаным падсоленым кіпнем (1 ст. лыжка солі на літр вады). Вада павінна цалкам пакрываць буракі, інакш яны пакрыюцца цвіллю.

Прыціснуць буракі талеркай з грузам. Пакінуць квасіцца ў прахалодным і цёмным месцы на 5–7 дзён. Працадзіць і разліць па слоіках, захоўваць у лядоўні. Бурачны квас можна піць, а як паўфабрыкат ён выкарыстоўваецца ў прыгатаванні верашчакі, баршчу, халадніку і іншых традыцыйных «літвінскіх» страў.





Доўгі час менавіта шчупак быў **першай рыбай** і на вігілійным (калядным) стале.

матыву шчупака — гаспадара вадаёмаў: шчупак перавозіць Хрыста цераз раку, у падзяку той робіць шчупака каралём рыб. (А вось у палякаў ёсць павер'е, што ў шчупака ператвараецца сам д'ябал.)

Магчыма, у Панямонні шчупак быў чымсьці накшталт татэмнай жывёлы. Рэшткі старога культу можна ўбачыць і ў тым незвычайным шанаванні, з якім рыбакі ставяцца да велізарных, «каралеўскіх», шчупакоў, якіх фіксуюць як трафеі, але адпускаюць у родную стыхію. Жыхар Гродзенскага раёна Дзмітрый Слюсараў злавіў у 2017 годзе шчупака вагой у цэлы пуд — 16 кг, але выпусціў на волю. Ці абяцаў шчупак за гэта выканаць тры жаданні Дзмітрыя, невядома.



**Сківіцы шчупака** і парашок з яго зубоў былі за абярэг у нашых продкаў.

## Спіртавым настоем жывога шчупака лячылі ад алкагалізму

### Зубы шчупака лечаць

Ва ўсходняй Беларусі таксама існуе шмат легенд, забабонаў і рытуалаў, звязаных са шчупаком. Асабліва чароўнымі ўласцівасцямі надзяляліся зубы шчупака, нібыта здольныя «выгрызаць» хваробу ці іншую шкоду або бараніць ад іншых драпежных зубоў. Лічылася, напрыклад, што зубы і косці шчупака здольныя супакойваць колючы боль: ад паколвання ў баках або ў грудзях на Віцебшчыне і ў расійскай Наўгародскай губерні пілі настой шчупаковай сківіцы або парашок з сушаных шчупаковых зубоў. Дзе-нідзе вешалі сківіцу першага злоўленага ў гэтым годзе шчупака над уваходам у хату для засцярогі ад усякага зла, а хрыбтовыя косткі — на брамы, каб засцерагчы жывёлу ад хвароб. Зубы шчупака маглі збіраць і насіць пры сабе, каб улетку не ўкусіла змяя. А маладой на вяселлі гэтыя зубы маглі павесіць пад шлюбную сукенку як каралі, каб засцерагчы ад сурокаў.

У Магілёўскай губерні некалі пад гняздо гускі, якая выседжвала яйкі, клалі зубы шчупака, каб драпежнік не хапаў гусянят, калі тыя пачнуць плаваць. На Гомельшчыне галаву шчупака выкарыстоўвалі як абярэг для жывёлы: калі вясной у першы раз яе выганялі на пашу, шчупакову галаву падкладалі каровам пад ногі — відавочна, каб захаваць ад ваўчыных зубоў. Тут шчупак выступаў як сімвалічны прадстаўнік усіх небяспечных драпежнікаў. На пачатку XX стагоддзя падчас эпідэміі ў вёсцы Броннае (цяпер у Рэчыцкім раёне) сяляне прынеслі ахвяру: закапалі жыўцом ката і шчупака.

Цікавая таксама даўняя беларуская рыбацкая прыкмета: калі перад рыбаком плёсне хвастом шчупак, рыбак не пражыве больш за тры гады. А зусім нядаўна ў Баранавічах нейкая жанчына тэрмінова шукала жывога шчупака — расклейвала абвесткі па горадзе.

— Эх, брат Алесь! — гаворыць дзядзька. —
Вось быў шчупак — усім ім бацька!
Век я такога не забуду,
Але парваў мне, падла, вуду.
І падчапіў быў нават спраўна.
«Ну, — думаю, — пажыва слаўна!»
Цягну, а ён аж гне вудзільна,
Ну, чуць не вырве яго з рук!
А тоўсты, падла, бы япрук,
І доўгі ж, доўгі, як цапільна.
Шчупак, брат, ёмкі: на паўпуда,
Але сарваўся. Ах, паскуда!
І натаміў як мае быць,
І пастка ўжо з вады тырчыць,
Як змей, варочае зянкамі,
Ну, вось ён, вось! хватай рукамі!
А потым, брат, калі рвануўся, —
Ўсё к чорту — вуда і кручок,
Пайшоў гуляць мой шчупачок!
А я, брат, толькі аблізнуўся!
— Ах, вось шкада! З кручком і з дротам?
Дык ён жа здохне! — Ну чаго там!
Шчупак — жывучая, брат, юха!
Такі жывучы — дзяржы вуха!
Ён пяць кручкоў глыне — й не знайся;
Ты ў Янчура пра іх спытайся:
Янчур іх лужа, як арэхі,
Іх знае прожары-прарэхі.
А мне ўсяе, брат, тэй уцехі,
Што падчаплю зноў юху тую,
Тады, брат, дудкі: не спудлую!

**Якуб Колас. «Новая зямля»**



Хочацца падаць гарадскім уладам Шчучына ідэю. Дагэтуль у Беларусі няма ніводнага горада, на чыім гербе быў бы выяўлены шчупак. А герб Шчучына, хоць і гістарычны, уяўляе з сябе манаграму ўладальніка горада Ігнацыя Сцыпіёна дэль Кампа (пасля 1728–1791) — *IS*. Дык чаму б не замяніць вертыкальную літару *I* на геральдычнага шчупака, а *S* тады можна было б трактаваць як першую літару назвы горада ў лацінскім напісанні. Гэтую прапанову, не зусім жартоўную, пакідаю на абдумванне і паспалітаму чытачу.

Хутчэй за ўсё, хацела з яго магічнай дапамогай вылечыць мужа або каханага ад алкагалізму. Жывога шчупака быццам бы настойваюць на гарэлцы на працягу 7 дзён і потым пояць гэтым настоем «пацыента». Відавочна, разлік на тое, што шчупак сваімі вострымі зубамі «выгрызе» алкагольную залежнасць.

### Кароль кухні

Шчупак лічыўся першай рыбай у кулінарыі народаў Рэчы Паспалітай. Першая страва польскай кухні, якая атрымала міжнародную вядомасць і ўвайшла ў кухню многіх краін Еўропы, — «шчупак па-польску». Але гэтаксама вядомы ён быў і ў нас. Адзін з першых рэцэптаў шчупака датуецца 1685 годам і паходзіць з нядаўна знойдзенай рукапіснай кухарскай кнігі, якая захоўвалася пры двары Радзівілаў.

Шчупак быў улюбёным прадметам складаных кулінарных эксперыментаў, так званых «канцэптаў», што забаўлялі гасцей на масавых баляваннях, якія магнаты ладзілі, каб завяваць папулярнасць у дробнай і сярэдняй шляхты. Напрыклад, буйнога шчупака, не разразаючы, кухары-штукары гатавалі трыма рознымі спосабамі так, што ля галавы ён быў смажаны, пасярэдзіне запечаны, а пры хвасце — вараны або тушаны ў падліве. Такі шчупак згадваецца ў паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

Ну, а сярод рэцэптаў «Кухаркі літоўскай» самым знакавым быў шчупак, звараны ў бураковым квасе. Бураковы квас да рэвалюцыі быў вельмі важным паўфабрыкатам для «літвінскай» кухні. На ім гатавалі, напрыклад, боршч, халаднік і верашчаку. Сярод іншых традыцыйных літоўска-беларускіх рэцэптаў — фаршыраваны шчупак (вельмі папулярны ў мясцовых яўрэяў); шчупак, запечаны з хрэнам або з салам; шчупак «па-пралацку» з гароднінай. Быў бы шчупак — а беларус ужо здолее яго прыгатаваць. ◆



Тое самае колца, якое нібыта **знайшлі ў 109-гадовым шчупаку** ў Мёрскім раёне.

**Чырвінскі, Віталь. Беларусь у войнах Расійскай імперыі. Асобы і падзеі.** — Мінск: Харвест, 2019. — 448 с.

Гэтая кніга — лагічны працяг папярэдняй, пад назвай «Беларусь у войнах. Асобы і падзеі», якая выйшла ў 2016 годзе і ахоплівала перыяд ад Полацкага княства да Вайны 1812 года. Праз біяграфіі военачальнікаў, ваенных вучоных і вынаходнікаў, якія паходзілі з беларускіх земляў або мелі непасрэднае дачыненне да Беларусі, у абодвух выданнях паказваюцца развіццё айчыннага ваеннага майстэрства, ваеннай навукі і вынаходніцтвы.




Стагоддзе, якое беларускія землі правялі ў складзе Расійскай імперыі, адзначылася бесперапыннымі войнамі, ваеннымі канфліктамі, паўстаннямі, рэвалюцыйнымі выступленнямі. За гэты час сотні тысяч ураджэнцаў Беларусі прайшлі службу ў расійскай арміі, дзе праявілі сябе з розных бакоў. Былі сярод іх і людзі, якія дабіліся ў гэтай арміі вельмі высокага становішча. На старонках кнігі чытач знойдзе біяграфіі генералаў ад інфантэрыі, ад кавалерыі і ад артылерыі, контр-адміралаў, выдатных ваенных тапографаў, геадэзістаў і гідрографаў, военачальнікаў Крымскай, расійска-турэцкіх, расійска-японскай і Першай сусветнай войнаў, начальнікаў вайсковых вучэльняў, ваенных міністраў Расійскай імперыі, Украінскай Дзяржавы і Польскай Рэспублікі, знакамітых ваенных тэарэтыкаў і многіх іншых.

Але вайскоўцамі рэгулярнай арміі аўтар не абмяжоўваецца. Значная частка кнігі прысвечана паўстанням 1830–1831 і 1863–1864 гадоў. Выданне змяшчае амаль паўтары сотні біяграфій паўстанцкіх камандзіраў, якіх аўтар кнігі палічыў мэтазгодным паставіць на адзін узровень з вышэйшымі афіцэрамі і генераламі рэгулярнай арміі. Пры



арганізацыі паўстанцкай барацьбы ў маштабах усяго краю ў той час праявілі ваеннае майстэрства такія вядомыя персанажы беларускай гісторыі, як Кастусь Каліноўскі, Валеры Урублеўскі і Рамуальд Траўгут.

Кнігу можна набыць у Мінску: кнігарня **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, д. 72), гандлёвы цэнтр **«Купалаўскі»** (павільён 41–42), **начны кніжны кірмаш** (вул. Даўмана, 23, месца 78Б) — або замовіць непасрэдна ў аўтара праз e-mail **vit.czy@gmail.com**.

# «Распятыя дзеці»:

## як фота сямейнай трагедыі выкарысталі для распальвання варожасці

**Фотаздымак 1923 года выдаюць за фота з 1943-га. Людзі, якія не ўмеюць правяраць факты, падмены проста не заўважаюць. Пра адзін (але не адзіны) такі выпадак піша гісторык Андрэй Вашкевіч.**

Польска-ўкраінскі канфлікт тлеў стагоддзямі. Польская экспансія на ўсход выклікала ўкраінскія крыўды. У 1919-м успыхнула польска-ўкраінская вайна за Львоў. У 1920-я ўкраінскія нацыяналісты адказалі тэрорам на рассяленне польскіх асаднікаў і паланізацыю. Калі здарылася Другая сусветная, пачаліся этнічныя чысткі.

Калі закінуць у інтэрнэт-пошукавік словы «Валынская трагедыя» ці «Валынская разня», ён выкіне вялікую колькасць шакуючых здымкаў. Сярод іх і такі: чацвёра мёртвых дзетак, прывязаных дротам да ствала вялікага дрэва. Такіх здымкаў па сеціве ходзіць некалькі. На іх з розных ракурсаў сфатаграфаваныя забітыя хлопчыкі і дзяўчынкі.

Польска-ўкраінскі канфлікт 1943–1947 гадоў — узаемныя этнічныя чысткі польскага і ўкраінскага насельніцтва на тэрыторыі Валыні, Падляшша, Галіччыны і Холмшчыны ў раёнах, дзе змешана жылі і палякі, і ўкраінцы. Трагедыя стала працягам канфліктаў мінулага. Вырашалася, каму будуць належаць гэтыя землі. Ахвярамі трагедыі сталі дзясяткі тысяч людзей. Пасля вайны палякі ў большасці перасяліліся на тэрыторыю Польскай Народнай Рэспублікі, а ўкраінцы — у Савецкую Украіну.

Вось ужо два дзесяцігоддзі трагічнае аблічча гэтых дзетак шырока выкарыстоўваецца антыўкраінскай прапагандай — спачатку з польскага, а цяпер і з расійскага боку. Інтэрнэт напоўнены плакатамі і дэматыватарамі з подпісамі пра «сапраўднае аблічча бандэраўцаў», а польскія нацыяналісты перыядычна выкарыстоўваюць гэты здымак падчас дэманстрацый.

У 2003 годзе на могілках горада Пшэмысль (у беларускай і ўкраінскай традыцыі — Пярэмышль, цяпер за 12 км ад польска-ўкраінскай мяжы) паставілі помнік ахвярам Валынскай трагедыі ў выглядзе гэтых дзетак, абкручаных калючым дротам. І польскі, і расійскі сегмент інтэрнэту напоўненыя падрабязнасцямі і ўдакладненнямі: маўляў, байцы Украінскай паўстанцкай арміі рабілі так званыя «вяночкі» або проста «кветкі» з няшчасных польскіх дзетак.

Прызнацца, даволі вялікім было здзіўленне аўтара гэтага тэксту, калі, праглядаючы савецкі часопіс «СССР на стройке» (№ 2–3 за 1940 год), яму давялося пабачыць там акурат гэты здымак. Нагадаем, што Валынская трагедыя мела месца ў 1943 годзе, праз тры гады пасля публікацыі здымка ў савецкім часопісе. А публікацыя 1940 года яўна не была першай. Тут здымак быў размешчаны ў фотакалажы пад назвай «Гэта панская Польшча — краіна прыгнёту і галечы» сярод здымкаў пабітых дэманстрантаў і польскіх турмаў. З кантэксту вынікала, што адзін з сімвалаў міжваеннай польскай дзяржавы — галодныя дзеці, якіх павесіла ўласная маці, каб пазбавіць ад пакут. Гэта тлумачэнне дазволіла нам хутка даведацца пра сапраўднае паходжанне трагічнага здымка.

Насамрэч, здымкі забітых дзяцей былі зробленыя паліцэйскім фатографам каля польскага горада Радам 12 снежня 1923 года, за 20 гадоў да Валынскай трагедыі. Дзяцей — а звалі іх Зоф'я, Антон, Браніслава і Стэфан — забіла напярэдадні вечарам уласная маці — цыганка Марыяна Далінская. Зімой 1923 года ежы не хапала, групы цыган пачалі абкрадаць вяскоўцаў, і тыя паскардзіліся праваахоўнікам.

**Фэйкавы здымак перадрукоўвалі дзясяткі разоў, у тым ліку ў некалькіх навуковых манаграфіях**

Паліцыя арыштавала некалькіх цыганоў, сярод якіх быў і муж Марыяны Далінскай. Жанчына засталася без сродкаў да існавання. Некалькі дзён яна блукала па наваколлі і, ад безнадзейнасці звар'яцеўшы, вырашыла

Прапагандысцкі калаж у часопісе «СССР на стройке» 1940 года. **Здымак, які праз дзесяцігоддзі стаў зброяй антыўкраінскіх прапагандыстаў, — зверху другі справа.**

«выратаваць» сваіх дзяцей ад голаду. Пасля забойства Далінская здалася паліцыі і была змешчана ў псіхбальніцу, дзе і памерла ў 1928 годзе.

Пра трагедыю шмат пісалі ў тагачасных польскіх газетах. Здымкі друкаваліся і ў «жоўтай» перыёдыцы, і ў кнігах па судовай медыцыне, і ў спецыяльных часопісах. Пры гэтым спецыялісты трактавалі ўчынак хворай маці як выпадак «пашыранага самагубства, не даведзены да канца».

І гэты здымак назаўсёды застаўся б выключна ў гісторыі псіхіятрыі і крыміналістыкі, калі б у 1993 годзе яго не перадрукаваў уроцлаўскі часопіс «На рубяжы», але ўжо з подпісам «Польскія дзеці, замучаныя і забітыя аддзелам Украінскай паўстанцкай арміі ў ваколіцах вёскі Казова ў Цярнопальскім ваяводстве восенню 1943 года». З таго часу здымак перадрукоўвалі дзясяткі разоў, у тым ліку ў некалькіх навуковых выданнях, адначасова стварыўшы легенду пра тое, што здымак перадаў падпольшчык з Арміі Краёвай.

Больш за тое, здымак стаў крыніцай натхнення для скульптараў. Апрача згаданага помніка ў Пярэмышлі, з'явіўся падобны праект вялікага помніка ахвярам Валынскай трагедыі і ў Варшаве. Праўда, трэба сказаць, што польскае грамадства аказалася дастаткова разважным, і замест распятых на дрэве дзяцей у Варшаве паставілі вялікі белы крыж. А помнік у Пярэмышлі дэмантавалі ў 2008 годзе. Бо помнікі павінны выклікаць у людзей не страх, нянавісць і помслівасць, а роздум і шчырае жаданне зрабіць так, каб чалавеканенавісніцкія трагедыі больш не паўтараліся.

Затое праз некалькі гадоў трагедыяй шматдзетнай маці стала спекуляваць расійская прапаганда. ◆

**Кур'яновіч, Юрый. Старасвецкая Лошыца.** — Мінск: Беларусь, 2018. — 127 с.

Новая кніга гісторыка і пісьменніка Юрыя Кур'яновіча прысвечана гісторыі Лошыцкага маёнтка — помніка сядзібна-паркавага мастацтва Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў. Лёс гэтага маёнтка, які сёння знаходзіцца ў межах Мінска, звязаны з многімі імёнамі славутых людзей, сярод якіх прадстаўнікі шляхецкіх родаў Друцкіх-Горскіх, Прушынскіх, сусветна вядомыя навукоўцы Мікалай Вавілаў, Аляксей і Эма Сюбаравы, Анатоль Валузнёў, класік беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і іншыя. У кнізе ўпершыню змешчаныя ўнікальныя архіўныя дакументы. На сёння гэта адзінае поўнае даследаванне па гісторыі Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу. Набыць яго можна ва ўсіх асноўных кнігарнях Беларусі.



# ХОВАНКІ, ЛОВАНКІ, КАРЛА І ПІКАР: дзіцячыя гульні 1970-х



SHUTTERSTOCK.COM, BY VYNTAGE VISUALS

**Мільярды дзяцей карагодамі прайшлі па зямлі і сышлі ў яе, перадаючы правілы тым, хто гуляе цяпер, і тым, хто яшчэ прыйдзе з небыцця, каб пагуляць і сысці. Піша Святлана Курс.**

Дзецям нашага пакалення давялося гуляць у рэальным свеце без нагляду дарослых. Нуль гаджэтаў. Зямля, вада, лес, дом, сад, школа, чужыя гарышчы і падвалы. Эрас і Танатас. Дзявочае і хлапечае. Мы выходзілі з дому раніцай, а вярталіся тады, калі прыганялі кароў або на вуліцах запальваліся ліхтары.

Гульні дзяліліся на «хлапечыя», «дзявочыя» і мяшаныя. Дзяўчынкі гулялі адчувальна меней — ім трэба было кожныя два-тры дні праць, прасаваць і падшываць каўнерыкі і падрукаўнікі на школьную сукенку, глядзець малодшых, прыбіраць хату. Іх радзей адпускалі з дому, стараліся аберагаць.

### Класікі

Таму групкі дзяўчатак часта збіраліся ля дамоў і гулялі, напрыклад, у **класікі**. Малявалі на асфальце квадрацікі з «зямлёй» і «небам» і скакалі, падбіваючы нагой шкельца, каменьчык, бляшанку з-пад ляндрынак, вазеліну ці халвы, напоўненую пяском.

### Скакалкі і рызіначкі

Дзве дзяўчынкі нацягваюць на сябе 2–4-метровую бялізнавую гумку, трэцяя праз яе скача. Спачатку нацягваюць на костачкі, потым на каленкі, потым на клубы. Скакаць трэба на розныя спосабы: крыжыкам, банцікам, канверцікам, караблікам і г. д.

Скакалку можна было купіць за 5–15 капеек. Тую, што за пяць, браць няварта: яна занадта лёгкая, каб добра свістаць у паветры. Скакухі спаборнічалі па хуткасці кручэння — скрыжаваныя рукі, скрыжаваныя ногі, ногі напераменку, на адной назе, упрысядку...

Дзяўчаткі і хлопчыкі аб’ядноўваліся дзеля гульняў у клёка, карлу, штандар, выбівалы, картошку ці казакоў-разбойнікаў.

### Карла, або Чыж

Для **карлы, або чыжа,** патрэбная біта (больш кій) і кіёчак — уласна «карла», «чыж». На ўскрайку поля выкопваецца ямка або ставяцца дзве цагліны, і над імі кладачкай кладуць карлу. Вакол карлы колам акрэсліваюць «базу». Вядучы падкідвае карлу ўгару і моцна адбівае, каб ён паляцеў як мага далей, вышэй і пакручасцей. Другі гулец стараецца падбіць карлу бітаю альбо злавіць рукою. Калі ўдаецца, яму налічваюцца ачкі. Пасля пэўнай сумы ён становіцца вядучым.

### Штандар

У **штандар** гулялі так. Удзельнікі становяцца ў кола, вядучы з мячом у цэнтры. Падкідваючы мяч высока ўгару, вядучы выкрыквае імя гульца, так, каб захапіць знячэўку («Штандар-штандар ... Іра!»). Названы павінен выбегчы ў цэнтр кола і злавіць мяч, а вядучы заняць ягонае месца. Калі гулец зловіць мяч, ён вядзе рэй, а калі мяч паспявае кранууцца зямлі, астатнія гульцы бягуць у розныя бакі, пакуль ён не падыме мяч і не крыкне «Штандар!». Усе заміраюць там, дзе іх заспела каманда, а вядучы павінен патрапіць мячом у любога застылага гульца. Гульцы пры гэтым стаяць на месцы, але маюць права ўхіляцца. Вядучы не мае права пакідаць кола. Той, у каго трапілі, становіцца вядучым або выбывае з гульні. Штандар доўжыцца, пакуль не надакучыць ці пакуль мацяркі не закрычаць: «Вася-Люда, дадому!»

### Пікар

У **пікара** гулялі ад снегу да снегу, на адкрытай зямлі. Патрэбныя 3–13 чалавек і не менш за гадзіну часу. На зямлі вызначалі «пікара», падкінуўшы нагою кій даўжынёй каля 1 метра. Адным канцом кій ставіш на нагу, другі канец прытрымліваеш рукой; разгайдаўшы, падкідваеш у поле як мага далей. Той, чый кій адляціць найбліжэй да вызначанага месца, і будзе «пікарам». Яго паставяць сцерагчы «базу» — кола, у цэнтры якога — цагліна, а на ёй — бляшанка. Гульцы шпурляюць кіем па бляшанцы, каб яна зляцела, але строга ў межах базы. Інакш пойдзеш у пікары.

Пікар падчас гэтага шпурляння стаіць убаку ад базы. Гулец, якому ўдаецца збіць бляшанку, павінен забраць з базы свой кій, а пікар — яго не пусціць, «замарозіўшы» сваім кіем. «Замарожаны» сам робіцца пікарам. Іншыя гульцы могуць яму дапамагаць, але так, каб і іх не замарозіў пікар. Калі ніхто не патрапіць па бляшанцы, усе кідаюцца падбіраць кіі, а пікар іх замарожвае. Асабліва ўдалыя гульцы пасля трох збітых бляшанак падыходзяць бліжэй да базы на два крокі. Ім збіваць лягчэй, але і пікар не дрэмле.

### Картошка

Стаяце ў кола і перакідваецеся мячом хутка і рэзка, нібыта ў руках гарачая бульбіна. Той, хто не адбіў, сядае ў цэнтар кола — «кацёл». З часам у катле набіраецца ніштавата «бульбін». Не прыўстаючы з кукішкаў, яны ловяць мяч над катлом. Зловіш — вылазіш з катла разам з іншымі сядзельцамі, а той, хто няўдала кінуў мяч, ідзе ў кацёл. Стаячыя ў коле могуць вызваліць кагосьці з катла, як след улупіўшы ў яго мячом.

## «Бутэлечку» ведаюць усе, а вось «Кіс-кіс-мяў» — падзабытая гульня, заснаваная на мове колераў

### Снежкі

Вялікую ролю ў дваровых гульнях гралі снежкі і сумёты. Снежкамі збівалі мішэні, напрыклад «карону» з галавы снежнай бабы. Трэба было трапіць з дзесяці «веліканскіх» крокаў ды яшчэ не разваліць тае бабы. Усё гэта, перабягаючы ад аднае кучы снежак да другой, наперагонкі з супернікамі.

Набегаешся так, што ледзь валачэш «плюндры» — мокрыя ногі, брудную ваду і снег. Вопратка ў 70-я была невыгодная, цяжкая, непрыстасаваная. Не было непрамакальных куртак, нагавіц, рукавіц, выгодных шкарпэтак і шапак. Ваўняныя шалікі кусаліся, калготкі і рэйтузы спаўзалі, цяжкая шапка мокла ад поту і глушыла гукі. ►




**Гульня ў рызіначкі** вельмі падабалася дзяўчатам.

▶ Маткі лаяліся, бо вопраткі мала, трэба было штодня праць і сушыць, каб было ў чым выйсці.

### Выбівалы

Ад гульні пад назваю **«выбівалы»** дзіцячыя галовы трашчалі як качаны пад дажджом. Два чалавекі ставалі адзін насупраць другога па розныя бакі пляцоўкі. Паміж імі — тыя, каго яны будуць выбіваць з поля. Калі застаецца апошні гулец, ён павінен вылузнуцца ад мяча столькі разоў, колькі яму год. Калі ўдалося — дабрадзей вяртае на поле выбітых і гульня ідзе наноў.

### Хованкі і лованкі

Адзін са шматлікіх відаў хованак — **апанас**. Апанасу завязваюць вочы, раскручваюць і крычаць «Апанас-апанас, лаві дурня, а не нас». Разбягаюцца на ўмоўленай, абмежаванай тэрыторыі. Апанас ловіць гульцоў і стараецца ўгадаць, каго злавіў. Этнографы лічаць, што «жмуркі» — гульня, якая нагадвае пра слепату і няўмольнасць смерці. Каго схопіць лавец?

Гэты матыў марозіць жылы і ў дзіцячых казках. Уначы дзяўчынка з навязаным званочкам хаваецца ў хаце ад мядзведзя. Урэшце дзяўчынку ратуе добрая мышка — бегае і звоніць званочкам, пакуль мядзведзь не кідае ў яе каменем і не забівае. У жмурках і хованках страшна перайсці мяжу паміж родным, будзённым і пабытавым і незнаёмым, бясконцым. Часам схаваешся ў шафе за матчыным футрам і з заміраннем сэрца чуеш, як лавец усё бліжэй да тваё схованкі. Ты марыш, каб шафа сталася безразмернай, ёй жа гэта так проста — яна хавае ў сябе і лета, і зіму, і будні, і святы. Лісіную шапку мамы, святочны касцюм бацькі, выхадныя чаравікі, сумачку са старымі дакументамі — чаму б не схаваць у нетрах і цябе? Недарэмна Нарнія пачыналася менавіта ў шафе. У страшных гісторыях аднаго са схаваных не знаходзяць ніколі або знаходзяць праз многія гады.

**Лованкі** — варыянт хованак, але ў іх няма наканаванасці. Ты можаш уцячы ад лаўца, калі будзеш спрытны і разумны. Былі нават лованкі з «домікам» (бяспечнай зонай, дзе лавіць нельга). Можна было крыкнуць «чай-чай, выручай», і табе на дапамогу рынуцца сябры. Але лавец можа дотыкам «замарозіць» і іх.

### Піянербол

Любілі мы і савецкую гульню **піянербол** — спрошчаны валейбол. Для яго дастаткова мяча і нацягнутай сеткі альбо вяроўкі. Мяч тут не адбіваюць, як у валейболе, а ловяць. Піянербол не патрабуе асаблівай сілы, навыкаў і спрыту, таму гуляюць усе, хто выйшаў на двор.

### Гульні з зямлёй: ножычкі

Два гульцы малявалі на зямлі вялікае кола, падзеленае напалову. У палову суперніка кідалі сцізорык. Па ягоным становішчы вызначалі, які кавалак зямлі адкроіць суперніку. Гулялі датуль, пакуль аднаму з гульцоў не заставалася месца, каб змясціўся ступак.

### Гульні ў хаванне і пахаванне: сакрэцікі

Ножыкі, каменьчыкі, качанне і «мацакаванне» яек — радасныя, вясновыя гульні, у іх гулялі, як толькі пачынала «дыхаць зямля».




**Ад «выбівалаў» дзіцячыя галовы трашчалі як качаны пад дажджом**

А калі зямля ўжо не толькі дыхала, але і красавала, надыходзіла пара «сакрэцікаў». Для іх кожная дзяўчынка збірала харaство: пацеркі, гузікі, каменьчыкі, каляровыя кавалачкі пластыку, медныя, нацёртыя да чырвонага жару капейкі, «золаткі» (фольгу з цукерак). Асабліва цаніліся сінія, пурпуровыя і зялёныя золаткі. Усё гэта плюс кветкі выкладалася ў маленькую ямку. Спачатку «золатка», на яго тле ўзоры з памянёных скарбаў. Зверху «сакрэцік» прыкрывалі кавалкам шкла (найлепей каляровага) і абрамлялі зямлёй. Зрабіць сакрэцік трэба так, каб ведала блізкая асоба, але не знайшлі варвары, якія любяць «бурыць» чужыя сакрэцікі.

Сакрэцікі, бадай, самая рытуальная гульня, «з дрыжыкам», знітаваная з паняткамі «скарб», «таямніца», але і «пахаванне». Што робяць час і сырая зямля з «сакрэцікам»? Кветкі і фанцікі ссыхаюцца, гніюць, выцвітаюць; каменьчыкі і шкло зацягваюцца пяском. Вечнага нічога няма, чалавек прывыкае да глебы і часу.

Асаблівым жанрам «сакрэцікаў» было перажыванне і пахаванне «маленькай смерці» — птушак, жабак, мышак, кацянят. Іх хавалі ў каробачках, усцеленых ватай і шматкамі атласу, ядвабу, карункаў. Ад таго неаднойчы цярпелі мацерыны адрэзы й сукенкі. На магілу прыносілі кветкі і вяночкі, ставілі маленькі крыжык. Часам у магілку клалі капейкі — як на дарослым пахаванні. Старэйшыя «варвары» маглі падгледзець ды раскапаць потым тую магілку, выкарыстаўшы манеты на булачку ці газіроўку.




MAKDILL, SHUTTERSTOCK.COM

### Разумовыя і фантазійныя гульні: «Мора хвалюецца»

Вядучы або гульцы хорам прамаўляюць словы: «Мора хвалюецца раз, мора хвалюецца два, мора хвалюецца тры, марская фігура на месцы замры». І тут гульцы прымаюць розныя пацешныя і дзіўныя паставы і не павінны рухацца, пакуль на іх глядзіць вядучы. Калі нехта паварушыцца, ён сам пераходзіць у вядучыя. А гэта нудна. Таму вядучы стараецца вывесці гульца з раўнавагі: «лепіць» з яго розныя скульптуры, згінаючы ногі і рукі, казыча і смешыць.

### «Я знаю пяць імёнаў»

Б'еш мячом і кажаш: «Я знаю пяць імёнаў дзевачак» (хлопчыкаў, гарадоў, кветак, краін, колераў і г. д.). Называеш тыя пяць імёнаў, пры кожным б'ючы мячом аб зямлю. «Таня — раз, Люда — два, Света — тры» і г. д. Збіўся — перадай мяч. Ад пяці даходзяць да дзесяці. Выйграе той, хто першы дабраўся да дзясяткі імёнаў.

### «Ядомае-неядомае»

Гульцы становяцца ў шэраг. Вядучы кідае мяч і адначасова называе які-небудзь прадмет. Калі прадмет «ядомы», гулец ловіць мяч. Калі не — адбівае. Задача — заблытаць гульца, напрыклад, у ланцужку «яблык-рэпа-бульба-гарбуз» укруціць «камень». Калі гулец памыліцца і «з'есць» неядомае, ён сам становіцца вядучым. Вядучыя паскараюць тэмп і называюць прадметы, якія могуць быць ядомыя ці неядомыя. Напрыклад, «слон». Яго не ядуць у Беларусі, але ядуць у Афрыцы, як мы вычыталі з кніг Луі Бусэнара і Жуля Верна.

Былі яшчэ «Калечка-калечка», «Глухі тэлефон», «Я садоўнікам радзіўся». Правілы гэтых гульняў вядомыя бадай кожнаму дзіцяці 1970–1980-х. ▶

### Войны і партызаншчына

«Беларусьфільм» у тыя часы слушна звалі «Партызанфільмам». Студыя дзясяткамі выпускала кіно пра «нашых і немцаў», чым вызначыла галоўную ролевую гульню вуліц і падворкаў. Дзяўчат бралі максімум у «санітаркі». Затое хлопцам было раздолле.

Гульні ў вайну пладзілі неймавернае багацце зброі: рагатак, лукаў, аўтаматаў, самапалаў, ружжаў, што стралялі на каменьчыкі, гнутыя кулькі з дроту, пістоны, стрэлы і бог ведае яшчэ што.

### Казакі-разбойнікі

Затое ў **казакі-разбойнікі** прымалі ўсіх. Каманда «разбойнікаў» выдумляла пароль і ўцякала, пакідаючы знакі, каб «казакі» разгадвалі і шукалі пароль. Знакі рабіліся цэглаю, вугалем ці крэйдаю на асфальце, сценах, дрэвах. Разбойнікі ўцякалі разам альбо раздзяляліся, каб заблытаць ворага. Казакі маюць права выпытваць пароль у палонных разбойнікаў — валакуць у турму на «катаванні». Казычуць, даюць шчаўбаны і пстрычкі, круцяць скуру на запясцях («крапіўка»), круцяць нос («сліўка»), сякуць дубцамі і крапівой. Не хочацца думаць пра гістарычнае паходжанне гэтай вясёлай гульні.

Важнымі і маштабнымі былі сезонныя войны — вадзяныя і снежныя. Вадзяных пісталетаў тады не было, затое можна зрабіць «пырскалку» з пластыкавай пляшкі, прабіўшы дзірку ў корку. З прэзерватываў і гумовых пальчатак атрымліваліся выдатныя вадзяныя бомбы.

### Камень-нажніцы-папера

На выпадак, калі мусіш сядзець у школе ці дома, існавалі шыбеніца, «камень-нажніцы-папера», гульня ў гарады і словы, марскі бой, лато, дыяфільмы, жаўнерыкі, замкі і ваенныя базы, лялькі, дочкі-маткі, «слон» і «пеўнікі». У «пеўнікаў» мы гулялі нават на праполцы школьных градаў і ля кабінета дырэктаркі. Двое акрэслівалі кола, станавіліся на адну нагу, хавалі рукі за спінай і спрабавалі, штурхаючыся грудзьмі і плячыма, пазбавіць суперніка раўнавагі ці выштурхнуць з кола.

### Зноў «хлапечае» і «дзявочае»

Час ішоў, дзяўчынкі і хлопчыкі падрасталі. Дзяўчаткі дарасталі да «спеўнікаў» і «альбомаў», куды перапісвалі душараздзіральныя гісторыі ды вершы пра каханне. Пачыналася і «варажба» на «суджанага» ды «судзьбу». Як з горыччу пісаў Клайв Льюіс, «С’юзэн перастала жыць у Нарніі. Яе больш не цікавіла нічога, апрача памады, панчох і кахання».

Адны хлопчыкі заставаліся Пітэрамі Пэнамі, іншыя варожа ўспрымалі жаночае, губляліся ў супярэчлівых імпульсах цягі і адпрэчання. Гэта выклікала брудныя гульні — калектыўнае абмацванне злоўленай дзяўчынкі, міжгендарны булінг і г. д. Аднак існаваў і легальны спосаб выразіць навеяўленую сэксуальнасць, навучыцца «дружыць» з супрацьлеглым полам.

ФОТА АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК



**Агова, Іванаўскі раён.** 1990-я.



Казакі-разбойнікі.

Да прыкладу, «Бутэлечку» ведаюць усе, а вось «Кіс-кіс-мяў» — падзабытая гульня, заснаваная на мове колераў. Вядучы і гулец становяцца перад групай удзельнікаў. Вядучы — тварам, гулец — спінай. Вядучы паказвае на аднаго з удзельнікаў і кажа: «Кіс!» Калі гулец, які стаіць спінай, адказвае «брысь», вядучы працягвае выбіраць. Як толькі гулец кажа «мяў», вядучы пытаецца ў яго: «Які колер?» Гулец выбірае колер і паварочваецца тварам да ўдзельнікаў. У залежнасці ад названага колеру гулец і абраны ўдзельнік выконваюць заданне. Адмовіцца нельга. Белы колер азначае, што гэтыя двое павінны схавацца разам. Што яны там робяць — іх справа. Зялёны — тры пытанні, адказаць на якія гулец можа толькі «так». Звычайна пытанні падступныя. «Ці цалаваўся ты з дзяўчынкай?», «Ці любіш ты Андрэя?» (гыгыгы!) Чырвоны — пацалунак у вусны, ружовы — у шчаку, сіні — у руку. Жоўты — тры пытанні сам-насам (хлусіць ці змаўчаць — нельга). Аранжавы — прагуляцца па вуліцы пад ручку. Фіялетавы — зрабіць прыкрасць: крапіўку, сліўку, шчаўбана, тузана ці хоць якую заколку адабраць.

Былі і прыгожыя, старыя гульні.

## Баяры і яшчар

«Баяры», «Яшчар», «Ручаёк», «Явар». **Баяры** дзвюма камандамі станавіліся адна насупраць другой, трымаючыся за рукі, на адлегласці 10–15 м. Адна каманда — хлопцы, другая — дзеўкі. Хлопец разбягаецца і стараецца парваць ланцуг у дзявок. Не ўдасца — яго бяруць за рукі царэўны. Удасца — бярэ царэўну і вядзе да баяраў. Так два шэрагі змешваюцца. Такая слодыч — легальна абраць і ўзяць за руку сваю сімпатыю. На жаль, гэтая гульня давала і шмат падстаў для пакут і несупадзенняў.

«Ручаёк», «Цяцерка», «Яшчар» і «Явар» сутнасна падобныя да «Баяраў», але там хлопцы і дзяўчаты гуляюць у парах ці карагодах, утвараюць шарэнгі і калідоры, мяняючы пары і выкрадаючы «фанты».

## Бумбалка

Апрача Эрасу, дзіцячымі гульнямі кіраваў і Танатас. Вясковыя дзеці лазілі ўсюды, рабілі ўсё, што ўзбрыдзе ў галаву. Жавалі гудрон, сліўковую смалу і сасновую жывіцу, елі дзікія расліны, скакалі ў ваду з самаробных тарзанак і са шлюзаў, коўзаліся з высокіх гор, каталіся на самаробных вазках і самакатах без тармазоў, на роварах «без рук», набягалі на чужыя сады і падворкі, кралі чужыя брамкі на Купалле, уначы ставілі «бумбалкі» самотным старым. **Бумбалка** — гэта навязаная да акна бульбіна. Хаваешся ў кустах, цягнеш за вяровачку, а бумбалка стукае ў шыбу, палохае самотнага дзівакаватага старога, а ён так смешна лаецца.

Былі і тыя, хто перасёк мяжу з краінай вечных гуляў. Адзін няўдала скочыў са шлюза, другі заблукаў і замерз, гуляючы зімой у вайнушку, трэці павесіўся, бо яго байкатавалі. Яшчэ нехта трапіў пад машыну, спрабуючы зрабіць зачэпу.

Рагаткі, лукі, арбалеты, самапалы, выбухпакеты, дымавухі, пістоны, вадзяныя бомбы, шыфер і карбід, душылачкі, крапіўкі, шчаўбаны, сліўкі, зачэпы, шалашы і домікі на дрэвах, тарзанкі і скоканкі.

Нават вырастаючы, дзеці гуляюць у гульні, бо баяцца нуды болей, чым смерці. Для кагосьці вайна становіцца варыянтам хованак і лованак.

Ёсць і лепшы спосаб пераадолець нуду — арэлі. Яны дазваляюць схапіць рытм жыцця і смерці, узнясення і падзення, цыклічнасці, каляндарнасці і паўтаральнасці. ◆

**Ад рэдакцыі.** Дарагія чытачы, а ці гулялі вы ў гэтыя гульні? Якія гульні былі ў вашым дзяцінстве? Якім вучыце сваіх дзяцей? Дзяліцеся з намі, пішыце на **history@nn.by**.



Хлопчыкі гуляюць **у ножычкі**.

# ЗАГАДКА партрэта Януша РАДЗІВІЛА

## Рэстаўратары Нацыянальнага мастацкага музея адкрылі пад пазнейшымі слаямі сапраўднае аблічча князя Януша — вы здзівіцеся

**Гэты партрэт ведаюць усе. Па ім апісвалі сармацкія строі і вывучалі інтэр'еры, ён нават трапіў на вокладку манаграфіі «Беларускі касцюм». Аказалася, той хрэстаматыйны выгляд гетману надалі ў XIX стагоддзі. Рэстаўратары Аркадзь Шпунт і Аляксандр Лагуновіч-Чарапко расказваюць, як насамрэч выглядаў на тым партрэце Януш Радзівіл.**

### Чаму партрэт вырашылі рэстаўраваць

— Падчас прафілактычнага агляду партрэта мы выявілі нязначнае адставанне фарбы разам з грунтам ад асновы. З'явілася нагода ўзяць твор у рэстаўрацыю, — расказвае Аркадзь Шпунт. — Рэнтгенаграма паказала пад слоем фарбы выяву даспехаў. Мы пабачылі, што адрозніваецца і жэст правай рукі.

Рэстаўратарам дазволілі зрабіць зандаж, зняўшы навейшыя слаі. Калі мы раскрылі фрагмент 20×20, сапраўды стаў бачны даспех...



Пакуль не ўзяліся за рэстаўрацыю, ніхто не задумваўся, **адкуль на Радзівіле слуцкі пояс**. У часы ж напісання партрэта слуцкай мануфактуры не існавала!

**Так партрэт выглядаў да рэстаўрацыі.**

### Калі знік даспех

Калі мы пачыналі, мы не ўяўлялі, колькі было рэстаўрацый да нас. Здымалі слой за слоем, раскрывалі першапачатковы жывапіс. Аказалася, партрэт рэстаўравалі і дамалёўвалі прынамсі тройчы.

Першы раз — прыкладна праз стагоддзе пасля стварэння. У XVIII стагоддзі быў замаляваны даспех каля ног Януша і ўказальны жэст правай рукі. І гэта яўна не было звязана з тэхнічным станам. Чаму даспех замалёўвалі? Чый гэта даспех увогуле?..

Тут павінны папрацаваць гісторыкі. Магчыма, паміж слаямі жывапісу хаваецца гістарычная драма.

### Калі знікла ўсё астатняе

У XIX стагоддзі лак на партрэце моцна пачарнеў. Чыталіся толькі твар, боты і рука.

Рэстаўратары XIX стагоддзя, напэўна, амаль не бачылі аўтарскага жывапісу і з лёгкай душой усё запісалі, як самі ўяўлялі. Гэта былі майстры невысокага ўзроўню. Паглядзіце хаця б на так званы «слуцкі пояс» — ён намаляваны няправільна. Яны зрабілі нешта пярэстае, незразумела завязанае.

У 1970-х Януша разам з іншымі радзівілаўскімі партрэтамі рэстаўравалі ленінградскія майстры Міхаіл Маркаў і Ананій Брындараў.

Сваіх рэстаўратараў у БССР яшчэ не было, 50 гадоў таму мы



**Даніэль Шульц** (1615–1683) — патомны мастак родам з Гданьска. Стыль яго сфарміраваўся пад уплывам галандскіх і фламандскіх жывапісцаў XVII стагоддзя. Быў партрэтыстам пры двары ўладароў Рэчы Паспалітай Яна Казіміра Вазы, Міхала Вішнявецкага і Яна Сабескага, стварыў шэраг магнацкіх партрэтаў. Акрамя таго, надзвычай таленавіта маляваў жывёл.




НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ

**Гісторык Кірыл Карлюк:** Сюжэт з даспехамі на тагачасных партрэтах пашыраны. Гэта мог быць ваенны трафей, але часцей змяшчалі даспех самога партрэтаванага. Гэта важны атрыбут, асабліва для вайсковай асобы (*nobilis armatus*). Чаму даспех замалявалі ў XVIII стагоддзі? Загадка. У той час Януш не меў яскравага негатыўнага вобразу, які мог сфарміравацца ў сучаснікаў ці пазней, у XIX стагоддзі, пад уплывам польскай гістарыяграфіі і літаратуры. Радзівілы XVIII стагоддзя, наадварот, ганарыліся яго перамогамі.

толькі-толькі пачыналі. Ёсць у гэтым сімвалічнае значэнне: скончылася эра замежнай рэстаўрацыі і пачыналася эпоха нацыянальнай. Сёння мы самі рэстаўруем гэты партрэт, і ў гэтым мне бачыцца нешта сімвалічнае — нібы здаём экзамен паўвекавога спасціжэння сваёй прафесіі.

Нейкі час мне здавалася, што ленінградскія рэстаўратары прыехалі, раскрылі ўсе слаі да арыгінала, а потым не захацелі таніраваць, бо гэта працаёмкая работа, пашкадавалі часу. Я насіў гэта як камень на сэрцы: такія спецыялісты, ды як яны маглі? Ці то гэта такая знявага да нашага жывапісу, ці то што...

Насамрэч, яны зрабілі зандажы жывапісу, і, відаць, захаванасць падалася ім такой нязначнай, што яны вырашылі не выдаляць слой XIX стагоддзя. Яны рэстаўравалі яго, здублявалі палатно на новую аснову, затаніравалі страты жывапісу — а глыбей не палезлі.

Так партрэт і вісеў 50 гадоў. Паколькі майстры былі масцітыя, не ўзнікала сумневу ў іх рабоце.

А мы ў экспазіцыі і навуковым абароце замест партрэта ▶

— Мы звычайна бачым на такіх партрэтах атрыбуты ўлады. Герой трымае ў руцэ эфес шаблі ці нешта такое. Але мы не знайшлі ніякіх слядоў шаблі, нічога падобнага. Выходзіць, насуперак тагачаснай модзе, у правай руцэ ён не трымаў ні зброі, ні атрыбутаў улады. Чаму? — задаюцца пытаннем рэстаўратары.



▶ XVII стагоддзя мелі запіс XIX-га, рэстаўраваны ў XX-м.

### Хто аўтар партрэта

— Аўтарства вызначана дакладна, — кажа Аркадзь Шпунт. — Калі мы раскрылі жывапіс, выклікалі спецыялістаў з Гданьска, у якіх ёсць творы Даніэля Шульца. І яны адразу пазналі яго руку. Ясна, чаму раней пазнаць не маглі, — стылістыка арыгінала вельмі адрозніваецца ад слоя XIX стагоддзя.

— Мяркуючы па ўсім, Шульц рабіў падрыхтоўчы малюнак з натуры, — кажа Аляксандр Лагуновіч. —

### Адкрыцці па ходу

— Супрацоўнік музея Станіслаў Чавус выказаў гіпотэзу, што гэты рысунак — накід з натуры да партрэта Януша Радзівіла.
На рысунку ёсць сетка, яна патрэбна, каб пераносіць маштабы. Сетка была зроблена таксама і на нашым палатне. Рысунак перанеслі, толькі павялічылі адпаведна, — тлумачыць Аляксандр Лагуновіч.
— Тут бачым рэальныя рысы: напрыклад, у Януша плечы не вельмі шырокія і ўвесь выгляд не такі гераічны, як на партрэце. Цікава назіраць, як у XVII стагоддзі накід з натуры трансфармаваўся ў парадны партрэт, якія рысы падкрэсліваліся.

Таксама Шульц, відаць, асобна зрабіў замалёўку галавы. А ўсё астатняе маляваў з манекена — так у той час стваралі парадныя партрэты. Сам Януш не пазіраваў — не будзе ж Радзівіл месяц стаяць перад мастаком! Парадная вопратка надзявалася на манекен, яго ставілі ў патрэбную позу... Потым дамалёўвалі рукі. Таму не факт, што рукі на партрэце належаць Янушу.

### Колькі часу пайшло на рэстаўрацыю

— Ад рэнтгену да сёння прайшло два гады. Работ зроблена на 99 %. Да 17 сакавіка партрэт на выставе ў Мастацкім музеі, а пасля будзем заканчваць, пазаймаемся яшчэ, можа, паўгода. Будзем таніраваць, пакрываць лакам. Рыхтаваць раму. Яе выканалі па аналагу XVII стагоддзя, — адзначае Аркадзь Шпунт.

Цяпер мы маем арыгінальны жывапіс XVII стагоддзя рукі Даніэля Шульца.

### Як цяпер з гэтым жыць

— Выкладчыкі скардзяцца: раней карціна была больш інфарматыўная, расказваць студэнтам пра гісторыю касцюма было значна лепш! — смяецца Аляксандр. — У тым сэнсе, што на ім прысутнічаў слуцкі пояс. Але людзі і не задумваліся, што ў часы напісання партрэта слуцкай мануфактуры не існавала!

— Людзі глядзяць на арыгінал сённяшнім вокам і разважаюць, што з рукой нешта не тое, а што — сказаць не могуць. Ім нязвыкла гэта, як і жупан, які раней быў як шынель і не сцёганы. Але сёння навукоўцы маюць магчымасць працаваць з сапраўдным творам XVII стагоддзя, а наведнікаў музея не ўводзіць у зман позні жывапіс.

### Ці будуць іншыя сармацкія партрэты правяраць на рэнтген

— Трэба глядзець і рэвізаваць усё, што ёсць. Але пакуль у нас

## Януш Радзівіл: чалавек, які бачыў Беларусь у саюзе са Швецыяй, а не Польшчай ці Расіяй

Гетман ВКЛ, ваявода віленскі і стараста барысаўскі займеў, дзякуючы раману Генрыка Сянкевіча «Патоп», амплуа здрадніка ды крывадушніка, бо «здаў» Рэч Паспалітую Швецыі. Але ці не было гэта спробай вярнуць ВКЛ незалежнасць? І вывесці на іншы шлях развіцця: ані каталіцызм, ані праваслаўе, але пратэстантызм, які выбралі краіны Скандынавіі?
Януш Радзівіл (1612–1655) пражыў усяго 43 гады, але пра яго асобу спрачаюцца і сёння. Ён быў кальвіністам, плаціў стыпендыі пратэстанцкай моладзі для вучобы за мяжой.
Сам вучыўся спярша ў Слуцку, у кальвінісцкай гімназіі, потым у замежных універсітэтах. Але «Марсава навука» яму была больш даспадобы.
У 1633 годзе 21-гадовы князь, на свае грошы наняўшы тысячу пехацінцаў і дзвесце драгунаў, бараніў Смаленск ад маскоўскага войска. Горад тады ўдалося адстаяць.
Як уплывовы магнат, Януш быў у свіце караля, але меў дзёрзкі нораў. Гэта яму, нібыта, належаць словы «прыйдзе час, калі мы палякаў праз вокны будзем выкідаць».
Радзівілы ў той час не мелі піетэту да Кароны і пальшчызны, яны самі хацелі быць «каралямі Літвы».
Пра характар князя сведчыць і тое, што ён ажаніўся з каталічкай — насуперак бацькавым праклёнам. Такое было каханне!
Другая жонка — ізноў не пратэстантка, а праваслаўная, малдаванка Марыя Лупул.
Чалавек свайго часу, Януш быў бязлітасным ваяром. У 1648–1651, змагаючыся з казакамі Багдана Хмяльніцкага, ён заліваў крывёю поўдзень Беларусі, жудасна караў рэальных і патэнцыйных прыхільнікаў казаччыны.

### Радзівілаўскі нос

Мода на сармацкі партрэт з'явілася ў XVI стагоддзі і трымалася ў ВКЛ дзвесце год. Ён быў своеасаблівым сімвалам стабільнасці. Хай сабе тэхніка малявання пайшла далей, шляхта і магнаты патрабавалі ад мастакоў маляваць сябе ў карціннай ненатуральнай позе, з анатамічнымі скажэннямі — абы было як на партрэтах продкаў. Сармацкі партрэт не мусіў перадаваць жывы характар. Чалавек на партрэце перш за ўсё быў прадстаўніком свайго клана, піша даследчыца Лада Клімуць у кнізе «Сармацкая культура беларускай шляхты ў XVI–XVIII стагоддзях». Нават партрэтнае падабенства мела служыць доказам прыналежнасці да шляхетнага роду, чысціні паходжання. Мастак адмыслова вылучаў фамільныя рысы — у выпадку Радзівілаў на партрэтах акцэнтаваліся іх вялікія насы.

няма ўмоў, дзе можна рабіць такую сур'ёзную работу. Павінна быць святло, прыстасаванне. І многае, што адпавядае сапраўднай рэстаўрацыйнай майстэрні. Спадзяюся, я яшчэ паспею папрацаваць у такіх умовах, хаця б пад канец свайго працоўнага шляху, — Аркадзь Шпунт займаецца рэстаўрацыяй ужо 49 гадоў. ◆

**Падрыхтавала Паўліна Скурко**



**Аркадзь Шпунт**
загадчык аддзела навукова-рэстаўрацыйных майстэрняў Нацыянальнага мастацкага музея. Нарадзіўся ў 1947-м. У рэстаўрацыі працуе з 1970-га, аднаўляў ляпніну полацкай Сафіі, керамічную аздобу пахавальні Паскевічаў у Гомелі, у 1990–2000-я рэстаўраваў роспісы мінскай Катэдры. Займаецца рэстаўрацыяй абразоў.

**Аляксандр Лагуновіч-Чарапко**
загадчык сектара рэстаўрацыі старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея. Нарадзіўся ў 1985-м. У музеі ад 2008-га. Аднаўляў роспісы ў мінскай Катэдры, рэстаўраваў цудатворны абраз Маці Божай Крывіцкай з касцёла вёскі Беліца Лідскага раёна, Дзісненскую Адзігітрыю і ікону Святога Спаса, абраз Марыі Магдалены ў касцёле ў Ракаве.

Пры самым канцы жыцця, у 1654-м, Януш атрымаў булаву вялікага гетмана літоўскага. Пачыналася 13-гадовая вайна, якая спустошыць ВКЛ, забярэ 2/3 насельніцтва і стане пачаткам канца Рэчы Паспалітай. На дзяржаву напалі з трох бакоў: з усходу Расія, з поўначы Швецыя, з поўдня казакі. Кароль Ян Казімір быў слабы. Войска не хапала, магнаты спрачаліся, сойм не ўзгадняў падаткі на вайну... Маскоўскі цар захапіў Вільню. Шведскі кароль заняў захад краіны. Януш, галоўнакамандуючы, мусіў абіраць тут і цяпер.

«Гаворка не пра славу, Рэч Паспалітую, свабоду і маёмасць, а пра жыццё, — пісаў Януш. — З двух ліхаў мы павінны выбраць меншае, з плачам развітаўшыся са сваёй свабодай». У тым лісце гетман тлумачыў, чаму ВКЛ разрывае саюз з Польшчай, якая нічым дапамагчы не магла, ды ўступае ў унію са Швецыяй. Вялікаму Княству давялося прасіць шведскай дапамогі, пісаў Радзівіл, каб абараніцца ад маскоўскай тыраніі, якую ён і лічыў найгоршай бядой. Ці сапраўды гэта быў адчайны крок? Або, можа, Януш пабачыў гістарычны шанц Вялікага Княства пазбавіцца ад польскага ўплыву ды ўзвысіць уласны род? Кейданская унія, якую ад ВКЛ падпісала больш за 1100 чалавек, абяцала Княству абарону Швецыі. Кароль Карл X Густаў абавязаўся вярнуць захопленыя Расіяй землі, а ўзамен ён станавіўся вярхоўным кіраўніком ВКЛ. Намеснікамі, якія трымалі рэальную ўладу, сталі б Радзівілы. Войска спярша падтрымала Януша, але хутка энтузіязм астыў.

Праз два месяцы пасля падпісання Кейданскай уніі, у снежні 1655-га, у сваім замку Тыкоцін на Падляшшы Радзівіл апынуўся зусім адзін ды ў аблозе. Шведскі кароль на дапамогу не прыйшоў. І Януш памёр загадкавай смерцю. Ад удару, атруты, а можа, сам сабе зрабіў смерць... Нягледзячы на правал, эфект ад уніі быў. Пасля яе расійскі цар мусіў абвясціць вайну Швецыі, заключыўшы перамір'е з Рэччу Паспалітай. Нашы продкі атрымалі хоць невялікі перадых.

Цікава, як саюз са Швецыяй мог бы павярнуць нашу гісторыю? У Швецыі, напрыклад, у тыя часы не існавала прыгону. Сяляне былі свабоднымі, мелі зямлю ў прыватнай уласнасці... Факт, што менавіта пратэстанцкія краіны Еўропы абагналі ўсе іншыя ў сваім развіцці.



# Нашчадкі прусаў

## Дзівосная гісторыя выжывання балцкага анклава каля Ліды

**Жыхароў шэрагу вёсак на Лідчыне аддаўна называлі барцякамі. Многія думаюць, што назва пайшла ад борцяў з пчоламі. Насамрэч, усё значна цікавей, раскажае кандыдат гістарычных навук Юрый Унуковіч.**

У першай палове XIX стагоддзя гісторык і археолаг Тэадор Нарбут выявіў: загадкавы народ, які рускія летапісцы называлі «бартамі», — гэта выхадцы з прускай правінцыі Бартніі. Іх нашчадкі дагэтуль жывуць

**«Прусамі» ў Сярэднявеччы называлі балцкія народы** Пагезаніі, Памезаніі, Варміі, Натангіі, Самбіі, Надровіі і іншых зямель. Супраць іх Тэўтонскі ордэн у XIII стагоддзі зладзіў бязлітасны крыжовы паход з мэтай хросту «паганскіх плямёнаў» Балтыі.

у Лідскім павеце. Радавы маёнтак Нарбутаў, Шаўры, суседнічаў з іх сёламі, чым і тлумачылася адмысловая цікавасць даследчыка.

І сапраўды, борці ад пачатку былі жыхарамі цэнтральнай прускай зямлі Бартніі (іншыя назвы — Бартовія, Барцыя). У 1238–1240 гадах гэтая правінцыя, разам з Варміяй і Натангіяй, была захоплена Тэўтонскім ордэнам. Пасля чарады паўстанняў у 1273-м жыхары Бартніі былі канчаткова скораныя. І гэта стала каталізатарам актыўнай, пісьмова засведчанай міграцыі жыхароў Прусіі на землі Вялікага Княства Літоўскага.

Пра тое перасяленне сведчыць цэлы шэраг сярэднявечных дакументаў. Іпацьеўскі летапіс паведамляе, што ў 1276 годзе да князя Трайдзеня прыйшлі прусы, якім пагражала нямецкая няволя. Ён іх зычліва прыняў і адну частку пасяліў у Гродне, а другую — у Слоніме. Тое ж кажуць і ордэнскія крыніцы. Польскі гісторык Ежы Ахманскі лічыў, што вялікія князі мэтанакіравана, са стратэгічна-вайсковымі мэтамі рассялялі заходнябалцкае насельніцтва на рубяжах Вялікага Княства.



**Неабходна адрозніваць** назвы населеных пунктаў, утвораныя ад этноніма «борці», і тапонімы тыпу Барташы, Барташуны (яны паходзяць ад старажытнага імя Барташ), а таксама геаграфічныя назвы тыпу Бортнікі, Бартнікі, звязаныя з заняткам мясцовага насельніцтва — бортніцтвам.



Літоўка-«барцячка» Тафіля Шымялевіч.

Два народы — прусы і борці (*бортеве*) — згадваюцца ў Іпацьеўскім летапісе таксама ў 1278 годзе, ужо ў якасці абаронцаў Гродна ад татар і галіцка-валынскага войска.

Гэтыя перасяленні, апрача пісьмовых крыніц, пакінулі след у тапаніміі Літвы і Беларусі. Назвы Прусы, Борці, Барцякі сустракаюцца ў многіх раёнах Віленшчыны, Гродзеншчыны і Міншчыны.

## Палонныя скаловы

Апрача добраахвотных уцекачоў, у ВКЛ асядалі палонныя, захопленыя ў час шматлікіх канфліктаў з Тэўтонскім ордэнам. Менавіта так тут з'явіліся скаловы. Гэта жыхары самай паўночнай прускай правінцыі ў нізоўях Нёмана — Скаловіі, якая межавала з Жамойцю.

Ужо ў другой палове XIV стагоддзя пісьмовыя крыніцы згадваюць паселішчы скаловаў на рацэ Пелясе на тэрыторыі Воранаўскага раёна. У адным са «шпіёнскіх» ордэнскіх дакументаў пад назвай «Паведамленні аб літоўскіх шляхах» пры апісанні дарогі з Пералома на Эйшышкі згадваецца Скалева паміж Забалаццю і Радунню і тлумачыцца, што там жывуць людзі з прускай зямлі Скаловіі, узятыя ў палон пры Рагніце (цяпер горад Нёман у Калінінградскай вобласці).

Тое ж Скалева вядомае з прывілея 1387 года, які вызначаў уладанні князя Скіргайлы. Ежы Ахманскі зрабіў выснову, што Скалева было агульнай назвай прускай калоніі (групы вёсак) пад Радунню і ўзнікла пасля паходу Кейстута і Альгерда на Скаловію ў 1365-м.

Літоўскія князі сялілі ўцекачоў з прускіх зямель і ў іншых месцах сваіх уладанняў. Напрыклад, Вітаўт пасяліў перабежчыкаў з Прусіі ў Віленскім, Ашмянскім, Лідскім і Гродзенскім паветах.

У выніку ўздоўж старажытнай мяжы балтаў і славян сфармаваліся цэлыя анклавы заходнябалцкага насельніцтва.



Акрамя ваколіц мястэчка (а цяпер гарадскога пасёлка) **Радунь** на Воранаўшчыне, паселішчы борцяў вядомыя каля Турыйска на правабярэжжы Нёмана (Шчучынскі раён), у **Борцях** і **Клявіцы** на рацэ Кляве (Ашмянскі раён), у **Гожы** і **Пераломе** (Гродзенскі раён).

## На новай радзіме

На сваёй гістарычнай радзіме прусы ў XVI–XVII стагоддзях былі цалкам асіміляваныя. А вось мігранты (у першую чаргу борці), якія пасяліліся на новых землях, яшчэ доўга захоўвалі адметныя рысы, у тым ліку саманазву і мову.

Гэтаму спрыяў іх асаблівы статус. Асноўнымі абавязкамі борцяў былі будаўніцтва і рамонт мастоў. У XVI стагоддзі борці складалі ў ВКЛ спецыялізаваную групу «гаспадарскіх паданных», якія ў часы мабілізацыі выконвалі функцыю інжынерных войскаў і пантанёраў. Гэты абавязак вызначаў ім адмысловы артыкул «Аб борцях» Уставы на валокі 1557 года.

Імаверна, што прафесійнымі навыкамі і ведамі ў галіне мостабудаўніцтва борці авалодалі яшчэ ў Прусіі. Нездарма вялікія князі сялілі іх паблізу важных транспартных артэрый — напрыклад, на правым беразе ▸




Забалочанае ўрочышча, якое яшчэ на польскіх картах 1920–1930-х называлася не інакш як **«багна Каменны Мост»,** у савецкія часы было цалкам асушана.

ракі Пелясы. У XV–XVI стагоддзях праз гэтае моцна забалочанае месца (нават сама назва ракі паходзіць ад літоўскага слова *pelkė* — «балота») ішоў каралеўскі тракт, які злучаў дзве тагачасныя сталіцы — Вільню і Кракаў. Пра належны стан каменнай грэблі і моста якраз і дбалі пруская борці.

## У борцяў быў асаблівы абавязак — будаўніцтва і рамонт мастоў

Другім фактарам, што паспрыяў захаванню барцянскай ідэнтычнасці, было стварэнне ў XV стагоддзі асобнай гаспадарча-адміністрацыйнай адзінкі — Борцкай воласці (з намеснікам вялікага князя на чале). Ад пачатку XVII стагоддзя гэтая воласць пачала называцца Барцянскім старостам, якое падзялялася на чатыры войтаўствы: Пяляскае, Скольвенскае, Гародзенскае і аддаленае ад Радуні Панёманскае



У 2010-м з нагоды 600-годдзя перамогі ў Грунвальдскай бітве ў вёсцы Пеляса быў усталяваны **драўляны помнік Вітаўту Вялікаму.**

**З інвентара 1765 года можам даведацца, якія прозвішчы мелі мясцовыя сяляне.** Большая частка — выразна балцкага паходжання: Бабуль, Боніс, Бундзель, Вароніс, Вільбік, Гайвяла, Галініс, Гірдзіс, Дода, Ёдзіс, Жвірбліс, Коўза, Краўніс, Кропіс, Мавас, Мазала, Мамуль, Мікель, Міндзель, Мішкун, Нарэйка, Пакуль, Пакуста, Пакшліс, Радзюль, Ракуць, Рустэйка, Сяліла, Тасцюн, Тункель, Шкілендзь, Шмукшта, Шуста, Шымялевіч, Юрша і іншыя.

(каля Турыйска). Як бачым, назва староства працягвала адлюстроўваць даўнюю назву прускай зямлі — Бартніі (Барціі), а назва аднаго з войтаўстваў — Скольвенскага — прускай зямлі Скаловіі. Дарэчы, найменне адной з вёсак сучаснай Воранаўшчыны, Помедзь, таксама можна лічыць «прускім», бо яно даволі дакладна адпавядае літоўскай назве іншай прускай зямлі — Памезаніі (літ. *Pamedė*).

У канцы XVIII стагоддзя ў склад Барцянскага староства ўваходзіла больш за дваццаць вёсак, дзве тысячы жыхароў.

### «Барцякі гавораць па-літоўску і па-нашаму ўмеюць»

Амаль усе вёскі колішняга Барцянскага староства лакалізуюцца ў межах Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Выключэнне — вёскі Панёманскага войтаўства, якія знаходзяцца ў Шчучынскім раёне паблізу Жалудка. У многіх з іх — Пелясе, Подзітве, Повалацы, Пілюнцах, Лялюшах, Дубінцах, Друскеніках — жывуць людзі, якія дагэтуль гавораць на балцкай (праўда, цяпер ужо літоўскай) мове. І напэўна, не менш цікава тое, што з даўніх часоў гэтых людзей мясцовыя жыхары называюць барцякамі.

У сярэдзіне XX стагоддзя этнограф Майсей Грынблат занатаваў: «Барцякі гавораць па-літоўску і па-нашаму ўмеюць».

Філолаг Юры Пацюпа, успамінаючы сваё маленства ў гэтых краях, пісаў: «Мая прабаба нябожчыца Юзэфа расказвала:

“Бывала, як выйдуць касіць, па адзін бок Дзітвы нашы, а па другі — барцякі. Нашы хлопцы кашулі ў порткі ўдзявалі, а барцякі зверху падпярэзвалі. Таму барцяка адразу пазнаеш”».

Народнае тлумачэнне назвы простае: маўляў, яно паходзіць ад назвы дрэў, у якіх даўней трымалі пчол, — борцяў. У час адной з этнаграфічных экспедыцый у вёсцы Пеляса нам удалося запісаць: «Ну а літоўцы мы — барцякі. Ну а барцякі, таму што касцёл быў пастроены з борцяў гэтага лесу. У Пелясе — барцякі, а ў Подзітве скалікі дразняць». Як даказала лінгвіст Тамара Суднік, аўтарка манаграфіі пра дыялекты беларуска-літоўскага памежжа, сучасныя формы «барцяк» і «скалік» адлюстроўваюць яўныя сляды старажытнапрускіх этнонімаў.




**Марыя Круапене (1920–2003) — пяляская літоўка, якая ў савецкія часы актыўна змагалася за адкрыццё мясцовай літоўскай школы і касцёла.** У 1988 годзе прадстаўляла Пелясу на першым з’ездзе Саюдзіса ў Вільні. Была вядомая сваім талентам выканання апавядальнага фальклору.

### З прусаў — у літоўцы

Апынуўшыся па суседстве з блізкімі па мове літоўцамі, якія на правым беразе Дзітвы і Пелясы яшчэ ў XIX стагоддзі складалі большасць (што, дарэчы, на сваёй славутай этнаграфічнай карце адзначыў і Яўхім Карскі), з цягам часу борці літуанізаваліся.

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў, калі ў памежным рэгіёне ўзніклі нацыянальныя рухі палякаў, беларусаў і літоўцаў, нешматлікай сялянскай супольнасці барцякоў развіваць сваю «прускую» ідэнтычнасць было немагчыма. Барцякі ўключыліся ў літоўскі нацыянальны праект, які даваў ім надзею на захаванне моўнай унікальнасці. Інакш іх напаткаў бы лёс малакольскасных суродзічаў Ашмяншчыны, Шчучыншчыны і Гродзеншчыны, якія не здолелі захаваць сваёй мовы і былі цалкам славянізаваныя.



**Касцёл Святога Лінаса ў Пелясе.**

Актыўнасць літоўскай інтэлігенцыі ў гэтым рэгіёне ў першай чвэрці XX стагоддзя была фенаменальнай. Радунскія літоўцы актыўна выпісвалі з Вільні першую ў Расійскай імперыі літоўскую газету «*Vilniaus žinios*» («Віленскія весці»), а пазней «*Šaltinis*» («Крыніца»), «*Vienybė*» («Адзінства»), «*Aušra*» («Зара»), «*Viltis*» («Надзея»).

У 1920–1930-х шырокую працу на Віленшчыне, якая тады ўваходзіла ў склад Польшчы, разгарнулі літоўскія культурна-асветніцкія таварыствы «Рытас» («Раніца») і Святога Казіміра. Яны засноўвалі літоўскія школы, дзіцячыя садкі, вячэрнія курсы для дарослых, хаты-чытальні, бібліятэкі. Кіраўнікі гэтых таварыстваў накіроўвалі з Вільні ў аддаленыя літоўскія вёскі інструктараў, якія чыталі лекцыі, паказвалі

**Паводле перапісу насельніцтва 2009 года**, колькасць літоўцаў у Воранаўскім раёне склала 473 чалавекі (у 1959-м іх было аж 1234, у 1999-м — 716).

фільмы, ставілі спектаклі, святкавалі памятныя даты літоўскай гісторыі, усталёўвалі крыжы і помнікі.

Трэба сказаць, што шлях мясцовых сялян да літоўскасці не быў просты. Паланафільская грамадскасць гэтага краю досыць варожа ставілася да любых праяў літоўскай ідэнтычнасці, бо бачыла ў ёй канкурэнта.

Адной з найбольш упартых сіл былі ксяндзы, якія на працягу XX стагоддзя супрацьстаялі ўвядзенню ў касцёлы не толькі беларускай мовы, але і літоўскай. На гэтай глебе ў мястэчку Радунь не раз адбываліся сутыкненні паміж польскімі і літоўскімі вернікамі. Пасля аднаго з інцыдэнтаў у 1912 годзе, калі віленскі біскуп наклаў на радунскі касцёл інтэрдыкт (пакаранне), мясцовыя літоўцы звярнуліся аж да самога папы рымскага!

У 1925 годзе была створана асобная парафія, а ў 1935-м асвечаны мураваны касцёл Святога Лінаса ў вёсцы Пеляса. Неверагодныя высілкі, якія прыклалі тутэйшыя літоўцы для стварэння ўласнага рэлігійнага цэнтра, далі плён: бадай, адзінае месца, дзе сёння можна пачуць літоўскую гутарковую мову на Воранаўшчыне, — вёскі Пялясскай парафіі...

У другой палове XX стагоддзя архаічная мова, культура і побыт пялясскіх літоўцаў прыцягвалі дапытлівых мовазнаўцаў, этнографаў, гісторыкаў і археолагаў. Вынікам тытанічнай працы найперш літоўскіх даследчыкаў стаў выпуск двухтомніка «Літоўцы Лідскага краю». Аднак, стаўшы складовай часткай нацыянальнай ідэі аб «літоўскіх этнічных землях», дзе не заставалася месца іншым, хай сабе і балцкім ідэнтычнасцям, пялясскія жыхары ў гістарыяграфіі нашых суседзяў робяцца ці то «ўсходнімі літоўцамі», ці то «дзукамі», але ніяк не барцякамі.

Калі ёсць магчымасць выбару, кожны шукае тое, што бліжэй. Як нашчадкі прускіх борцяў зрабіліся сучаснымі літоўцамі, так вуліца Палеская (*Polesės*) у Вільні побач з вакзалам у 90-я раптам стала вуліцай Пялягскай (*Pelesos*). ◆



**Фрагмент хаты** ў вёсцы Пеляса.



На могілках у Пелясе яшчэ **сустракаюцца драўляныя помнікі.**

## Адзінае месца, дзе сёння можна пачуць літоўскую гутарковую мову на Воранаўшчыне, — вёскі Пялясскай парафіі

**Вядомыя ўраджэнцы Пялясскага краю** — журналіст Ізідарус Шымялёніс (яго дачка — доктар габілітаваны Ніёле Лаўрынкене — знакамітая літоўская фальклярыстка), краязнаўцы Міхал Шымялевіч і Юозас Айдуліс. Міхал Шымялевіч быў рэдактарам міжваеннага часопіса «Ziemia Lidzka» («Лідская зямля») і ў канцы вялікага артыкула, прысвечанага гісторыі Барцянскага староства, настойліва даводзіў, што ягоныя продкі паходзяць ад «прускіх борцяў». Але, як высветліў лідскі краязнаўца Леанід Лаўрэш, на працягу свайго жыцця Шымялевіч вызначаў сябе ў розных сітуацыях як «літовец», «беларус», «паляк», «тутэйшы» і нават... «пяляскі мужык».

# «Уся магістраль Масква – Мінск каштуе менш за Рагвалодаў камень»



**Рагвалодаў камень.** Малюнак Пятра Драчова.

## Як беларусы страцілі адну з нацыянальных святыняў і як яе можна аднавіць

**Рагвалодаў камень быў выдатным помнікам старажытнай культуры ўсходніх славян. Але з 1930-х гадоў у энцыклапедыях і даведніках пра яго сталі лаканічна пісаць: «Не збярогся». Піша краязнаўца з Оршы Віктар Лютынскі.**

### Адзін з дзевяці

Рагвалодаў камень адносіўся да так званых Барысавых камянёў. Гэтыя велізарныя валуны, якія прыцягнуў на нашу зямлю ледавік, да прыняцця хрысціянства былі язычніцкімі фетышамі. У першай трэці XII стагоддзя полацкі князь Барыс Усяславіч загадаў высечы на валунах крыжы і тэкст «Госпадзе, памажы рабу свайму Барысу».

Якой была функцыя такіх камянёў? Пакуль навукоўцы не прыйшлі да адной думкі. Канстанцін Тышкевіч і Мікола Ермаловіч лічылі, што такім чынам пазначаліся граніцы Полацкага княства. Іншыя мяркуюць, што гэтымі камянямі князь прасіў дапамогі ў Бога перад ваеннымі паходамі. Расійскі акадэмік Барыс Рыбакоў выказваў думку, што крыжы і надпісы звязаныя з земляробчымі абрадамі тагачасных жыхароў Полацкай зямлі і рабіліся пасля галодных гадоў. Беларускія археолагі Георгій Штыхаў і Людміла Дучыц сцвярджаюць, што крыжы і надпісы на валунах былі зроблены ў сувязі з ажыўленнем язычніцкіх вераванняў і з мэтай увекавечыць імя князя.

Асобныя даследчыкі выказваюць меркаванне, што падобна да Барысавых камянёў выглядалі першыя хрысціянскія цэрквы, дзе камень з надпісам і крыжам з'яўляўся алтаром пад адкрытым небам. Камяні знаходзіліся на магістралях ажыўленага руху, і гэта дае падставу меркаваць, што яны маглі быць яшчэ і дарожнымі арыенцірамі, і своеасаблівымі сімваламі, пры якіх спадарожнік чыніў малітву.

Вядома пра існаванне адзінаццаці сярэднявечных камянёў з надпісамі ў нашым рэгіёне. Але да сёння захавалася ўсяго тры. Адзін, самы вядомы, усталяваны ў Полацку каля Сафійскага сабора (раней знаходзіўся каля вёскі Падкасцельцы, перавезены ў 1981 годзе). Другі стаіць у мястэчку Друя на цэнтральнай плошчы (да 2001 года знаходзіўся на беразе Дзвіны, у савецкі час расколаты на дзве часткі). Трэці наш камень з загадкавым надпісам «Сулібор хрэст» — у Маскве, у музеі-запаведніку «Каломенскае» (у 1887–1888 падняты з Дзвіны каля горада Дзісна і вывезены).

Рагвалодаў камень ляжаў за паўкіламетра на паўднёвы захад ад вёскі Дзятлава Аршанскага раёна. Па форме гэты валун нагадваў паралелепіпед з крыху скошанымі закругленымі вугламі. Даўжыня блока дасягала 3 метраў, шырыня — 2,4 метра. Па падліках вучоных, камень важыў 24 тоны. На ягонай грані быў высечаны шасціканцовы крыж на падстаўцы з дзвюма прыступкамі. Вышыня крыжа складала 1,8 метра. Двума колцамі крыж апяразваў надпіс: *«Въ лето 6679 месяца маия въ 7 день доспенъ кръстъ сии. Господи, помози рабу своему Василию в крещении іменем Рогволоду сыну Борисову»* — і манаграма *«ИС» «ХР» «НИКА»* («Ісус Хрыстос перамагае»).

Лічбы ў надпісе дадзеныя кірылічнымі літарамі. У той час яшчэ карысталіся летазлічэннем ад стварэння свету. 7 мая 6679 года ад стварэння свету — гэта 7 мая 1171 года ад нараджэння Хрыстовага.

Народ многія стагоддзі шанаваў Рагвалодаў камень (яго яшчэ называлі Барысаглебскім, Барысавым, Аршанскім, Уладзімірскім, Піса́нікам).

Па сведчанні сучаснікаў, Рагвалодаў камень быў чырвона-бурага колеру, як бы набрынялы крывёю. «Якой, паводле складу, ►

**Князь Рагвалод, сын полацкага князя Барыса і ўнук Усяслава Чарадзея,** быў не асабліва ўдачлівы. Хоць полацкім князем прабыў дзесяць гадоў жыцця, друцкім — з перапынкамі — прынамсі шаснаццаць. У 1162 годзе яго войска было разбіта каля Менска менскімі князямі, і ў Полацк ён больш не вярнуўся, а хаваўся ў Друцку (цяпер вёска ў Талачынскім раёне). З таго часу імя князя знікла са старонак летапісаў. І толькі камень, што месціўся каля старой дарогі з Друцка ў Оршу, сведчыў, што ў 1171 годзе Рагвалод-Васіль Барысавіч быў яшчэ жывы. Закончаны 7 мая, у дзень знамення крыжа, надпіс вельмі падобны да малітвы, звернутай да Бога, з просьбай аб дапамозе. А вось з якой нагоды — можна толькі гадаць.

▶ была гэтая глыба, сказаць цяжка... Напэўна, каля Дзятлава ляжала нейкая цемнаколерная раскрышталізаваная магматычная або метамарфічная парода, напрыклад дыярыт, гнейс або амфібаліт», — пісаў знаўца культавых камянёў Эрнст Ляўкоў.

### «Паглядзім, як святое паляціць у паветра»

Яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя над валуном была пабудавана Барысаглебская царква. Але падчас напалеонаўскага нашэсця 1812 года яна згарэла. У 1830-я гады намаганнямі сялян над каменем зноў паўстала невялікая драўляная




царква (мясцовыя жыхары называлі яе капліцай). Ужо сама яна на пачатку XX стагоддзя ўяўляла сабой каштоўнасць, бо з'яўлялася помнікам беларускага народнага драўлянага дойлідства. А 7 мая штогод у ёй праводзілася ўрачыстае набажэнства ў памяць князя Рагвалода, асвячалася крыніца, размешчаная побач з царквой. «Восенню 1882 года царква была агледжана губернатарам і губернскім інжынерам, з тым каб абнавіць яе», — адзначаецца ў «Опыте описания Могилевской губернии...». Менавіта ў царкве ў 1896 годзе зрабіў некалькі здымкаў Рагвалодавага каменя фатограф І. Часцякоў. Арыгіналы здымкаў захоўваюцца цяпер у Санкт-Пецярбургу.

У дзень прастольнага свята з'язджаліся сюды вернікі з Оршы, Шклова, Коханава, Барані, навакольных вёсак. Тут жа ладзіліся і кірмашы. «Гэтыя «Барысавы» камяні і цяпер падкормліваюць папоў», — заўважыў з гэтай нагоды Даніла Васілеўскі ў 1927 годзе.

Але ўнікальнаму помніку (бо гэта была адзіная старажытнаславянская пісьмовая крыніца з дакладнай датай!) не пашанцавала. У пачатку 1930-х на хвалі ваяўнічага атэізму царкву, якая ахоўвала камень ад снегу і дажджу, разабралі і перавезлі ў вёску Дзятлава, дзе прыстасавалі пад калгасны клуб. А 10 чэрвеня 1936 года Рагвалодаў камень узарвалі на друз для аўтамагістралі Масква – Мінск.

Марыя Іванаўна Грачыха, 1924 года нараджэння, сведка тых падзей, узгадвала: «Узрывала камень брыгада зняволеных — «турэмшчыкаў» [відаць, з аршанскай турмы]. Іх нават прыводзілі мыцца ў нашу лазню. Калі ўзрывалі камень, то таго зэка, што падкладаў узрыўчатку, смяротна параніла [ці то праўда, ці ўжо легенда?]. А яшчэ памятаю, што побач з царквой біла крыніца, вада ў ёй была такая смачная, што п'еш не нап'ешся».

Пісьменнік і краязнаўца Юрка Віцьбіч у той час узначальваў Віцебскую абласную навуковую экспедыцыю па ахове помнікаў рэвалюцыі, гісторыі і мастацтва. У 1939 годзе, наведаўшы Аршаншчыну, ён склаў «Дэфектны акт». «Па сваіх тэхнічных якасцях (крохкі) Рагвалодаў камень яўна не надаваўся да будаўніцтва і быў падарваны выключна дзеля свавольства. "Паглядзім, як святое паляціць у паветра", — заўважыў адзін з падрыўнікоў», — запісаў ён са слоў члена Туміціцкага сельсавета, жыхара вёскі Дзятлава Рамана Мікалаевіча Палагоўскага.

## Камень быў чырвона-бурага колеру, як бы набрынялы крывёю

Па сведчанні даследчыка, на плошчы ў 40 м² у 1939 годзе яшчэ ляжалі 28 буйных і дробных кавалкаў каменя, на 12 з якіх можна было разгледзець сляды крыжа і надпісу. Экспедыцыя тады ж прапанавала неадкладна абвесціць месца, дзе ляжаць рэшткі, дзяржаўным заказнікам, адначасова склеіць іх і пабудаваць над узятым пад дзяржаўную ахову каменем будынак — музей. Але гэтыя слушныя прапановы рэалізаваныя тады не былі. Праз шмат гадоў Юрка Віцьбіч са скрухай зазначаў: «Так загінула найвыдатнейшая святыня беларускага народа... І ці разумеюць тамтэйшыя падрыўнікі, што ўся магістраль Масква – Мінск каштуе менш за Рагвалодаў камень».

### У пошуках слядоў

Пасля вайны навукоўцы, згадваючы пра выдатны помнік, маўчалі пра яго наўмыснае знішчэнне. Пра знішчэнне Рагвалодавага каменя не згадвалі тады ні энцыклапедыі (у асобных сцісла і двухсэнсоўна пісалася: «Не збярогся»), ні акадэмічныя гістарычныя выданні. Нават вялікі знаўца беларушчыны Уладзімір Караткевіч у сваім нарысе «Зямля

пад белымі крыламі» сцвярджаў, што Рагвалодаў камень «ляжыць на полі ля Коханава [у 2011 годзе выява Рагвалодавага каменя стала часткай герба гэтага паселішча — *В.Л.*]». «Бачыў я такія камяні, — запэўнівае чытачоў класік. — Дзіўны настрой ахоплівае ля іх чалавека, пачуццё прыналежнасці да гісторыі». Але бачыць Рагвалодаў камень шаноўны Уладзімір Сямёнавіч ніяк не мог.

Пры канцы 1990-х я паспрабаваў пашукаць сляды святыні. Пагутарыў тады з доўгажыхаркамі вёскі Дзятлава. 90-гадовая Еўдакія Гаўрылаўна Давыдзенка памятала, што Рагвалодаў камень быў акружаны невысокай металічнай агароджай, якую ўпрыгожвалі ручнікамі. У дзень прастольнага свята з'язджаліся сюды вернікі з Оршы, Шклова, Коханава, навакольных вёсак.

Калі царква была ўжо зачынена, у акенца пралез Сёмка, жвавы і рухавы хлопчык 8 гадоў. Ці яму хто параіў, ці сам дадумаўся павыколваць вочы святым на абразах. А праз некалькі месяцаў, якраз на Спаса, ён быў задушаны вупражжу — конь чамусьці падбрыкнуў. «Бог пакараў», — казалі тады людзі.

Марыя Карпаўна Новікава аказалася роднай пляменніцай таго самага Рамана Палагоўскага, які расказваў Юрку Віцьбічу пра падрыў. «Калі рыхтавалі друз, — гаварыла яна, — узрывалі камяні ў кар'еры, аж шыбы дрыжэлі ў вокнах. А царкву перавезлі спачатку ў Дзятлава, у ёй быў клуб, а сцэну зрабілі, дзе раней быў алтар. Потым зруб перавезлі ў вёску Галошаўка [цяпер Талачынскага раёна], дзе прыстасавалі пад жыллё нейкім пагарэльцам». Цяпер ужо зрубу таго няма.



А дакладнае месца, дзе ляжаў камень, удалося даведацца ад жыхара суседняй вёскі Лісуны сувязіста Рамана Чарліна. На пачатку 1990-х ён вырашыў саматужна заняцца піваварствам. А для піва патрэбна адпаведная вада. Вось ён і пачаў шукаць.

Некалькі крыніц б'юць у вялікай, парослай хмызняком лагчыне, што цягнецца да вёскі Дзятлава. Раман даведаўся, што там некалі стаяла царква, побач з якой біла крыніца. Ён натрапіў на падмуркі храма і пабачыў вялікую яму, якая засталася ад выбуху.

Напрыканцы XIX стагоддзя вакол царквы была выкапана канаўка для сцёку вады (бо зямля тут балоцістая), якая ішла ў роў. Яна захавалася да нашых дзён. Пакуль ля вёскі не асушылі балота, крыніцы ў рове былі больш моцныя, а вада і цяпер стаіць кожнай вясной у яме на месцы колішняй царквы.

Паказаў Раман Леанідавіч і зарослы мохам камень, які ляжыць непадалёку ад ямы. Добра бачна, што гэта — кавалак ад валуна, які ўтварыўся пасля механічнага ўздзеяння. Калі вясковец упершыню яго знайшоў, адзін бок каменя быў абпалены (успомнім пажар 1812 года). Маецца на ім і нейкі штучны выступ.



**Фрагмент каменя,** знойдзены краязнаўцамі.

У той жа вёсцы Лісуны я сустрэўся і пагутарыў з Васілём Сцяпанавічам Лапаценкам (цяпер нябожчык). Ён нарадзіўся якраз у год знішчэння Рагвалодавага каменя. «У 1947 годзе, — узгадваў вясковец, — разам з бацькам мы разбівалі кавалкі каменя і звозілі іх для падмуркаў сваёй новай хаты». На жаль, падмуркі тыя цяпер затынкаваныя. Агледзеў я і падмуркі суседніх хат. У некаторых добра бачныя кавалкі камянёў, што па фактуры нагадваюць Рагвалодаў. Але літары нідзе не заўважаныя...

### З надзеяй на вяртанне

Застаецца спадзявацца, што месца, дзе некалі размяшчалася адна са святыняў нашага народа, будзе ўсё ж абвешчана археалагічным запаведнікам і ўзята пад ахову дзяржавы. Хочацца верыць, што зноў паўстане на гэтай зямлі царква, у якой размесціцца дакладная копія Рагвалодава каменя. Адпаведных памераў валуны ёсць у найбліжэйшым кар'еры. ◆

# Ехалі, маліліся, не верылі ў тое, што бачылі

**Яўгеніі Кулевіч (у дзявоцтве Дзмітровіч) 83 гады.
Яна нарадзілася на Скідзельшчыне, скончыла Гродзенскі ўніверсітэт і ўсё жыццё працавала настаўніцай беларускай мовы ў вёсцы Замасць Смаргонскага раёна. 13 гадоў была дырэктарам школы. Цяпер жыве на Смаргоншчыне, усё яшчэ трымае гаспадарку, шмат чытае, а таксама — піша ўспаміны.**

### Як маме адняліся ногі, мне было тры гады

Я радзілася на Скідзельшчыне ў вёсцы Карашава, што за кіламетры чатыры ад Скідзеля. Ёсць недалёка ад нас яшчэ Карашава, але тое Шчучынскага раёна. Сям'я наша была з трох чалавек: я, мама і бабуля (маміна маці). Падчас няўдалых родаў мама стала інвалідкай, у яе адняліся ногі. Спачатку трохі хадзіла з палачкамі, а потым і зусім перастала — час быў неспакойны, лекаў ніякіх не было. Бацька завёў другую сям'ю, а мы засталіся ўтрох: старое, малое і хворае. Мне тады было тры гады.

Мая мама была вельмі здольнай: вязала, вышывала, рабіла выцінанкі людзям і сабе. Яна скончыла адзін клас польскай школы, але ўмела чытаць па-славянску і па-руску, гэтаму навучыў яе бацька, а мой дзядуля Мікіта. За гады вайны мама навучыла мяне ўсяму, што сама ўмела. І ў 1944-м я пайшла адразу ў другі клас.

Калі я была ў 7-м класе, восенню памерла бабуля. І я стала за гаспадыню пад кіраўніцтвам мамы. У мамы было самае большае жаданне, каб я вывучылася. Я вучылася з ахвотай і скончыла Скідзельскую школу без троек, паступіла вучыцца завочна ў педінстытут — на стацыянар не магла, бо трэба было даглядаць маму. Памерла мама, калі я была на другім курсе педінстытута.

### «Не радуйся, гэта не нашы самалёты»

Я даволі добра памятаю, як пачалася вайна. Нядзеля, 22 чэрвеня 1941 года: я пасу Лыску на лужку свайго хутара. Пад вечар пачула гул самалётаў, гул быў нейкі працяжны, як бы цяжкі, але я не зважаю на гэта. З самалётамі я знаёмая, бо недалёка ад Скідзеля быў аэрадром. Я бачыла, як самалёты ўздымаліся, і заўсёды цешылася.

І вось цяпер, чуючы гул і бачачы, як плаўна яны ляцяць, я падскоквала, махала рукамі лётчыкам і спявала песні. Аж бачу: да мяне шыбуе бабуля Матрона. І кажа: «Жэнька, не радуйся, гэта не нашы самалёты, а нямецкія, гэта вайна, страшна».

У бабулі твар суровы, устрывожаны. Што такое вайна, што гэта за нямецкія самалёты, што тут страшнага — мне незразумела. І я пачала глядзець у неба падазрона. Бабуля мяне моцна абняла, селі на мяжы, пагладзіла мяне па галаве, у вачах яе былі слёзы, яна нешта апавядала. Хутка мы пагналі кароўку дамоў. Ляглі спаць, як звычайна.

Перад раніцай я прачнулася ад моцнага выбуху. Мама і бабуля сядзелі ля акенца і маліліся. Я зірнула туды і ўбачыла пажар. А тут ізноў выбух — адзін, другі, трэці. Аж хата затрэслася, задрыжалі вокны, зазвінелі шыбы. Узняўся чорны-чорны дым, а з яго шугануў слуп полымя і запоўніў прастору. Я закрычала, а мама прытуліла мяне да сябе і праз плач казала: «Не глядзі туды, дачушка, не трэба, вочкі будуць балець». Бабуля шаптала малітвы, звярталася да Багародзіцы-заступніцы. Я так і заснула ля маміных грудзей.

Як я потым даведалася, ні адзін самалёт з аэрадрома не ўзляцеў, усе былі разбітыя, а ўспыхвала паліва ў ёмістасцях з гаручым.

Назаўтра да нас у двор прыскакалі на конях два чырвонаармейцы. Бабуля падышла да іх, я ні на крок ад яе не адставала. Бабуля завяла з імі гаворку, бедавала, што цяпер будзе, асуджала немцаў.

— Ничего, мать, мы ещё зададим, — азваліся хлопцы і тут жа паскакалі ў Дуброву (гэта лясок на паўночны ўсход ад вёскі) і хутка зніклі за кустоўем. Бабуля перахрысціла іх наўздагон, цяжка ўздыхнула. Лёс гэтых салдацікаў невядомы.

### Алюміній пайшоў у справу

На скідзельскім аэрадроме так і ляжалі разбітыя самалёты. Сюды сталі прыходзіць і збіраць кавалкі алюмінію. Навучыліся вырабляць з яго лыжкі, кубкі, міскі і нават грабяні, каб расчэсваць валасы. У кожнай хаце быў такі посуд. Рабілі для сябе і на продаж. У драўляныя скрынкі насыпалі вільготны пясок, а тады рабілі ў ім адбітак рэчы і асцярожна накрывалі накрыўкай з адтулінай пасярэдзіне. Потым расплаўлялі алюміній і асцярожна вылівалі ў адтуліну. Чакалі, пакуль астыне, зацвярдзее, і здымалі накрыўку, даставалі гатовую рэч. Вядома, рэчы атрымліваліся не гладкімі, а з гузакамі, са шчарбінкамі. Тыя, што паправіць нельга, адкладалі на пераплаўку, а прыдатныя апрацоўвалі рашпілем, згладжвалі, адшліфоўвалі. Звычайна да гэтай работы збіраліся талакой. І мы, дзеці, часта сядзелі воддаль у кутку і з цікавасцю назіралі. Падыходзіць можна было толькі да застылых вырабаў.



**Яўгенія (справа) з сяброўкай**, 1950 год. На абароце дзяўчына падпісала, што гэта яе першае фота.

## Прыйшлі іспанцы

Не магу сказаць, заўтра ці праз пару дзён, з'явіліся нямецкія салдаты на нашым гасцінцы. Ехалі і ехалі на матацыклах з калясками, на машынах.

Бабуля мне загадала: не вытыркацца, ля дарогі не бадзяцца. Але я з суседскай дзяўчынкай Галяй, хоць з-за хлява, а выглядвалі на дарогу.

Ужо неяк пад восень да нас у хату зайшлі некалькі салдат. Яны былі гаваркія. Адзін паставіў табурэт сярод хаты, тыцкаў пальцам у сярэдзіну сядзення і казаў:

— О, Москаў!

Абводзіў пальцам вакол — гэта значыла, што Масква акружана.

— Сталін капут!

Ён біў сябе далонню ў грудзі і прыгаворваў:

— Ішпанё, Ішпанё.

Калі яны пайшлі, то бабуля і кажа: «Адкуль узяліся іспанцы? Бач ты, "Масква акружана", вы яшчэ не паспелі нават дайсці да яе». Іспанцы хадзілі па хатах, прасілі яек, мянялі споднюю бялізну. А людзі казалі, што яны як курапаткі памерзнуць пад Масквой.

## Трагічнае каханне да мардвіна

Немцы пачалі атабарвацца. Набіралі паліцаяў сабе ў памочнікі, збіралі сходы па вёсках і выбіралі солтысаў. У нашай вёсцы солтысам выбралі Бараноўскага Антона, але ён у хуткім часе захварэў, і перавыбралі Кузьміцкага Кірылу, які быў солтысам да канца вайны, за што пасля вайны пацярпеў, хоць быў ні ў чым не вінаваты. Яго засудзілі ў 1945 годзе, праўда, хутка вярнуўся па амністыі.

У кожнай хаце над дзвярамі павінен быў вісець спіс членаў сям'і, каб можна было хутка праверыць наяўнасць жыльцоў. Усім дарослым выдалі пашпарты.

**У кожнай хаце над дзвярамі павінен быў вісець спіс членаў сям'і, каб можна было хутка праверыць, ці не ўцёк хто ў лес**

Восенню немцы раздавалі па вёсках ваеннапалонных. Солтыс складаў спіс людзей, хто хоча ўзяць. У нашай вёсцы было, можа, чалавек з дзесяць. Гэта былі маладыя дужыя мужчыны, яны ўмелі рабіць усялякую работу. Можа, некаторыя, а можа, і ўсе былі жанатыя, але выдалі сябе за халасцякоў.

Было аб'яўлена, калі хто захоча жаніцца, то ўлады дазволяць яго тут прапісаць і пакінуць на пастаяннае жыхарства. Па вечарах палонныя сустракаліся з дзяўчатамі, але ніхто з іх жаніцца не збіраўся. У адной удавы, якая жыла ▶

▶ з дарослай дачкой Марыяй, пасяліўся мардвін. Марыя закахалася ў яго, а ён паабяцаў жаніцца, але ўсё адкладаў. Маня не вызначалася прыгажосцю, і ў размове картавіла, а так працавітая, добрая дзяўчына. Скончылася зіма. Вясною неспадзявана немцы загадалі палонным сабрацца, і іх пад канвоем павялі ў Скідзель, дзе памясцілі за калючы дрот.

З жалем праводзілі вяскоўцы людзей, да якіх прывыклі, лічылі сваімі. А Марыя плакала

**Іспанцы прыйшлі замест немцаў, мужчын ганялі вывозіць рэчы са спаленай суседняй вёскі, а лыжкі выраблялі са спаленых самалётаў**



**Аўтарка ўспамінаў (у цэнтры)** з суседзямі на пасадцы бульбы.

і прасіла аддаць мардвіна, бо яны дагаварыліся жаніцца, але не паспелі. Ніхто яе не слухаў. Яна за палоннымі зайшла ў Скідзель і слёзна прасіла, каб адпусцілі хлопца. Яго адпусцілі з умовай прынесці даведку аб вянчанні. Вярнулася Марыя шчаслівая з жаніхом, яны пажаніліся, прыжылі хлопчыка, які быў вельмі падобны да бацькі.

Летам 1944-га мардвін, як і іншыя вяскоўцы, быў мабілізаваны ў армію — дабіваць ворага. З Германіі ён прысылаў лісты, клапаціўся пра сына і слаў Марыі пасылку за пасылкай. Але ўрэшце яна атрымала ліст, які напісаў не муж, а яго таварыш. У лісце паведамлялася, што муж не можа вярнуцца да так званай жонкі, бо дома ў яго ёсць законная жонка і двое дзяцей. Ён не здраднік, а так распарадзіўся лёс. Ён будзе заўсёды помніць сына з Беларусі. Так і засталася Марыя з хлопчыкам. А пра мужа болей нічога не чула.

### Хаты забітых разбіралі на дровы

Ліпеньскім ранкам 1942 года расстралялі сям'ю Максімавых, што жыла ў Дуброве. Казалі, што іх расстралялі за сувязь з партызанамі. Прыехалі на досвітку, зрабілі сваю чорную справу і паехалі, пакінуўшы ляжаць забітымі. Загінула 48-гадовая Алена і ейны другі муж, 33-гадовы Васіль. Загінулі і дзеці Алены: 22-гадовы Міхал і маленькая Надзея.

Дзве дзяўчынкі, Маня і Галя, з перапуду залезлі пад печ і засталіся жывыя. Родзічы забітых праз солтыса ўзялі дазвол на пахаванне гэтай сям'і, а дзетак узялі да сябе. Старэйшая, Маня, так і засталася ў Белякоўшчыне на ўсё жыццё, выйшла замуж за белякоўскага хлопца. Ён быў ад роду глухі, а так вельмі добры і працавіты чалавек, шанаваў жонку і цешыўся, што дзеткі маглі гаварыць. Меншая, Галя, пасля сямігодкі паехала ў Мінск, уладкавалася ў будаўнічую брыгаду.

Іх будынкі разабралі і цэлым абозам з нашай вёскі завезлі ў Скідзель да нямецкага пастарунка на дровы.

### Лук'янаў Мішка

Лук'янаў Мішка быў хворы на галаву. Казалі пра яго, што ён не пры сваім розуме. Ён з самага рання вельмі павольна хадзіў па дарозе праз вёску, вяртаўся назад. Заўсёды хадзіў у доўгім чорным паліто. Жыў пры сям'і сястры Домны. Дзецям карцела падражніць яго. Але гэта было строга забаронена бацькамі, таму ніхто не смеў яго чапаць. Іншы раз дзеці пыталіся:

— Мішка, Мішка, куды ідзеш?
— Да Домкі.
Нікому ён не замінаў, а вось немцы схапілі яго на дарозе і ўкінулі ў крытую газавую машыну. Ён супраціўляўся і прасіўся:
— Паночкі, што вы робіце, пусціце мяне.
Гэта было на вачах у вяскоўцаў, прыбегла і сястра, пачала галасіць, машына паехала, а жанчына бегла следам і плакала. Але машыны і след прастыў. Яго адвезлі зусім недалёка і расстралялі ў лясным балотцы.

### Варты

Ліпень 1943-га. З нашай вёскі арганізавалі мужчын з падводамі і прыгналі ў Скідзель. Для чаго сабралі, ніхто не ведаў. На досвітку людзі пад канвоем адправіліся ў вёску Пузавічы. Усе хаты ў вёсцы былі пустыя, бо людзей сагналі да месца расправы. Людзі з нашай вёскі пад кіраўніцтвам карнікаў выносілі з хат скарб. Усё ладавалі на вазы. Вазы загадалі ўзяць з драбінамі. Поўныя вазы нарабаванага, зноў пад канвоем, накіраваліся ў Скідзель. Толькі выехалі за вёску, як пачулі стрэлы і трэск. Вёска гарэла. Людзі ехалі ні жывыя ні мёртвыя. У Скідзелі ўсё выгрузілі, усіх адпусцілі дамоў. Ехалі, маліліся, не верылі ў тое, што бачылі.
Не было супакою вяскоўцам пасля гэтага здарэння. На радзе яны дагаварыліся і пачалі па чарзе пільнаваць. Як толькі прыцямнее, то назначаны ўзбіраецца на гарышча і пільна глядзіць у бок Скідзеля. Калі нешта ўбачыць падазронае, будзе аб'яўляць трывогу ўмоўным знакам. Усе падрыхтаваныя да ўцёкаў у лес. Гэта доўжылася да восені, а потым перасталі вартаваць.

### У аўсе ўжо ляжала мама

Канец вайны. Я, як звычайна, пасу Лысуху і яшчэ адну карову фурмана Рыгора. Поўдзень, сваю кароўку павярнула ў свой двор, а Рыгораву пагнала ім у вёску — гэта блізка, наш хутар сутыкаўся. Гляджу, на дарозе праходжваюцца два немцы, у двары пуста, ніхто мяне не сустракае. Зачыніла кароўку ў хлеў і пайшла ў хату сказаць. У хаце — адзін хворы Рыгор. Задыхаючыся, ён мне і кажа: «Немцы акружылі вёску, патрабавалі падводы, але ўсе людзі пайшлі ў лес. Дамоў дарогай не ідзі, а за гумном праз агарод да рова, прыгніся ў аеры і ідзі памалу». Я так і зрабіла, а бабуля ўжо расперажывалася па мне, схапіла за руку і павяла на поле. Там, у аўсе, ужо ляжала мама, я далучылася. Пачуліся стрэлы, я хацела выглянуць, але бабуля прыціснула маю галаву да зямлі і загадала не падымацца.
У вёсцы ўсчаўся пажар. Бабуля папаўзла на край поля. Вярнуўшыся, паведаміла, што немцы адступілі ды падпалілі вёску. Але вяскоўцы-партызаны патушылі пажар. Дапамог вецер, бо дзьмуў у процілеглы бок. Узброеныя вяскоўцы пільнуюць вёску, сем'і збіраюцца выязджаць у лес. Бо хто ведае, як будзе, немцы могуць вярнуцца, так бывае ў вайну. Вырашылі, што я з каровай пайду ў лес з суседавай сям'ёй, а бабуля застанецца з мамай, а на ноч прыйдзе да мяне.

## Марыя пайшла ўслед за палоннымі ў Скідзель і слёзна прасіла, каб адпусцілі хлопца. Вярнулася ў вёску шчаслівая, з жаніхом

І цэлы абоз адправіўся з жыўнасцю і такім-сякім скарбам з вёскі. Пражылі ў лесе трое сутак. Людзі шнуравалі то ў вёску, то ў лес. У лесе парабілі буданы, на лясных палянках пасвіліся кароўкі, тут жа варылі ежу. Мужчыны дзень і ноч неслі варту. На 4-ы дзень прыйшлі нашы войскі і людзі вярнуліся ў свае дамы. Напружанасць яшчэ панавала. ◆

**Макарэвіч, Віталь. Разбор шляхты ў беларускіх губернях Расійскай імперыі (канец XVIII–XIX ст.).** — Мінск: БДУ, 2018. — 315 с.




У кнізе асвятляецца надзвычай цікавая, хоць і драматычная з'ява ў беларускай гісторыі — разбор шляхты ўладамі Расійскай імперыі ў канцы XVIII–XIX стагоддзях.
Разбор шляхты — гэта комплекс мерапрыемстваў, якія праводзіліся на заходніх, у тым ліку беларускіх, землях Расійскай імперыі ад моманту іх уключэння ў яе склад і да пачатку XX стагоддзя. Іх мэтай было змяншэнне колькасці прадстаўнікоў прывілеяванага саслоўя праз неабходнасць дакументальнага доказу па вызначаных крытэрыях прыналежнасці шляхты былой Рэчы Паспалітай да расійскага дваранства.
На старонках выдання аналізуюцца прычыны правядзення разбору, разглядаецца працэс выпрацоўкі дзяржаўнымі ўладамі адпаведнай палітыкі на беларускіх землях, паказваецца дзейнасць усяго дзяржаўнага механізму, скіраванага на рэалізацыю яе палажэнняў. Асаблівая ўвага надаецца разгляду такой з'явы, як фальсіфікацыі дакументаў аб дваранскім паходжанні. Даследаванне грунтуецца на шырокім коле архіўных матэрыялаў, заканадаўства, мемуарнай літаратуры.
Гэтую кнігу можна набыць у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»**.

# ПАЛТЭРГЕЙСТ У БАРЫСАВЕ

## Містычныя падзеі, якім дагэтуль няма фізічнага тлумачэння

**Пра падзеі 30-гадовай даўніны засталіся сведчанні міліцыі, а мы сабралі ўспаміны відавочцаў і ўдзельнікаў. Піша Зміцер Панкавец.**

### Час «Пэпсі» і «Рабыні Ізаўры»

1988 год — самы разгар савецкай перабудовы. У СССР нарастае крызіс, падымаюць галаву крымінальныя групіроўкі, пачынаецца вывад савецкіх войскаў з Афганістана. Па тэлевізары яшчэ не паказваюць сеансы псіхатэрапеўта



**Надзея Клімашонак** яшчэ жыве, але ў іншай хаце.

Анатоля Кашпіроўскага, але ўжо ідзе першы лацінаамерыканскі серыял «Рабыня Ізаўра». Упершыню на тэлеэкранах з'яўляецца рэклама газіроўкі «Пэпсі» ў выкананні Майкла Джэксана.

Менавіта тады і было пачута загадкавае слова «палтэргейст». Само слова мае нямецкае паходжанне і азначае «шумны дух». Гэтая з'ява мае багатую гісторыю. Яшчэ Якаб Грым (адзін з нямецкіх пісьменнікаў — братоў Грымаў) апісваў у сваёй «Тэўтонскай міфалогіі» падобны выпадак з 365 года, калі невядомая сіла кідала ў людзей камяні, а таксама выкідала іх з ложкаў.

У Беларусі падобнае спісвалі на дамавікоў. Чым цікавае барысаўскае здарэнне? Мабыць, упершыню выпадак палтэргейста быў зафіксаваны ў міліцэйскіх пратаколах. Праваахоўнікі так і не знайшлі тлумачэння таму, што адбылося.

У сённяшняй масавай культуры палтэргейст стаў вельмі ўдзячнай тэмай. Але ўявім 1988 год, калі ніякіх «Сакрэтных матэрыялаў», «Паранармальных з'яваў» і «Псі-фактараў» людзі яшчэ не бачылі.

### Лёталі і пасуда, і адзежа

Сведкамі палтэргейста сталі Рыгор Яфімавіч і Надзея Ісакаўна Клімашонкі — вяскоўцы, якіх перавезла ў Барысаў старэйшая дачка. На той момант яны ўжо былі пенсіянерамі. Рыгор Яфімавіч усё жыццё працаваў трактарыстам, а Надзея Ісакаўна — даяркай.

Надзеі Ісакаўне сёлета споўніцца 88 гадоў. Яна працягвае жыць у Барысаве на вуліцы

> **«Мне параілі схадзіць да адной жанчыны. Яна паглядзела на ваду і палячыла. Я той вадой палячылася — і ўсё добра стала. І ў хаце, і са мной»**

Чырванасцяжнай, літаральна за 500 метраў ад дома, дзе людзі бачылі палтэргейст. Да яе мяне адправілі ейныя суседкі.

«Ой, чулі. Кажуць, што там жыла бабка і яна была чараўніцай, зачаравала хату. Чаго там толькі не было! Міліцыя прыязджала, дык у іх шапкі ўзляталі ды віселі над галовамі. Во такі ён, той “потэргейст”», — расказвалі суседкі. Яўна, што гісторыя набывае з гадамі ўсё новае і новае гучанне.




**Падзеі, апісаныя ў артыкуле, адбываліся тут**

«Вам лепш пайсці ў дом з чорнымі варотамі, але не ў галоўныя дзверы заходзіць, а ў бакавыя, там жыве старая, якая калісьці жыла ў тым самым доме з палтэргейстам. Можа, яна і ёсць той чараўніцай», — адпраўляюць мяне.

Надзея Ісакаўна, калі я пачаў пытацца, ці з ёй здарылася гэтая гісторыя, адразу не прыгадвае ці то робіць выгляд, што не прыгадвае. А потым усё ж прызнаецца, што ўсё гэта здарылася з ёй, і запрашае прайсці ў хату. Гэта палова прыватнага дома, аскетычнае ўбранне ўнутры, усё чысценька, працуе тэлевізар.

«Усё лятала. І так лятала, што нават з хаты на двор выносіла. І адзежу, і пасуду, — Надзея Клімашонак размаўляе амаль на чыстай літаратурнай мове. — Мне параілі схадзіць да адной жанчыны. Яна паглядзела на ваду і палячыла. Кажа, папырскаеш у хаце тры разы і сама вып'еш. Яна мне сказала, што гэта адна жанчына зрабіла. Адкуль мне знаць, хто менавіта. Я той вадой палячылася — і ўсё добра стала. І ў хаце, і са мной. Потым неяк хацела яшчэ да яе схадзіць, а яна ўжо памерла».

Спадарыня Клімашонак не дужа ахвотна згадвае тыя падзеі: «Страшна, так. Я тады крапчэйшая была. Але баялася дужа. Я не тое што не бачыла такога раней, але нават і не чула, каб хто расказваў пра такое здарэнне. Я калі выбралася з той хаты, то больш ніколі там не была: што мне там глядзець?»

### У Барысаве праз паламаную нагу

Затое яна з радасцю згаджаецца расказаць пра сябе: «Я сама з Рудні Чэрвеньскага раёна, ад Смалявіч 27 кіламетраў. Кім я толькі не працавала! У вайну была малая, а рабіла, што медны кацялок. У вайну хата згарэла, бацька загінуў, а нас у мамы было трое. Мама адна кідалася і вучыць нас не давучыла. Я кінула школу, пахадзіла толькі да палавіны шостага класа, а тады паехала ў Мінск на будоўлю. Тады яшчэ пашпарта не давалі, не было мне 18 гадоў. Мяне там паставілі печкі тапіць. Ну то зімой я печкі тапіла, а летам раствор падвозіла, па дробязі, што магла. Год адпрацавала, а тады мама кажа: разлічвайся, праца цяжкая. Я калі капейку нейкую зараблю, то ўсё маме аддавала, каб пакупляла ўсім нам на ногі. І брат, і сястра ўжо памерлі. Калі жыла ў Рудні, то таксама працавала на будоўлі, там ужо і выйшла замуж. Потым пераехалі з мужам на яго радзіму ў Котава Бярэзінскага раёна, там працавала ў саўгасе. І на палявых парабіла, і даяркай больш за дзесяць гадоў».

А як атрымалася, што вясковая сям'я пераехала жыць у Барысаў? «Вечарам ішла з фермы, маланкі білі, ішла ў пацёмках, дык я паваліліся, як пярун забіў, і нагу зламала. Тады мяне гаспадар завёз у Беразіно, там наклалі гіпс, а праз нейкі час пабачылі, што нага няправільна пастаўлена. Трэба гіпс перакладваць, ламалі нагу зноў і ўпраўлялі. Амаль два месяцы ляжала дома, калі гіпс знялі, то яшчэ месяц хадзіць не магла. А большая дачка выйшла замуж у Барысаў, ▶



**Падзеі адбываліся побач з Шухаўскай вежай** — унікальным помнікам пачатку XX стагоддзя, адной з першых гіпербалоідных канструкцый у свеце.

яна кажа: "Мама, я вас забяру да сябе ў Барысаў, будзеце тут жыць". Забрала, перазімавалі. А потым кажу свайму гаспадару: калі не хочаш ехаць назад, то давай тут што купім. Набылі гэтую халупу. Такое жыццё цяжкае. Пражыла, як і не было нічога», — расказвае Надзея Ісакаўна.

## Маёр Карташоў: Электрапробка ляцела проста на мяне

### У хату гаспадары не пускаюць

Клімашонкі жылі ў хаце, якая належала мужу дачкі Тамары Сяргею Собалю. Гэтую хату ён купіў за грошы, якія зарабіў у Сібіры, калі ездзіў туды працаваць. Зусім нядаўна спадар Собаль памёр. Хата па-ранейшаму належыць іх сям'і. «Не прыязджайце, ні з кім гаварыць мы не будзем. Зноў хочаце, каб да нас паломніцтвы хадзілі?» — адказваюць па гарадскім тэлефоне і кідаюць слухаўку.

Непрыкметная вуліца Якуба Коласа знаходзіцца перпендыкулярна цэнтральнаму праспекту Рэвалюцыі і паралельна адной з найбуйнейшых вуліц горада — Чапаева. Побач — самы вядомы рэстаран Барысава «Каралеўскае паляванне», а ў іншы бок — Шухаўская вежа. Унікальны помнік пачатку XX стагоддзя, адна з першых гіпербалоідных канструкцый у свеце. Людзі адбудоўваюць тут вялікія прыватныя катэджы.

Але сам «дом з прывідамі», як называлі яго некаторыя мясцовыя, зусім не змяніўся. Драўляная хатка, да якой прыбудаваная цагляная веранда. У двары хлявы для жывёлы.

### Сведчанне міліцыі

Засталіся рапарты, якія складала міліцыя аб тых падзеях. Тагачасны начальнік Барысаўскага ГАУС Анатоль Шыбалка даўно пенсіянер. Ён узначальваў барысаўскую міліцыю ад 1986 года да 1995-га. Потым яго забралі ў Мінск у Міністэрства ўнутраных спраў. Вярнуўся назад у Барысаў у 2002 годзе, цяпер лечыць хваробы. «Я не магу сказаць, веру я ўва ўсё гэта ці не веру. Я магу толькі казаць аб тым, што я бачыў. Усё, што я бачыў, вы знойдзеце ў афіцыйных дакументах», — сказаў ён нам.

Што ж, ідзём знаёміцца з дакументамі. «15 чэрвеня 1988 года у 21:15 у дзяжурную частку Барысаўскага ГАУС паступіла паведамленне ад грамадзяніна Р. Я. Клімашонка аб тым, што ў доме, дзе ён пражывае са сваёй жонкай, адбываюцца таямнічыя з'явы, звязаныя з самаадвольным рухам розных прадметаў, якія знаходзяцца ў кватэры. Па дадзеным адрасе быў накіраваны нарад патрульна-паставой службы. Старшаму сяржанту міліцыі С. Шуляку і сяржанту В. Хрысталюбаву гаспадары заявілі, што на працягу апошніх дзён у доме незразумелым чынам перамяшчаюцца прадметы (абутак, кухонны посуд і г. д.), самаадвольна выкручваюцца ахоўныя пробкі з электралічыльніка і па прамалінейнай траекторыі з паваротам на 180° вылятаюць з хаты ў двор ці на вуліцу, скідаюцца пасцельныя рэчы з ложка, пераварочваецца "дагары нагамі" стол, падае, пры гэтым не разбіваючыся, трэльяж, адчыняюцца вокны, праз якія на вуліцу вылятаюць падушкі, коўдры, матрац і іншыя рэчы», — пачынаецца рапарт Шыбалкі.

Прымі нехта такі выклік сёння, то спісалі б усё на багатую фантазію гаспадароў, а таксама іх дзяцей. А тады да гісторыі паставіліся з поўным сур'ёзам.

Што было далей? Пратакол сведчыць, што міліцыянеры агледзелі пакоі, не знайшлі там нічога падазронага, як і не ўбачылі ніводнага чалавека, пасля чаго выйшлі да гаспадароў і суседзяў на веранду. А падчас размовы ў спіну суседкі прыляцеў чорны парасон, які міліцыянеры дакладна бачылі ў пакоі.

Даць гэтаму рады звычайныя сяржанты не змаглі, ім на падмацаванне быў выкліканы маёр Макарэвіч з Аддзела па барацьбе з крадзяжамі сацыялістычнай маёмасці (ОБХСС). Менавіта ён вывеў усіх людзей на вуліцу з хаты. Праз нейкі час з акна вылецела пробка з электралічыльніка. На той момант на вуліцы ляжала ўжо каля 20–30 такіх пробак.

Супрацоўнікі ОБХСС паведамілі пра здарэнне ў МУС Мінаблвыканкама і старшыні Барысаўскага гарвыканкама Сеграўцу. Калі ў хату прыехала дэлегацыя ў складзе начальніка гарадской міліцыі і «мэра» горада, то нічога падазронага яны не ўбачылі.

Але праз тры дні пасля званка ў міліцыю пробкі ўсё гэтак жа вылятаЛі на вуліцу, пераварочваўся трэльяж. Клімашонкі сталі заяўляць, што невытлумачальныя рэчы сталі рабіцца і ў двары дома. Сам сабой адмыкаўся цяжкі замок, адчыняліся дзверы, і свінні ўцякалі з хлява гуляць па дварах. Зрэшты, яшчэ праз некалькі дзён «палтэргейст» супакоіўся. Як мы ўжо згадвалі, Надзея Клімашонак тлумачыць гэта дзеяннем «лечанай» вады.

## «Не веру ў Бога, і ў гэта б не паверыла, каб не пабачыла»

Прыязджалі ў хату на Якуба Коласа і фізікі з Акадэміі навук, але таксама не змаглі знайсці адказаў. «Нават у такой, не зусім ардынарнай, сітуацыі людзі набіраюць “02”... Гэта лішні раз сведчыць на карысць аўтарытэту мясцовай міліцыі. Але, па-мойму, меў месца выпадак, калі вартавыя парадку былі бяссільныя», — пісала газета «Знамя юности» ў 1989 годзе.

Маёр Карташоў пасля згадваў, што пакой з электралічыльнікам замыкалі на ключ і нікога там дакладна быць не магло. Тым больш ні дзіця, ні дарослы не маглі без дапамогі крэсла далезці да лічыльніка. «Пробка ляцела проста на мяне. Я вырашыў пачакаць, яна ўпала проста ля маіх ног. Схапіў, думаў, што гарачая, але аказалася звычайнай тэмпературы», — згадваў ён.

Кажуць, што ўнукі Клімашонкаў таксама прысутнічалі пры гэтых дзіўных здарэннях, таму спісаць усё на іх гарэзлівасць было немагчыма.

Захавалася і сведчанне суседкі Клімашонкаў Ванды Андрыеўскай. Яна была ў барысаўскім падполлі ў часы вайны, сувязной партызанскай брыгады імя Сталіна, а пасля трапіла ў нацысцкі канцлагер у Асвенцім. «Я ні ў якія цуды не веру, у Бога — тым больш. Калі б Бог быў, то ён бы не дапусціў тых зверстваў, на якія я наглядзелася ў Асвенціме. Калі б я сама гэтага не пабачыла, то ў жыцці не паверыла б. Стаім мы з Надзеяй Ісакаўнай, размаўляем, як на дарожку за намі прылятае патэльня з блінамі ці каструля з супам. Табурэтка вылятала, лыжкі, качан капусты», — расказала Ванда Мацвееўна.

Навуковага абгрунтавання дадзенаму здарэнню знойдзена так і не было. Да развалу СССР заставалася ўсяго тры гады. Наўрад ці выпадкова, але менавіта ў такі пераломны гістарычны час людзі найчасцей пачынаюць верыць у розныя тагасветныя сілы, шукаць паратунку ў шарлатанаў і «народных лекараў». Барысаўскі выпадак цікавы і адметны тым, што ён быў дэталёва зафіксаваны супрацоўнікамі міліцыі, якія не ўспрынялі здарэнне як чыюсьці прыдумку.

А сёння адзін з суседзяў дома па Якуба Коласа кажа: «Не, у гэтым доме палтэргейста ўжо няма. А вось там ёсць, — паказвае ў процілеглы бок вуліцы. — Вунь хатка, яе гаспадары таму і прадаюць, што там палтэргейст завёўся». Вось так той даўні выпадак пачынае абрастаць зусім ужо неверагоднымі падрабязнасцямі. ◆

Вы просили рассказать

"Знамя юности"
15 марта 1989 г.

**Люди по-разному воспринимают необычные явления. Одни пытаются дать им научное объяснение, другие ударяются в мистику, верят в существование сверхъестественных сил. Третьи ничему не верят и все считают россказнями. Скажем сразу, ни ко вторым, ни к третьим авторы себя не относят. Но и научного обоснования пока «борисовский феномен» не получил.**

ХОЗЯЙКИ ДОМА не оказалось, а ее дочь встретила неприветливо. Любопытствующие, видимо, стали надоедать.

— Смотреть уже нечего, все кончилось, — сказала она.

Мы прошли во дворик. Дом как дом: бревенчатый, с палисадником, скамейкой и рябинами под окном. Никакого намека на что-то невероятное, таинственное.

— Ничего в эти дни не передвигалось, не летало? — переспросил сопровождавший нас капитан милиции В. Крапивко, заместитель начальника Борисовского городского отделения милиции по политчасти. С некоторых пор он здесь частый посетитель.

— Все спокойно,— сказала наша неразговорчивая собеседница.

Мы обогнули угол дома, подошли к воротам хлева. Капитан начал рассказывать:

— Вот это и есть замок, который самопроизвольно открывался. Посмотрите, какой он сложности: ключа к нему практически не подберешь. Хозяева сделали щеколду, но и она почему-то выпадала, и животные выходили наружу. Но это еще не все. Взгляните, из комнаты, где расположен электросчетчик, дверь ведет в прихожую и на веранду. Так вот, были дни, когда предохранительные пробки сами выворачивались по нескольку раз и летели, описывая самые невероятные траектории. Прежде чем упасть на улице или удариться в калитку, что было неоднократно, они дважды изменяли направление полета под прямым углом.

— Да, пролетали,— подтвердила дочь хозяйки. — И многие разбивались о бетон или дверь. Мы их в ведро складывали. Сейчас уже ни одной битой не осталось: все разобрали на сувениры.

—Кто-нибудь видел пробку в полете? — поинтересовались мы, не веря своим ушам.

— Да, видел, — сказал Валерий Павлович Крапивко. — Когда к нам поступил сигнал о таинственных явлениях в этом доме, сюда несколько раз приезжали наши сотрудники. Майор милиции Ю. Карташов сам наблюдал полет электропробки. В воздухе она изменила направление и упала к его ногам. Он еще потрогал, не горячая ли она. Вторая пробка тоже готова была лететь: уже наполовину отвинтилась. А ведь до этого Юрий Анатольевич собственноручно с усилием закрутил обе пробки.

Если бы такие, хочется сказать, небылицы рассказывались на рыбалке, мы бы, конечно, посмеялись.. Но это свидетельствовали должностные лица, как говорится, в официальной обстановке. Есть подтверждение домочадцев и соседей — очевидцев того, что в доме Н. Климашонок самопроизвольно перемещались вещи. Она могла, например, оставить у двери тапочки, а найти их разбросанными совершенно в другом месте. Или, отвернувшись, не обнаружить под рукой посуды. В зале и в соседней комнате много раз переворачивалась постель, вылетали в окно подушки, опрокидывался стол, падал, не разбиваясь, трельяж. Кстати, пробки начали вылетать еще зимой. Хозяева думали, что неисправен электросчетчик или с проводкой что-то неладно. Но их замена ничего не дала.

# БЫЛА ЛИ «НЕЧИСТАЯ СИЛА»?

## Еще раз о «борисовском феномене»

— Может быть, в доме кто-то очень ловко водит всех за нос? — мы снова попытались вернуть себя и капитана милиции в мир обыденных вещей.

— Такие предположения вначале были и у нас — ведь это, что называется, по нашей профессиональной части,— ответил он. — Но они отпали. Сам убедился, что вещи в этом доме способны самопроизвольно двигаться. Собственноручно установив на место трельяж, я обнаружил его через несколько минут лежащим на полу. Даже снимки сделал. В комнате в это время никого не было— в этом я удостоверился. С того момента загадочные явления стали интересовать меня не как работника милиции, а как физика по специальности.

**Прокомментировать это событие мы попросили белорусского ученого, члена-корреспондента АН БССР А. И. ВЕЙНИКА:**

Явление подобного рода специалисты назвали полтергейстом. В переводе с немецкого это означает «игра духов». Оно наблюдалось еще за несколько тысячелетий до нашей эры. Зафиксировано множество аналогичных случаев. Кстати, в 1982 году полтергейст был в Москве.

Конечно, дело здесь не в духах и «нечистой силе». Этим явлениям должно быть найдено строго научное объяснение. Согласно моей гипотезе, грубо говоря, есть тела, которые имеют очень малую массу. Они способны проникать сквозь землю, здания, металл. Примерами подобных сверхпроникающих частиц могут служить нейтрино, хрононы. Их массы в миллиарды раз меньше массы электрона. Так вот, подобные частицы, согласно моей гипотезе, образуют своеобразный мир, как бы параллельный нашему. Он обладает совершенно удивительными свойствами, одно из которых и проявляется в полтергейсте. В этом параллельном мире «правят бал» свои невидимые, но очень могучие силы. Наподобие наших электрических магнитов. Этих «невидимых», но вполне реальных сил достаточно для перемещения любых предметов.

Следует отметить интересную закономерность в действиях «невидимки». «Он», безусловно, выражаясь нашим языком, пакостник, но — мелкий. «Он» бьет посуду, вывинчивает пробки, стаскивает постели на пол... Но, обратите внимание, параллельный мир по-крупному не вредит человеку, не ставит под угрозу его жизнь. Впечатление такое, что он как бы постоянно заставляет о себе помнить, поверить в свое присутствие.

Почему полтергейст происходит именно там, а не где-нибудь в другом месте? Трудно ответить на этот вопрос. Видимо, в параллельном мире есть свои законы, на основании которых мы и сталкиваемся с этим явлением. Мне думается, именно в проявлении активности невидимых и неведомых пока нам сил и надо искать разгадку событиям в Борисове.

Я понимаю, что отношение к подобным явлениям у нас еще крайне скептическое. Хотелось бы сослаться на зарубежный опыт. В прошлом году Япония обнародовала крупномасштабный международный проект «Человеческие границы». Он оценен в триллион иен. К Японии присоединились США и Западная Европа. Как известно, капиталисты денег на ветер зря не бросают...

В. ВАСИН, И. МОСИН.



**Артыкул пра барысаўскі «палтэргейст»** у газеце «Знамя юности» за 15 сакавіка 1989 года.



П. АРЛОЎ

# Як мяняліся паштоўкі да 8 Сакавіка цягам стагоддзя

**Міжнародны жаночы дзень, 8 Сакавіка, першапачаткова меў палітычную афарбоўку, але з часам ператварыўся ў свята ўсіх жанчын незалежна ад узросту, статусу і прафесіі. Гэтая эвалюцыя вельмі добра прасочваецца па агітацыйных плакатах і віншавальных паштоўках, заўважыла кандыдат гістарычных навук Надзея Кушнер.**

### Як усё пачалося

Міжнародны жаночы дзень упершыню адзначылі ў 1911 годзе. Прыкладна мільён жанчын у Аўстрыі, Даніі, Германіі і Швейцарыі выйшлі на дэманстрацыі, патрабуючы выбарчага права. У наступныя два гады далучыліся жанчыны з Нідэрландаў, Швецыі, Венгрыі, Расіі. Даты спачатку былі розныя — ад апошніх дзён лютага да сярэдзіны сакавіка. А лозунгі мелі сваю спецыфіку ў залежнасці ад краіны, аднак галоўным заставалася патрабаванне выбарчага права для жанчын.

Адразу пасля Першай сусветнай вайны ў большасці заходніх краін жанчыны дамагліся сваёй мэты. Пасля гэтага папулярнасць Міжнароднага жаночага дня ў Еўропе зменшылася.

Іначай развіваліся падзеі ў Расійскай імперыі і на яе руінах. У 1917 годзе тут адбыўся самы «знакавы» жаночы дзень. 23 лютага (8 сакавіка па грыгарыянскім календары) у Петраградзе адбылася забастоўка жанчын з патрабаваннямі «хлеба і міру». Гэты дзень стаў пралогам Лютаўскай рэвалюцыі, у выніку якой імператар Мікалай II адмовіўся ад улады. Жанчынам пасля гэтага таксама было дадзена выбарчае права. Але гісторыя актыўнага адзначэння Міжнароднага жаночага дня на гэтых землях толькі пачалася.

Прыйшоўшы да ўлады, бальшавікі пачалі арыентаваць жанчын на працу па будаўніцтве новага ладу. Элементы «новага быту»: сістэма грамадскага харчавання (сталоўкі), сацыяльнага абслугоўвання (пральні, бібліятэкі), супольнага выхавання дзяцей (яслі і дзіцячыя садкі) — мусілі аблегчыць ім хатнюю працу. 8 сакавіка ператварыўся ў Міжнародны дзень работніц, праўда, застаючыся працоўным днём. Зрэшты, выхадных святочных дзён у тагачаснай савецкай краіне ўвогуле было вельмі мала.




Невядомы мастак. 1926 год. Жанчына на ранніх савецкіх плакатах — аскетычная, строгая, з выразнымі сацыяльнымі функцыямі. **Шэрая маса аднолькавых работніц ідзе да сваёй мэты пад сцягам Усерасійскай камуністычнай партыі.**




Хрэстаматыйны плакат Барыса Дзейкіна «**8 Сакавіка — дзень паўстання жанчын супраць кухоннага рабства**» (1932 год) адлюстроўваў выхад жанчыны з сямейнай сферы ў грамадскае жыццё.

У пачатку 1930-х у Савецкім Саюзе на поўную моц разгарнуліся індустрыялізацыя і калектывізацыя. Палітычная актыўнасць жанчыны адсунулася на другі план. Цяпер яе першай задачай стала нароўні з мужчынамі авалодаць новымі складанымі спецыяльнасцямі. **Жанчыны з плакатаў ужо не проста заклікаюць будаваць сацыялізм, а паказваюць працоўны прыклад.**




А. МЫТНІКАЎ-КАБЫЛІН




В. КУЛАГІНА




**Пра тое, што жанчына — гэта яшчэ і жонка, маці ды гаспадыня, у СССР успомнілі толькі падчас вайны.** У франтавых газетах загаварылі пра «мілых сяброўак», «верных жонак», «любячых маці», а ў савецкую ідэалогію ўвайшоў вобраз Радзімы-маці, якая кліча на фронт.

Пасля вайны вобраз савецкай жанчыны стаў больш складаным і шматгранным. Яна і аднаўляе разбураную краіну, і адначасова нараджае новых грамадзян.

На плакатах Ніны Ватолінай жанчына паказана як медыцынская сястра, жняя, працаўніца завода і адначасова маці.

У 1944 годзе быў прыняты ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР пра ўзнагароды для шматдзетных маці: медаль Мацярынства, ордэн «Мацярынская слава», ганаровае званне і ордэн «Маці-гераіня». У наступныя гады гэтыя ўзнагароды не раз малявалі на святочных паштоўках да 8 Сакавіка.




І. ШЭВАНДРОНАВА

Пасля смерці Сталіна ідэалогія пачала адступаць з прыватнага жыцця. **Ідэя мацярынства як абавязку перад Радзімай дапаўняецца ідэяй мацярынства як неад'емнай часткі жаночага шчасця.** Пачынаюць шанавацца не толькі маці-гераіні, але і простыя, звычайныя маці, якія прымаюць віншаванні ад сваіх дзяцей. А гераічны вобраз жанчыны-маці ўсё больш саступае свае пазіцыі паказу простага мацярынскага шчасця.




С. ВОЛКАЎ




Т. ГРУДЗІНІНА




І. СЯМЁНАЎ




У. ЗАРУБІН




М. САЛАЎЁЎ

**У 1950-я яшчэ захоўваўся і традыцыйны вобраз жанчыны-работніцы ды жанчыны-сялянкі.** Калі яна прымае віншаванні, то робіць гэта на працоўным месцы: на заводзе, на будоўлі, у калгасе. Свята для яе — выдатны спосаб прадэманстраваць ударную працу і дасягненне высокіх паказчыкаў.




Г. БЕДАРАЎ

У 1960-я адбылася рэвалюцыя ва ўспрыманні 8 Сакавіка. Па-першае, савецкая жанчына ўжо не мусіла быць выключна работніцай альбо сялянкай. На святочных паштоўках можна пабачыць ужо і настаўніц, і дактароў, і спартсменак, і спявачак, і балерын. З'яўляюцца на іх і зусім новыя прафесіі, такія як жанчына-касманаўт. Па-другое, з 1965 года гэты дзень стаў у Савецкім Саюзе афіцыйным выхадным. Паступова свята распаўсюдзілася на бабуль і дзяўчынак. **Міжнародны жаночы дзень са свята работніц стаў святам усіх жанчын, незалежна ад узросту і статусу.** Па-трэцяе, з'явілася традыцыя сямейнага святкавання. На паштоўках сталі з'яўляцца і мужчыны, якія разам з дзецьмі рыхтавалі падарункі для жонкі і маці.



Г. КРЭЙДЗІК



П. АРЛОЎ

**У 1960-я на паштоўках з'явіліся кветкі.** Прычым паштоўка з кветкамі стала ўжо дапаўненнем да падарунка, а не самастойным знакам увагі. Усесаюзным сімвалам Міжнароднага жаночага дня ў СССР была мімоза. У 1960-я яе сталі прывозіць з Абхазіі, і купіць мімозу на 8 Сакавіка было найпрасцей. Хоць былі, натуральна, і іншыя кветкі.



У. ФОКІН



А. КАШКУРЭВІЧ, Б. ЗАБОРАЎ


В. БАРЫСАВА



У. ЦЯРЭШЧАНКА



«КОМСОМОЛЬСКАЯ ПРАВДА»



Л. ВОЛЬСКІ

У большасці дзяржаў постсавецкай прасторы Міжнародны жаночы дзень дагэтуль застаецца дзяржаўным святам. І асноўны сімвал яго — кветкі. **На змену палітычным і сацыяльным лозунгам прыйшлі заклікі купляць сувеніры, касметыку, адзенне, упрыгажэнні, посуд, бытавую тэхніку.** Прычым падарункі да свята з сімвалічных ператвараюцца ва ўсё больш дыхтоўныя і дарагія.

## Драўляны канструктар, які дзед навучыўся рабіць у Германіі

# Сувенір остарбайтара



**Піша настаўнік гісторыі з Камянеччыны Аляксей Шумер.**

Да вайны дзед нават у Берасці не бываў. А тут яго, 17-гадовага юнака, вывезлі ажно ў Германію. Працаваць на нацыстаў. Як такую «вандроўку» перажываў малады хлопец, можна толькі здагадвацца.

У памяці засталіся гарады Моэрс, Камп-Лінтфарт. Такім непаўналетнім, як Пятро, нацысты дапісвалі адзін-два гады і адпраўлялі працаваць у каменнавугальныя шахты. Хто старэйшы — у глыб, маладзейшых — на верх. Хлопец стаў счэпшчыкам ваганетак.

Працаўнікі жылі ў бараках, працавалі ў дзве змены па 8–12, а то і больш гадзін, пакуль не выконвалі сваёй нормы. Дачка аднаго з лагерных камендантаў узгадвала: «Лагер заўжды асвятлялі пражэктары. Я не баялася хадзіць па лагеры. Стомленыя мужчыны ляжалі на сваіх нарах альбо моўчкі стаялі групкамі».

Што было ў жыцці працаўнікоў, акрамя цяжкай працы? Атрымаўшы мізэрную плату, скідваліся і куплялі бочачку цёмнага піва, яно было таннейшае і не п’янкое, — яго бралі з сабой у шахту замест вады. Нехта знаходзіў час для майстравання з падручных матэрыялаў. Праз шмат гадоў, вярнуўшыся ў родную вёску, Пятро змайстраваў сувенір, якому навучыўся ад аднаго рускага «калегі» па прымусовых працах.

**Атрымаўшы мізэрную плату, остарбайтары куплялі бочачку цёмнага піва і бралі з сабой у шахту замест вады**

Такая галаваломка збіраецца з некалькіх асобных драўляных частак, але мусова ведаць «сакрэт» зборкі. Калі адсекчы частачку адной дэталі, якая выступае, то можна сабраць усю канструкцыю, а затым незаўважна цвічком прымацаваць назад адсечанае.

* * *

З дзяцінства я прызвычаіўся да гэтых, як дзед казаў, «шышак», а дарослым даведаўся іх гісторыю. Такія сувеніры, зробленыя маім дзедам, сёння я захоўваю дома як памяць. Памяць пра цяжкі лёс майго продка і мільёнаў іншых людзей.

4 красавіка 1945 года мясцовасць у Германіі, дзе ён працаваў, занялі амерыканскія войскі. Нарэшце, надышло вызваленне. Дзеда чакала дарога на радзіму, у Гароднікі (па-мясцоваму *Городныкы*).

На занятай амерыканцамі тэрыторыі пачаліся рабаванні і забойствы — гэта нашы чысцілі цывільных немцаў, *грабылы на мур* (у сэнсе — да голых сцен забіралі ўсё). Калі ў вёску заходзілі 2–3 марадзёры — вызваленыя ваеннапалонныя і остарбайтары, — немцы ўключалі сірэну, а амерыканцы да гэтага і справы не мелі. Калі пазней «рускія» выязджалі, успамінаў дзед, немцы *вклякалы* — уклякалі, на каленях дзякавалі Богу, што тыя нарэшце ад’язджаюць.

Многіх нашых палонных, якія вярталіся дадому, Сталін прыбіраў да рук, саюзнікі пра гэта

ведалі. Яшчэ да вызвалення Пятро з сябрам дастаўлялі возікам правіянт былым палонным амерыканскім салдатам і, вядома ж, мелі з імі кантакт. Калі амерыканцаў забіралі з Германіі санітарныя машыны, адзін кіроўца прапанаваў паехаць з імі, але хлопцы адмовіліся: «Не, мы дадому». «Яшчэ ўспомніце! — адказаў кіроўца. — Сталін шмат нявінных людзей замучыў».

Пятра перапраўілі ў савецкую зону, але дадому не адпусцілі — усіх хлопцаў ва ўзросце да 27 гадоў сталі рыхтаваць да мабілізацыі. Да восені іх заганяюць у лагер і рыхтуюць на Японскі фронт, але неўзабаве з'яўляецца інфармацыя, што Японія капітулявала, і хлопцы вернуцца на Радзіму. Далей гэтых людзей перавезлі ў Берасце «студэбекерамі» (амерыканскімі машынамі) па 25 чалавек у машыне (а ўсяго мясцовых везлі 2,5 тысячы).

Машыны сталі каля Мухаўца, хлопцы ў кансервавых бляшанках пачалі варыць бульбу, якую накапалі каля Познані. *«Я думаю: "Вжэ блызько до дому", за рюкзак — і пуйшов»*. Дзед папрасіўся пераначаваць у адным доме, а на раніцу вырашыў паглядзець, ці стаяць яшчэ машыны. Машын не было. Невядома, куды павезлі астатніх остарбайтараў.

У Брэсце на вакзале хлопцу сказалі, што наступны цягнік на Лышчыцы будзе толькі вечарам. Часу было шмат, і ён, здарожаны, лёг адпачыць. Ён вёз з сабой вайсковы плашч — падарунак амерыканскага салдата — і ручны гадзіннік. А калі прачнуўся — *«вжэ ныц нэ було»* [ужо нічога не было]. Прыйшлося ісці пешкі, а ў Матыкалах — сяле на поўнач ад Брэста — быў тады пагранічны контроль. Шлагбаум, каля яго пагранічнік. *«Я іду: будь шчо будэ. З кышэні мого пінжака торчала гожа розчоска. Погранічнык мні кажэ: "Слушай, подари расчёску". "Пожалуйста" — мусыв подарыты. Пуйшов далій, алі коб не йты ніччу (а то моглы б погранічныкы злапаты), пырыночував в знакомых в Сычах, і хутко вжэ був вдома. Там побачыв тыко но матэра, батько вмэр в 1943 році од якэйісь хворобы»*.

* * *

Такі чалавек, які пабываў у немцаў, быў першым кандыдатам на «добраахвотна-прымусовыя работы». Прымушалі вазіць сваёй падводай лес з Белавежскай пушчы. Едучы аднойчы праз вёску Відамля, даведаўся, што там праводзяць «шмон». Органы шукалі «злачынца», які павесіў на помнік Сталіну торбу з конскімі экскрэментамі.



**Пятро Сідарук** на фоне барака для рабочых-прымусоўцаў.

А ў 1947 годзе дзеда і іншых сабралі ў мястэчку Высокае, але ўначы хлопцам удалося ўцячы. У 1949 годзе зноў сабралі: усе думалі, што ў войска, а адправілі іх у Ленінград для атрымання рабочай спецыяльнасці. Пасля прымусовай вучобы выпраўлялі на прымусовыя працы: тых, хто не быў у Германіі, маглі пакінуць у Ленінградзе, а былых остарбайтараў адпраўлялі ў Карэлію, на кар'ер, або як майго дзеда — нарыхтоўваць лес. Праца была цяжкая, хоць плацілі нядрэнна. У родную вёску хлопцу дазволілі вярнуцца толькі праз некалькі гадоў. Я дзіваваўся, як праз 70 гадоў пасля гэтых падзей мой дзед, Сідарук Пятро Дзям'янавіч (1925–2015), заўжды вёў аповеды спакойна, нібыта ўсё тое і не з ім здарылася.

Час прытупляе перажытыя пачуцці. ◆




**Падчас выдачы ежы рабочым** адной з шахтаў. 1942 год.

# АПОШНІ ВАМПІР

Частка 2

Аўтар сюжэта **Андрэй Скурко**
Мастак **Філіп Какоша**




















ТЫМ ЧАСАМ ЛЁНЬКА ВЯРТАЕЦЦА НА ЗАВОД.

ГЭТЫ АФІЦЭР... СКУЛЬ ЖА Я ЯГО МАГУ ПАМЯТАЦЬ?

О, ЗНОЎ КАГОСЬЦІ ПАВЕЗЛІ... ЦІ ЗА КІМСЬЦІ ЯШЧЭ ЕДУЦЬ...

ЗА КІМСЬЦІ...

РАПТАМ ЁН ПАЧЫНАЕ ПРЫГАДВАЦЬ... ХАТА БАЦЬКОЎ, 1938 ГОД...

РУДЗІЦКІ, АДЧЫНЯЙЦЕ! МЫ ВЕДАЕМ, ШТО ВЫ ТАМ!

ГЭТА ЯНЫ! ПА МЯНЕ ПРЫЙШЛІ... ХУТЧЭЙ СХАВАЙ ЛЮДВІКА! Я ПАЙДУ ДА ІХ...

УНАЧЫ ПРЫЙШЛІ, ЯК ЗЛАДЗЕІ... ШТО Ж ГЭТА...

ЦЫЦ!

МАМА, ХТО ГЭТА? ДЗЕ ТАТА?

СЫНКУ, СЯДЗІ ТУТ, ПАД АКНОМ, І МАЎЧЫ, МАЎЧЫ, АНІ ГУКУ! МЫ З ТАТАМ ХУТКА ПРЫЙДЗЕМ!

ШКАДА, ШТО ТЫ НЕ ХАЦЕЎ БЫЦЬ З НАМІ...

ЛЕПЕЙ СМЕРЦЬ!

ПАЧАКАЙ, НЕ ТАК ХУТКА...

НУ, У МАШЫНУ! ДАВАЙ, РУШ!

А ДЗЕ ІХ ШЧАНЮК? ЗНАЙДЗІ ЯГО!

ТАК, ТАВАРЫШ ЛЕЙТЭНАНТ!

МАМА, ТАТА... ХУТЧЭЙ БЕГЧЫ, БЕГЧЫ АДСЮЛЬ!!!


... ДЫК ГЭТА ЁН! ЁН ТАДЫ ЗАБІРАЎ МАІХ БАЦЬКОЎ!..
ГЭЙ, ПАЦАН, ТЫ КУДЫ? ТУТ ЛІЦЕЙКА! ПАБЛЫТАЎ ЦІ ШТО?

ПАГЛЯДЗІ, БРАТВА! ДЫК ТЫ ШТО, НЕ ЗДОХ, ШАСЦЁРКА?!

НУ ЎСЁ, ХАНА ТАБЕ!!!

СІЛЫ НЯМА ТРЫВАЦЬ ГЭТАГА БЛАТНОГА БРЫГАДЗІРА! ПАЧАСТУЙ ЯГО ГАРАЧЫМ ЧЫГУНОМ!

ААААААААА!!!!

ГА-РЫМ!!!
УЦЯКАЙЦЕ, ХОДУ, ХОДУ АДСЮЛЬ!!!
ААААА

НА ШУМ ПРЫБЯ-ГАЕ АХОВА...
СТРАЛЯЦЬ! НА ПАРАЗУ! УЦЯКУЦЬ ЖА!!!
ШУХЕР!!! ВЯРТУХАІ!!!

ХУТЧЭЙ, ХУТЧЭЙ... ТОЛЬКІ Б НЕ ЗАБІЛІ, ТОЛЬКІ Б...

ХУТЧЭЙ СЮДЫ, ХЛОПЧА! ЗА МНОЙ! ТУТ ЁСЦЬ БЯСПЕЧНАЕ МЕСЦА!

ЧАМУ ВЫ МНЕ ДАПАМАГЛІ?
НЕ ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО ЎДЗЯЧНЫ ТАБЕ ЗА РАТАВАННЕ МАЙГО ЖЫЦЦЯ ТАДЫ, У ЛІЦЕЙЦЫ...ЧАСУ МАЛА, ТАМУ ПАСЛУХАЙ МЯНЕ ВЕЛЬМІ ЎВАЖЛІВА... Я ВЕДАЎ ТВАЙГО БАЦЬКУ!


ВЫ ВЕДАЛІ МАЙГО БАЦЬКУ? АДКУЛЬ?
ЯГО ЗВАЛІ АНТОН РУДЗІЦКІ.
МЫ ПРАЦАВАЛІ РАЗАМ У ІНБЕЛКУЛЬЦЕ, У АКАДЭМІІ НАВУК. МЫ ВЫВУЧАЛІ БІЯЛАГІЧНЫЯ ЎЛАСЦІВАСЦІ ВАМПІРАЎ...
КАГО?!
ВАМПІРАЎ... ІХ ШМАТ НАЎКОЛ, З ЧАСАМ САМ НАВУЧЫШСЯ БАЧЫЦЬ...
ВЫ ТРЫЗНІЦЕ – ВАМПІРАЎ НЕ ІСНУЕ!
ТЫ – ТАКСАМА З ІХ!


ТАК, ЦЯЖКА ПАВЕРЫЦЬ. АЛЕ ЎЧОРА СІВЫ ДАЎ ТАБЕ НАЖОМ У СЭРЦА. ЧАЛАВЕК БЫ ПАСЛЯ ГЭТАГА НЕ ВЫЖЫЎ... ТЫ ВАМПІР, ПРЫЧЫМ ПРЫРОДЖАНЫ. ТЫ МАЦНЕЙШЫ ЗА ЛЮБОГА ЧАЛАВЕКА. І БАЦЬКА ТВОЙ, АНТОН, БЫЎ ВАМПІР, І ДЗЕД...
АЛЕ Я ЖЫЎ, ЯК УСЕ – І АДЗЁР У МЯНЕ Ў ДЗЕТДОМЕ БЫЎ, І ЧАСОТКА. І РАНІЎСЯ Я НЕ РАЗ...
АЛЕ НЕ ПАМІРАЎ. ПАСЛЯ ТАКОГА СТРЭСУ Ў АРГАНІЗМЕ ПРЫРОДЖАНАГА ВАМПІРА ЗАПУСКАЮЦЦА ПРАЦЭСЫ... ТЫ ПАЧНЕШ МЯНЯЦЦА, НЕ ЗДЗІЎЛЯЙСЯ. БУДЗЕШ БОЛЕЙ БАЧЫЦЬ, ГЛЫБЕЙ АДЧУВАЦЬ...


ТОЛЬКІ НЕ ПІ КРОЎ! НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ НЕ ПІ КРОЎ, ЧУЕШ?
ЧАМУ НЕЛЬГА ЯЕ ПІЦЬ?
БО ПАКУЛЬ НЕ ЗМОЖАШ СПРАВІЦЦА З ТЫМ, ШТО АДБУДЗЕЦЦА!
А ІНШЫЯ П'ЮЦЬ?
ІНШЫЯ – НЕ ТАКІЯ. З ПРЫРОДЖАНЫХ ТЫ МО АПОШНІ Ў СВЕЦЕ. АСТАТНІЯ – НАВЕРНУТЫЯ, ІХ ПАКУСАЛІ - І ЯНЫ ЗРАБІЛІСЯ ВАМПІРАМІ... МНОГІЯ ПАДДАЮЦЦА СПАКУСЕ: ЯК СТАНЕШ ВАМПІРАМ, ПЕРАСТАЕШ ЗАЎВАЖНА СТАРЭЦЬ, ХВАРЭЦЬ, АДЧУВАЦЬ БОЛЬ І ЗГРЫЗОТЫ СУМЛЕННЯ... ТРЭБА ТОЛЬКІ ЎВЕСЬ ЧАС ПІЦЬ КРОЎ... УВЕСЬ НКУС АБСАДЖАНЫ НАВЕРНУТЫМІ, НА КОЖНЫМ ЗАВОДЗЕ, У КОЖНАЙ КАЛГАСНАЙ БРЫГАДЗЕ СЯДЗІЦЬ СТУКАЧ-ВАМПІР...


ТРЭБА СКАЗАЦЬ СТАЛІНУ! СТАЛІН ЖА НЕ ВЕДАЕ! ЁН У НЕБЯСПЕЦЫ!
МЯНЕ ЗАЎТРА ПАКЛІКАЛІ Ў НКУС, АБЯЦАЛІ РАСКАЗАЦЬ ПРА БАЦЬКОЎ...
СТАЛІН – ТАКСАМА ВАМПІР... ЗВЫЧАЙНЫ ВАМПІР...
ГЭТА ПАДМАН, ЯНЫ ТВАІХ БАЦЬКОЎ І ЗНІШЧЫЛІ, БО АНТОН НЕ ЗАХАЦЕЎ ІМ ДАПАМАГАЦЬ... ЦЯПЕР ПАСПРАБУЮЦЬ ЦЯБЕ ВЫКАРЫСТАЦЬ... УЦЯКАЙ ПРОСТА ЗАРАЗ, ІНАЧАЙ... ЗАПОМНІ: ХУТАР ЛЕСНІКІ, НАЛІБОЦКАЯ ПУШЧА. ТАМ ЖЫВЕ МАЯ СЯСТРА НАСТА. ЕХАЦЬ ТРЭБА ЦЯГНІКОМ, ПАСЛЯ ПЕШКІ, СПЫТАЕШ ДАРОГУ Ў ВАЛОЖЫНЕ НА КІРМАШЫ – ТОЛЬКІ НЕ Ў МІЛІЦЫЯНТА. НАСЦЕ СКАЖАШ: ВАСІЛЬ ЦЫТРЫНА ПРАСІЎ КЛЮЧ АД КУФЭРКА. ЗАПОМНІЎ?
ТАК!


ДЗЯДЗЬКА ВАСІЛЬ, ВАС ПАРАНІЛІ...
ТАК, АЛЕ ГЭТА УЖО НЕ ВАЖНА... НАСЦЕ МОЖНА ДАВЯРАЦЬ. У ЯЕ МАЕ ПАПЕРЫ, НАШЫ З АНТОНАМ ДАСЛЕДАВАННІ. Я ПАСПЕЎ ЗРАБІЦЬ КОПІІ – ПАЧЫТАЙ... І ЯШЧЭ: ТЫ НЕ ЛЁНЯ, ЛЮДВІКАМ ЦЯБЕ... ЗАВУЦЬ...


ПЫТАННІ ПАТРАБАВАЛІ АДКАЗАЎ, І ЛЁНЬКА-ЛЮДВІК У СКРЫНІ ВАГОНА ВЫЕХАЎ З МІНСКА Ў КІРУНКУ ВАЛОЖЫНА...

# ФРАНЦЫСК

## СОН

*Сюжэт: Андрэй Скурко*
*Малюнак: Антаніна Пашкевіч*

У 1536 БІСКУП ЯН ПАКІНУЎ ВІЛЬНЮ.

Я ад’язджаю ў Познань біскупам. Паедзеш са мной?

Не, дзякуй.

Як знаеш. Хоць мы і пасварыліся, прыемна было з табой працаваць. Прабач, калі што не так.

Бог дарує. Бывайце.

Падкажыце, пане, як прайсці да Прачысценскай царквы?

Ідзіце проста гэтай вуліцай… Вой, што з вамі?

У ВІЛЬНЮ ПРЫЙШЛА МАРАВАЯ ПОШАСЦЬ.

Які гарачы. Ён хворы!

Сымонка, сынок, сёння на двор гуляць не ідзі.

Ну тата…

А дзе мама?

На кірмашы.

А вось і ты! Давайце вячэраць.

Штосьці нездаровіцца… Пайду прылягу.




Усё з рук валіцца…
Тата, нам ліст прынеслі.
«…ад караля чэшскага і венгерскага Фердынанда… запрашаю доктара Францыска ў Прагу, садоўнікам у батанічны сад, нядаўна мною створаны…»


Паедзем, Сымон. Пабудзем у Празе, пакуль пошасць не скончыцца, а там бачна будзе.
Малому будзе карысна абстаноўку змяніць. Ды і мне таксама…


АБМІНАЮЧЫ МЯСЦОВАСЦЬ, АХОПЛЕНУЮ ПОШАСЦЮ, ЯНЫ ПАВЯРНУЛІ НА ЎСХОД.
Што гэта за места наперадзе?
Менск!
Спынімся ў карчме.


Ну што, доктар Францыск? Чаго ты дасягнуў? Хаты няма, грошай таксама, кніжкі твае нікому не трэба… З'едзеш – і ніхто цябе тут не ўспомніць.


500 ГОД
праспект Францыска Скарыны
praspiekt Francyska Skaryny


Уф! Прымроіцца ж такое! Хіба так можа быць?


Я не развітваюся!
Канец.

# Наша Пластыляндыя

**Прыгоды ў Ледавіковым перыядзе**



Першабытныя слімакі прыцягнулі Танаку да вялікага будана.
Ён быў абкладзены скурамі, біўнямі ды косткамі жывёлін.




































Бабуля-слімачка была вельмі старой і вельмі разумнай.

Вы парушылі старажытны закон гасціннасці. Вы пакрыўдзілі госця. І таму агонь продкаў пакінуў вас.

Але што нам цяпер рабіць?

Яна павяла слімакоў да старажытных малюнкаў.

Нашыя продкі расказалі, што прыйдзе час холаду і цемры. Але Вогненны Слімак выратуе нас!

Ратуй нас, Вогненны Слімак!

Але як здабыць агонь?

Танака высякаў іскры крэменем...

Бац!

Ён цёр палачкі, каб яны загарэліся...

Але нічога не атрымалася.

Мне трэба знайсці свой заплечнік. У ім ляжаць запалкі.

Што такое запалкі?

М-м-м... Гэта такія чароўныя палачкі. Яны дапамогуць запаліць агонь.

Мы пойдзем з табой, Вогненны Слімак!

Танака і воіны-слімакі выправіліся на пошукі.

Аўтар: Алесь Кудрыцкі

Працяг будзе...

www.tanaka.by

# Смаленскія мядзведзі, невядомае фота паўстанца, гарохавая каўбаса...

**У наш час з'явілася ўнікальная платформа — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць расслабіцца, выказаць смелыя здагадкі і падзяліцца знаходкамі. У гэтай рубрыцы — пераказ некаторых цікавых запісаў і дыскусій на гістарычныя тэмы ў інтэрнэце.**

## Самалёт-кінатэатр, самалёт-кавярня

Паэт **Віктар Жыбуль** змясціў у фэйсбуку фота канца 60-х гадоў з уласнага архіва — самалёт-кінатэатр, што стаяў раней у парку Горкага. «У самалёце быў невялікі экран і крэслы ў два шэрагі», — удакладняе Жыбуль. «Па бартавым нумары СССР-84591 можна даведацца, што перад тым, як "асесці" ў Менску (восень 1963 года), самалёт эксплуатаваўся Заходне-Сібірскім упраўленнем грамадзянскай авіяцыі і адлятаў роўна 15 гадоў. А вось ці памятае хто-небудзь, да якога года ён дастаяў?» — запытаўся пісьменнік у публікі.

«Яго не стала ў пачатку 70-х», — узгадалі людзі і адразу ўспомнілі пра іншыя мінскія самалёты тых часоў: «Хто памятае самалёт-цір на задворках вул. Каліноўскага, каля д. 48?»

«Акрамя самалётаў у парку і на "Усходзе", быў яшчэ адзін — у Курасоўшчыне».

«Стаяў і ў Брэсце Іл-18, пасля яго вывезлі ў музей у Баравую».

**Ігар Краснасельскі** адзначыў, што ў Мінску такіх самалётаў было ўсяго сем. А па ўсёй Беларусі — у парках, садках, школах, піянерлагерах — іх усталявалі каля 30-ці.



## Смаленскія мядзведзі

Кнігазнавец, пецярбургскі беларус **Мікола Нікалаеў** часта публікуе ў фэйсбуку цікавыя бібліятэчныя знаходкі. Нядаўна ён падзяліўся этнаграфічнай паштоўкай пачатку ХХ стагоддзя з выявай беларусаў Смаленшчыны і суправадзіў яе жартам: «Даўней усё іначай было! Кожны трэці смаленскі беларус быў мядзведзем!» Паштоўка выйшла ў серыі «Народы Расійскай імперыі».




Цікава, што, нягледзячы на русіфікацыю ХХ стагоддзя, з вуснаў насельніцтва заходняй часткі Смаленскай вобласці дагэтуль можна пачуць беларускі дыялект.

Смаленск цесна звязаны з нашай гісторыяй: некалькі стагоддзяў Смаленшчына ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, і менавіта ў Смаленску 1 студзеня 1919 года была абвешчана БССР. Пра супольнае мінулае і цікавосткі гэтага рэгіёна чытайце ў наступных нумарах «Нашай гісторыі».

## Суп-каўбаса

У гэтым месяцы народ таксама хіхікаў з навіны пра тое, што 31 снежня 2018 года нямецкая фірма «*Knorr*», вядомая супамі-канцэнтратамі, спыніла выраб «гарохавай каўбасы» — супу, які выпускалі без перапынкаў з 1889 года.

«Не думаў, што такое было папулярна ў акопах», — смяецца адзін каментатар.

«Так і не пакаштаваў. Як цяпер жыць?» — нехта ў роспачы. Цікава, што стагоддзе таму прамысловасць прапаноўвала нашым продкам айчынныя аналагі «Кнору». Напрыклад, у 1916-м у Расійскай імперыі прадавалася гарохавая каўбаса «Эканамічная». «У халодным стане з хлебам замяняе масла. Падсмажаная дае смачную страву. Вараная ў вадзе — дае смачны і спажыўны суп». Беларусам адчуць смак аднаго з любімых супоў Еўропы дапамагае лідскі гарохавы брыкецік — дзякуй богу, яго пакуль яшчэ выпускаюць.










Гарохавую «каўбасу» фірмы «Knorr» **спажывалі ў акопах Першай сусветнай і на пікніках у 1930-я...**

## Так рабілі старыя фоты

Усе калі-небудзь бачылі такія міжваенныя здымкі: людзі ідуць па вуліцы, злоўленыя ў аб'ектыў нібы выпадкова. Гродзенскі журналіст **Руслан Кулевіч**, аўтар кнігі «Горад адзін, успаміны розныя» з аповедамі пра міжваеннае Гродна, выставіў у фэйсбуку такі здымак музыканта Уладзіміра Малашкі. «У той час было папулярным фатаграфаваць тых, хто праходжваецца па тратуары, — заўважыла **Таццяна Лаўрыновіч**. — Мне здаецца, што гэта было вельмі складана зрабіць пры той тэхніцы».

Загадку разгадала гродзенская фатограф **Наталля Дораш**: «На цэнтральных вуліцах працавалі фатографы, здымалі мінакоў, потым выдавалі ім на хаду візітоўку з адрасам фотастудыі. Праз некалькі дзён людзі прыходзілі ў фотастудыю, глядзелі надрукаваную мізэрную "кантрольку", і калі ім падабаўся здымак, замаўлялі яго ўжо паштовачнага памеру і некалькі штук».

## Невядомае фота паўстанца

Адкрыццем падзяліўся краязнавец **Кастусь Шыталь**: «Знайшоў у адным выданні фота скульптара і паўстанца Генрыка Дмахоўскага, зробленае каля 1860 года. Дмахоўскі — унікальны чалавек. Нарадзіўся ў Забалоцці на Браслаўшчыне (Мёрскі раён). Удзельнічаў у трох вызвольных паўстаннях — 1831, 1848, 1863. Паміж паўстаннямі жыў у Злучаных Штатах, там займаўся скульптурай, і бюсты ягонай работы стаяць ва ўрадавых будынках у Вашынгтоне. Падчас апошняга паўстання ў 1863 годзе, на чале атрада паўстанцаў, загінуў у баі каля маёнтка Парэчча на беразе возера Мядзела (Медзадзол) у Докшыцкім раёне. Пахаваны там жа, на ягонай магіле стаіць традыцыйны для гэтага мікрарэгіёна каменны крыж. А здымак гэты я нідзе раней не сустракаў».

«У мяне дачка вучылася ў Аўстрыі ў горадзе Куфштайн... Было цікава даведацца, што ў замку гэтага невялікага гарадка сядзеў пад аховай Дмахоўскі — зямляк з Браслаўшчыны», — дзеліцца **Мікалай Паўловіч**.

«Кастусь, шчыры дзякуй. Для мяне гэта вельмі важна, у тым ліку і асабіста, а не толькі навукова», — піша археолаг **Максім Чарняўскі**, адзначыўшы, што прысутнічаў пры перапахаванні Дмахоўскага і антрапалагічнай экспертызе парэштказ. Археолаг апісаў магілу паўстанца: «Каменны крыж у галаве. Навокал — крывіцкія курганы. У магіле спачывае разам з невядомымі паплечнікамі — юнаком і маладым мужчынам. Гэх, ведаць бы, хто яны».



Courtesy of Col. J. Galadyk, Wilejka, Poland.

HENRY DMOCHOWSKI-SANDERS.
Photograph, circa 1860, in the possession of the family.



«Дарэчы, у ЗША, здаецца ў Дэтройце, стаіць беламармуровы 14-метровы помнік Казіміру Пулаўскаму (стваральніку амерыканскай кавалерыі), якраз працы Генрыха Дмахоўскага. Яшчэ Дмахоўскі працаваў разам з французкімі дойлідамі над саркафагам Напалеона Банапарта!» — расказвае **Аляксандр Гарбуль** і прапануе сабраць сродкі на помнік-бюст на магіле паўстанца.

Каму належаў здымак? Жонка і дзеці паўстанца памерлі яшчэ пры яго жыцці, у Амерыцы. На фота ёсць надпіс па-англійску: «Ласкава нададзена палкоўнікам Я. Галадыкам. Вілейка. Польшча». Тут жа краязнаўцы выявілі, што Ян Галадык з 1935 па 1939 год быў камандзірам палка Корпуса аховы пагранічча «Вілейка». Якраз гэты полк займаўся захаваннем памяці пра Дмахоўскага: выдалі брашуру аб ім і збіраліся паставіць новы помнік на магіле, ды да верасня 1939-га не паспелі.

Даведацца больш пра лёсы паўстанцаў 1863-га можна ў №2 «Нашай гісторыі» за 2018 год.




## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 786
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Правільная кніга» (вул. Куйбышава, 13, каля рынку)

«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

**Падпісны індэкс 00469**